*Пралетары ўсіх краеў, злучайцеся!*

# Рэвалюцыйная Законнасьць

№ 1-2 (11-12). | 1928 г. | 2-гі год выданьня.

## АБ ПЕРАМЕНЕ НАЗВЫ ЧАСОПІСІ.

Роўна год[illegible]ік вышла ў сьвет наша часопісь. Сягоньня мы выпушчаем 11—12 нумар. Галоўная мэта, якую паставіла часопісь— гэта дапамога працаўнікам юстыцыі, судова-зямельных органаў, выканаўчых камітэтаў і сельсаветаў у азнаямленьні з пытаньнямі права, правядзеньні рэвалюцыйнай законнасьці і ў правільным вырашэньні ўзьнікаючых у практыцы пытаньняў.

Наша часопісь, як пісаў Народны Камісар Юстыцыі т. Сэгаль у перадавіцы 1 нумару, павінна была выклікаць шырокую зацікаўленасьць не толькі сярод адных судовых працаўнікоў, але і зямельныя працаўнікі, супрацоўнікі міліцыі, працаўнікі выканкомаў таксама павінны лічыць яе сваею.

На старонках нашай часопісі патрэбна дзелавая крытыка нашага заканадаўства з боку судзьдзі, міліцыянэра, працаўніка выканкому, з боку кожнага працаўніка нашай Рэспублікі, выяўленьне шляхам зносін цераз друк недахопаў нашага закандаўства і прыняцьце мер да іх адхіленьня.

Назва „Весьці НКЮ“ неадпавядае тым шырокім задачам, каторыя пастаўлены былі перад часопісьсю. Зьмест мімавольна выходзіў за граніцы таго кругу, які акрэсьлен гэтай назвай. Перад рэдакцыйнай калегіяй паўстала задача прывесьці ў адпаведнасьць назву часопісі з яе зьместам.

Таксама на далей часопісь не павінна насіць ведамственага характару. Яна павінна прасьледваць практычныя задачы і служыць жывой сувязьзю між цэнтрам і пэрыфэрыяй, чаму павінен зьмяшчацца такі матар'ял, які прадстаўляе жывую практычную цікавасьць. Усякага роду справаздачны матар'ял па ведамству юстыцыі, ведамственыя інфармацыі і інш. павінны быць або зусім адхілены са старо[illegible] часопісі або знаходзіць там месца толькі ў невялікай колькась[illegible] сувязі з гэтым Калегія НКЮ знайшла неабходным замяніць і [illegible] назву часопісі, пераіменаваўшы яе ў „Рэвалюцыйную законна[illegible]

**Рэдакцыйная Калегія**

## ПОШТА—ТЭЛЕГРАМА. (ППАДЗПУ БВА г. Менск)

Калегія Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР і Найвышэйшы Суд БССР шчыра вітае ўсіх працаўнікоў АДЗПУ з 10-ці годзьдзем слаўнага існаваньня ЎНК—АДЗПУ.

Дзесяць гадоў назад пераможная рабочая кляса пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, па ініцыятыве Ўладзіміра Ільліча ЛЕНІНА ўтварыла дзяржаўны орган—орган клясавай расправы з усёй контр-рэвалюцыяй, спэкуляцыяй і сабатажам. За гэтыя дзесяць гадоў УНК высока трымала чырвоны штандарт Кастрычніка і ахоўваючы дыктатуру пралетарыяту штодзённа стойка і бязупынна адбівала ўсе напады замежнай і ўнутранай контр-рэвалюцыі.

За дзесяць гадоў свайго існаваньня ў гэтай ўпартай барацьбе НК—АДЗПУ паклала шмат гэраічных ахвяр, але-ж, ня гледзячы на гэта, аб яе ўпартасьці і рэвалюцыйную моц разьбіваліся і разьбіваюцца ўсе хвалі контр-рэвалюцыі.

У ўмовах Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі, дзе меліся бандыцкія шайкі і шпіёны замежнай контр-рэвалюцыі ПП АДЗПУ зрабіла вялікую работу, яна, ня гледзячы на ўсе цяжкасьці, аслабаніла Рэспубліку ад бандыцкіх шаек і цяпер зорка сочыць за кожным крокам контр-рэвалюцыі.

Дарагія таварышы! Міжнародны вораг ня сьпіць. Міжнародная контр-рэволюцыя рыхтуе новы наступ на Савецкі Саюз. Адсюль задачы АДЗПУ яшчэ больш рашуча весьці барацьбу з усялякай буржуазнай прыхвасьню, адсюль вялікія патрэбы зоркасьці і дбайнасьці работнікаў АДЗПУ.

Калегія НКЮ і Найвышэйшы Суд БССР вітае Вас выражаючы надзею, што АДЗПУ таксама слаўна справіцца з узкладзенымі на яе Чырвоным Кастрычнікам задачамі, якія-б яны ня былі.

**Няхай жыве 10-ці годзьдзе АДЗПУ—сьвята рабочай клясы міру.**
**Няхай жыве Камуністычная партыя—кіраўнік клясавай барацьбы.**
**Няхай жыве сусьветная рэвалюцыя!**

Народны Камісар Юстыцыі **М. Сэгаль.**
Намесьнікі Народнага Камісара Юстыцыі **С. Гохман і С. Эднэрал.**
Члены Калегіі НКЮ **Міхайлаў і Судакоў.**
Ч. в. аб. Пам. Пракурора Рэспублікі **А. Кігарысаў.**
Час. вык. аб. Старшыні Найвышэйшага Суду БССР **Несьцер.**
Старшыня Грамадзянскай Касацыйнай Калегіі Найвыш. Суду **Зыбко.**
Члены Найв. Суду: **Баранаў, Шапіра, Новікаў, Штаер і Канакоцін.**

23 сьнежня 1927 г.

## ДЗЬВЕ ГАДАВІНЫ.

Дзьве слаўныя гадавіны! Два юбілеі, аб якіх павінен ведаць кожны рабочы і селянін нашае краіны, аб якіх павінны памятаць і ўсе мы, працаўнікі фронту Рэвалюцыйнай законнасьці.

Сьвяткуе сваю слаўную гадавіну ДПУ—ЧК! Прайшлі гады, у працягу якіх няўхільна з дня ў дзень у страшэнных умовах пад націскам ворагаў, пад цяжкімі ўдарамі з па-за межаў і з унутры, што час адсякаючы рукі ворагаў, імкнуўшыхся схапіць за горла рабоча-сялянскую краіну—ДПУ чэсна выканала абавязак, ускладзены на яе воляй Партыі і Ураду.

Створаная ў час, калі вораг вогненым колам ахапіў нашыя краіны, калі контр-рэвалюцыя на грошы замежных імпэрыялістых і пад іх кіраўніцтвам уздымала бунт супроць рабочае клясы, калі ад рукі наймітаў капіталістых падалі адзін за адным лепшыя барацьбіты за справу працоўных, за справу ўсясьветнае рэвалюцыі ДПУ—ЧК, гэты

орган „рэволюцыйнае расправы“ адразу-ж, з першых дзён свайго існаваньня, моцна сьціснуў тых, хто спадзяваўся задушыць Кастрычнік! І з тэй пары, не шкадуючы сілы, не шкадуючы, нават, жыцьця, захоўваючы свае слаўныя традыцыі і сьмела кідаючыся ў упартую бойку, стаіць ДПУ на варце заваёвы Кастрычніка. Не пералічыць колькі цяжкіх страт панесла яна, колькі маладых, бадзёрых поўных энэргіі таварышоў паклала ДПУ за справу пролетарыяту, за справу Кастрычніка, і ня дарам ўсясьветная контр-рэвалюцыя ня можа без шалёнства, нават успамінаць гэтую ЧК!

Дзеля капіталістых, дзеля тых, хто ідзець супроць нас, ЧК—ДПУ страшэнныя літары! яны ёй сеньня напамінаюць і „Таганцавых“ і „Дэмакратычных цэнтраў“ і „Савінкавых“ і „Далгарукавых“ і шмат усіх іншых, якіх яны даслалі, якіх яны арганізавалі, якіх яны трымалі ў нас за свой кошт—гэта іх капіталістычныя страты, але гэта адначасова і нашыя перамогі—гэта перамогі ДПУ—ЧК! і сеньня гэтаму „ударнаму“ атраду, гэтаму слаўнаму байцу за справы працоўных—рабочая клясса СССР аддае тое, што ён заслужыў, асабліва ў нас у БССР, у ўмовах, калі межы капіталістычнага сьвету штодзень нам напамінаюць аб сваім існаваньні.

Другі наш юбіляр—юбіяяр, які праз дзесяць год свайго існаваньня высока пранес Чарвоны штандарт, які ў Савецкай Беларусі сыграў не апошнюю ролю ў пабудове нашае Чырвонае краіны—гэта другі наш брат „па аружжу“—Рабоча-Сялянская Міліцыя.

Ня толькі ў змаганьні з крымінальнымі злачынствамі, ня толькі ахоўваючы рэвалюцыйны парадак, але побач з ДПУ наша Міліцыя вяла, прыносячы свае ахвяры, барацьбу, упартую, крывавую з дывэрсіённымі бандытамі, з усімі гэтымі „балахоўцамі“, „савінкаўцамі“ „монічамі“, „шаўчэнкамі“ і г. д.

Сёньня няма ўжо іх на Савецкай Беларусі! Бясслаўна загінулі яны, разьбітыя ў шчэнт... ДПУ, Міліцыя—вось тыя вартаўнікі, якія строжка сцяраглі працу рабочага і селяніна ад рукі злых ворагаў, і сёньня спакойна працуе рабочы ў станка, селянін за плугам, бо няма ужо тых, хто зрываў гэтую яго спакойную працу—няма тых, хто ноччу ўрываўся ў прыцішаае мястэчка, вёску, хто рабаваў, падпаліваў, забіваў!... Іх няма! І гэта заслуга нашых юбіляраў!

Вось чаму разам з працоўнымі ўсяго Савецкага Саюзу, мы працаўнікі Юстыцыі адзначаем гэтыя слаўныя дні. і упэўненыя, што і наперад высока будзе полымем гарэць Чырвоны сьцяг Рэвалюцыі і барацьбы ў руках юбіляраў, мы шлём ім наша гарачае, шчырае і братэрскае прывітаньне і гаворым:

Няхай жыве страх контр-рэволюцыі—моцная зброя рабочае клясы—гэройскае ДПУ!

Няхай жыве дбайны вартаўнік нашае краіны—Чырвоная Рабоча-Сялянская Міліцыя!

---

## АБ СЫСТЭМАТЫЗ. І КАДЫФІК. ЧЫННАГА ЗАКАНАД. БССР.

(Т Э З І С Ы*)

І. Дзесяцігодзьдзе Кастрычнікавае рэвалюцыі адзначаецца ў галіне заканадаўства напружнай працай па сыстэматызацыі і кадыфікацыі

*) Выкладаючы свае думкі па кадыфікацыі і сыстэматызацыі заканадаўства дзеля кароткасьці ў відзе тэзісаў, лічу патрэбным адзначыць, што шэраг прапаноў (як напрыклад адзначаныя пад літ. З, 4, 5 п. УІІІ і інш.) фактычна былі прыняты заканадаўчымі органамі або КЗП. Сюды я аднак іх уношу для аб'яданьня ў вадным месцы ўсіх мерапрыемстваў як правадзімых, так і мною прапануемых, з тым, каб мець поўны плян работы на бліжэйшы год. Ф. Г.

заканадаўства як паасобных саюзных рэспублік, так і Саюзу ССР. На працягу 2-ой паловы 1926 году і 1927 году ў шэрагу рэспублік перапрацаваны і перавыданы кодэкс: Шлюбны, Крымінальны, Крымінальна-Працэсуальны; значна дапоўнены і перавыданы кодэксы: Грамадзянскі і Грамадзянска-Працэсуальны. Распрацаваны, прыняты і зацьверджан Сэсіяй ЦВК БССР водна-мэлеарацыйны кодэкс; распрацаван у УССР і прынят Прэзыдыумам ВУЦВК—Адміністр. Кодэкс.

Апрача таго ў БССР, РСФСР, УССР прыступлена да сыстэматызацыі і кадыфікацыі ўсяго чыннага заканадаўства:

а) СССР: пастановай Саўнаркому Саюзу ад 19/УII—1927 году ўтворана кадыфікацыйная камісія (з удзелам прадстаўнікоў саюзных рэспублік) для складаньня „Зборніку чынных законаў СССР“. Камісія ў сучасны момант ужо працуе.

б) БССР: выдан у візде пастаноў ЦВК і СНК пералік законаў БССР за 1922—1924 г. г., страціўшых сілу да сучаснага моманту, пасьля чаго складзен Народным Камісарыятам Юстыцыі (па адд. заканадаўчых праэктаў) і выдан Зборнік чыннага заканадаўства БССР за 1921—1924 г. г., пры чым у зьмешчаных у гэтым Зборніку чынных законах адзначаны тыя асобныя праўныя нормы, знаходзячыяся ў гэтых законах, каторыя ўжо страцілі сілу.

в) РСФСР: згодна пастановы СНК ад 14/I г. г. Н. К. Ю. склаў пералік страціўшых сілу законаў РСФСР, выданых да I/I—1927 году, пры чым $3^{1}/_{2}$ тысячы законаў прызнаны фактычна страціўшымі сілу, звыш 3 тысячы. Н. К. Ю. разам з тым лічыць, што па зацьверджаньні пераліку на чарзе павінна стаць задача па перапрацоўцы паасобных актаў па аднаўленьні найбольш устарэлых з іх, што ў канчатковым ліку павінны прывесьці да складаньня сыстэматычнага зборніку чыннага заканадаўства РСФСР.

г) УССР: Падрыхтоўчая Камісія ў пасяджэньні ад 23-га мая 1927 году пастанавіла выдаць „Сыстыматычны зборнік чынных законаў УССР“ і распрацаваць шэраг кодэксаў, устанавіўшы дакладныя тэрміны выкананьня гэтай работы.

II. Гэта напружаная работа па сыстэматызацыі і кадыфікацыі заканадаўства прывяла некаторых дзяржаўных дзеячоў і юрыстых у розных савецкіх рэспубліках (асабліва ў УССР) да думкі аб выданьні зводу законаў рэспублікі.

III. Трэба аднак прызнаць, што у сучасны момант нельга яшчэ прыступіць да кадыфікацыі ўсяго заканадаўства ў цэлым, бо нельга лічыць мэтазгодным наданьне заканадаўству строгай, нягібкай формы зводу законаў тады, калі заканадаўства яшчэ ня досыць распрацована, мае шмат прабелаў і з кожным днём разьвіваецца і дапаўняецца.

IУ. Бяспрэчна ўсё-ж, што як у інтарэсах лепшага азнаямленьня з законамі і правільнага іх дапасаваньня, так і ў мэтах удакладненьня і разьвіцьця заканадаўства належыць *прыступіць да сыстэматызацыі праўных актаў па паасобных галінах права, а ў тых галінах, дзе гэта магчыма, то і да кадыфікацыі.*

У. Сыстэматызацыя не павінна насіць характар чыста тэхнічны, г. зн. зьмяшчэньне ўсіх актаў па аднаму пытаньню аднаго за другім з паказаньнем зьмен і дапаўненьняў і з растлумачэньнямі, даваемымі кадыфікатарамі па паасобных супярэчнасьцях у законах, як гэта мела месца ў складзеным у храналёгічным парадку „зборніку чынных законаў БССР“. Неабходна ў тых выпадках, калі стан за-

канадаўства па данаму пытаньню гэта дапушчае, прыступіць да аб'яднаньня гэтых актаў з зьнішчэньнем дробных прабелаў, калі яны сустракаюцца і ўстарэлых месц, як гэта напрыклад зроблена ў законе аб высяленьнях (З. З. БССР за 1927 г. № 12, арт. 42). Такія, з надворнага боку новыя, але па сутнасьці старыя законы павінны ў інтарэсах ускарэньня сыстэматызацыі заканадаўства праходзіць праз заканадаўчыя органы *ў спрошчаным парадку.*

УІ. Калі стаць на вышэй выкладзены пункт гледжаньня і прыняць пад увагу неабходныя патрабаваньні цяперашняга дню ў галіне заканадаўства рэспублікі, мы ў БССР *можам і павінны ставіць перад сабой наступныя рэальныя задачы:*

І. Прадоўжыць працу па выданьню зборніка чынных законаў БССР, выдаўшы „Зборнік чыннага законадаўства за 1925—1927 г. г." у хрыналёгічным парадку.

ІІ. Прыступіць да сыстэматызацыі чыннага заканадаўства БССР па наступнаму пляну (абмоўліваюся, што нельга даць строга вытрыманай сыстэмы заканадаўства, знаходзячагася *ў стадыі ўтварэньня будуючайся* краінай у *рэвалюцыйных* абставінах *пераходнага* пэрыяду.

І. **Дзяржаўны лад** (Канстытуцыя. Палажэньні аб вярхоўных, цэнтральных і мясцовых органах улады і акты беспасрэдна да іх прымыкаючыя, як „інструкцыя аб выбарах у саветы". „Палажэньне аб членах і кандыдатах ЦВК" і „аб парадку ўступленьня ў сілу законаў БССР" і г. д.

ІІ. **Заканадаўства па ўнутраному кіраўніцтву і адміністрацыі** (адміністрацыйны кодэкс, законы па адміністрацыйнаму дзяленьню, вэтэрынарны статут, ваенныя законы і г. д.)

ІІІ. **Гаспадарчае заканадаўства** (кодэксы: грамадзянскі, зямельны, лясны, жыльлёвы, шлюбны, вэксальны статут і законы, беспасрэдна прымыкаючыя да гэтых кодыксаў; законы аб прамысловасьці, гандлі, коопэрацыі і г. д.)

ІУ **Працоўнае заканадаўства**: (Кодэкс законау аб працы, дзейнічаючыя асобныя законы аб працы асобных катэгорый рабочых і служачых, як напрыклад, закон аб працы хатніх работніц. Заканадаўства па сацыяльнаму страхаваньню, законы аб дысцыплінарнай адказнасьці і г. д.).

У. **Фінансавае заканадаўства** (Палажэньне аб мясцовых фінансах, законы падатковыя і г. д.)

УІ. **Заканадаўства па культурнаму будаўніцтву** (дзейнасьць групы сацыяльна-культурных наркаматаў: законы па народнай асьвеце, ахове здароўя і сацыяльнаму забясьпячэньню).

УІІ. **Крымінальнае заканадаўства** Кодэксы крымінальны і папраўна-працоўны, амністыі).

УІІІ. **Заканадаўства па судабудаўніцтву і судаводзтву** (Палажэньне аб судабудаўніцтве, грамадзянска-працэсуальны кодэкс, Палажэньне аб арбітражнай камісіі пры Эканамічнай Нарадзе, аб камісіі па справах непаўналетніх і іншых спэцыяльных судох. Палажэньне аб натарыяце і г. д.)

У першаю чаргу выдаць Т 1 „дзяржаўны лад".

3. Распрацаваць і выдаць звод законаў па адміністрацыйнаму, кіраўніцтву або адміністрацыйны кодэкс.

4. Перапрацаваць і выдаць **новыя палажэньні аб цэнтральных і мясцовы органах улады** (ЦВК, СНК, Экан. Нарада, Дзяржплян, КЗП наркаматы, акрвыканкомы, райвыканкомы, сельскія, гарадзкія і местачковыя саветы).

5. Распрацаваць і выдаць **жыльлёвы кодэкс**, у каторым асярадкаваць усе нормы, якія рэгулююць утварэньне, эксплёатацыю і скарыстаньне жыльлёвай і зьвязанай з ёю няжыльлёвай плошчы.

6. З прычыны асаблівага значэньня каапэрацыі распрацаваць і выдаць **зводныя законы аб каапэрацыі** ўсіх відаў: спажывецкая, сельска-гаспадарчая, прамысловая, крэдытная (жыльлёвая каапэрацыя адыходзіць у жыльлёвы кодэкс).

7. Прыступіць да распрацоўкі кодэксу законаў аб народнай асьвеце.

8. Перапрацаваць кодэксы:

а) **Крымінальны***) у сувязі з агульна-саюзным заканадаўствам і некаторай зьменай карнай палітыкі у адносінах паасобных відаў злачынстваў.

б) **Крымінальна-працэсуальны***) (у сувязі з неабходнасьцю спрашчэньня працэсу).

в) **Грамадзянска-працэсуальны** (падлік вопыту 4-х летняга ўжываньня кодэксу пакідаючы асноўныя прынцыпы бяз зьмен).

г) **Зямельны** (перагляд і ўдакладненьне некаторых асноўных норм зямельнага заканадаўства і спрашчэньне земляўпарадчага працэсу).

д) **Лясны** (перапрацоўка разьдзелу аб лясох мясцовага значэньня норм аб водпуску лесу і г. д.)

УІІ. Пры кадыфыкацыі заканадаўства згодна літ. 3—8 папярэдняга пункту паставіць няпрыменнай задачай уключэньне ўсіх норм, якія тычацца данай галіны з адменай усіх заканадаўчых актаў, якія прымыкаюць да яе і чамусь-та існуючых па-за кодэксам. Гэта палегчыць насельніцтву знаёмства з заканадаўствам па таму ці іншаму пытаньню.

ІІІ. Пры выданьні новых законаў ставіць няпрыменнай умовай: І) у самым законе паказаць, якія раней дзейнічаючыя законы і часьці законаў страцілі сілу, 2) у самым законе або ў паасобных адначасова выданных запісаць тыя зьмены ў іншых законах, якія выклікаиы даным законам. Гэта вызваліць заканадаўца ад частага перагляду чыннага заканадаўства, а грамадзян ад памылковага разуменьня закону.

ІХ. Аднак і пасьля выкананьня зазначанай вышэй работы, наша заканадаўства нельга лічыць упаўне упарадачаным, калі ў бліжэйшы час ня будзе разьвязана пытаньне аб канчатковай уніфікацыі нашага заканадаўства. Неабходна ў самы кароткі тэрмін распаўсюджыць на тэрыторыі б. Гомельскага і Рэчыцкага паветаў Грамадзянскі, Грамадзянска-Працэсуальны і Крымінальна-Працэсуальны Кодэксы, а таксама ўсе астатнія законы БССР, спыніўшы адначасна чыннасьць законаў РСФСР.

Х. Зусім асобна стаіць пытаньне аб пастановах Эканамічнае Нарады БССР. Хаця ў арт. 5 Констытуцыі БССР сказана, што „ніякія іншыя органы апроч Усебеларускага Зьезду Саветаў, ЦВК БССР, яго Прэзыдыуму і СНК, ня маюць права выдаваць заканадаўчыя акты агульна дзяржаўнага значэньня на тэрыторыі БССР", аднак, згодна палажэньню аб Эканомнарадзе яна мае права выдаваць абавязковыя для выкананьня пастановы, якія датычацца да гаспадарчага жыцьця краіны. За годы свайго існаваньня Эканомнарада выдала шмат пастаноў, якія маюць вялікае значэньне. Некаторыя з іх асабліва за мінулыя гады нават і не апублікаваны. Абавязкова трэба

---

*) К. К. і К. П. К. ужо перапрацоўваюцца Н. К. Ю. Б. С. С. Р.

сыстэматызаваць і паасобна выдаць „Зборнік дзейнічаючых пастаноў Эканомнарады“.

XI. 1-га студзеня 1929 году мы будзем сьвяткаваць дзесяцігодзьдзе існаваньня БССР. Пажадана да гэтага тэрміну выканаць ўсё прапанованае. Тады да дзесяцігодзьдзя будзем мець вялікае дасягненьне ў галіне кадыфікацыі заканадаўства БССР.

10 лістапада 1927 г. *Ф. Гаўзэ.*

## АБ АРГАНІЗАЦЫІ НАВУКОВА-СУДОВАЙ ЭКСПЭРТ. У БССР.

Вельмі часта пры разглядзе судом заблытаных сумніцельных спраў, у каторых няма ў выстарчальнай колькасьці ясных улічэньняў, навукова-судовая экспэртыза іграе вельмі важную, а іншы раз і галоўную, ролю; суд кіруючыся апрача паказаньняў сьветак навуковымі данымі экспэртызы, з пэўнасьцю і дакладнасьцю ўстанаўліваючай датычнасьць падсуднага к учыненаму правапарушэньню, можа з асаблівай упэўненнасьцю і важнасьцю вынесьці сваё рашэньне.

Статыстыка і практыка сьледчага апарату, Крымінальнага вышуку і міліцыі паказвае, што толькі ў надзвычайна абмяжаванай колькасьці правапарушэньняў не застаецца ніякіх сьлядоў ад правапарушніка, якія маглі-б улічыць яго, у аграмаднай-жа большасьці выпадкаў учыніўшы правапарушэньне зусім няўмысьля, нярэдка выпадкова, застаўляе тыя або іншыя самага разнастайнага характару сьляды, каторыя часта вядуць да выкрыцьця правапарушэньня і яго ўдзельнікаў. Гэтыя сьляды здаюцца іншы раз нават не заслуговаючымі асаблівай увагі, але як паказвае вопыт крымінальнага справаводзтва, у працэсе судовага сьледзтва яны аказваюцца бясспрэчнымі навочнымі довадамі, якія паказваюць на пэўную асобу, як бясспрэчна ўчыніўшую провапарушэньне. Рэчавыя доказы,—кажа прафэсар Шыбкоў,—як сродак да шуканьня ісьціны ў параўнаньні з іншымі спосабамі і сродкамі зьяўляюцца самымі аб'ектыўнымі. Яны верныя сьветкі—на судзе ня маюць і не адступаюць ад сваіх першапачатковых паказаньняў, якія даны на папярэднім сьледзтве. Ні сьвядомасьць падсуднага, ні паказаньні сьветак ня маюць тэй ступені верагоднасьці, якая ўласьціва рэчавым доказам, гэтым нямым, але ў высокай ступені праўдзівым улічэньням правапарушэньня.

У дарэвалюцыйны час справа навукова судовай экспэртызы ў Расіі і, у прыватнасьці, у заходняй краіне ня была пастаўлена на належную вышыню. Крымінальнае судаводзтва, як правіла, прыцягвала для экспэртыз выпадковых экспэртаў, спэцыялістых ў тэй або іншай дысцыпліне навукі, мастацтва або рамяства, пры чым пры гэтай выпадковай экспэртызе ня было і гутаркі аб навуковым кантролі над экспэртызай. У прыватнасьці, судова-мэдыцынская экспэртыза рэчавых даказаў вытваралася ў ва ўрачэбных аддзяленьнях штатнымі фармацэўтамі, па службе ўваходзіўшымі ў склад Урачэбных Аддзяленьняў. Адказнымі юрыдычна за іх работу зьяўляліся ўрачы ўрачэбных аддзяленьняў—ўрачэбны інспэктар і яго памочнікі, у прысутнасьці каторых і павінны былі рабіцца досьледы. У сапраўднасьці кантролю амаль ніколі ня было. Урачэбныя аддзяленьні ня мелі ўласных лябараторый і досьледы фактычна рабіліся пры прыватных аптэках. Кантроль у сапраўднасьці нельга было ажыцьцявіць з прычыны складанасьці работы і працяжнасьці самога досьледу. Такім чынам у сапраўднасьці кантроль зводзіўся да простага падпісваньня акту досьледу, складзенага фармацэўтам. Пытаньне аб перадачы судова-мэдыцынскай экспэртызы рэчавых даказаў з рук фармацэўтаў у рукі ўрачоў ужо перад пачаткам вялікай вайны

было амаль канчаткова вырашана . Савецкая ўлада пакінула гэта права за ўрачамі, даючы апошнім спэцыяльную кваліфікацыю на спэцыяльных курсах.Казаць аб тым, што неабходна стараннае сыстэматычнае навукова-дасьледваньне рэчавых доказаў—значыць ламацца ў адчыненыя дзьверы. З самых першых крокаў Савецкай улады працаўнікі НКЮ і НКАЗ у цэлым шэрагу прац і дакладаў высоўваюць на першы плян арганізацыю навуковых установаў, якія ведаюць справай навукова-судовай экспэртызы, лічачы гэта адной з ударных задач, ажыцьцяўленьне якіх зьяўляецца жыцьцёва неабходным для інтарэсаў савецкага правасудзьдзя. У жыцьці гэта праяўляецца ў стварэньні, з аднаго боку, габінэтаў навукова-судовай экспэртызы, а з другога, цэнтральных і раённых судова-мэдыцынскіх і судова-хімічных лябараторый. У некаторых мясцох Севецкага Саюзу, як напрыклад, у УССР і тое і другое аб'ядноецца ў адзіныя інстытуты навукова-судовай экспэртызы з рознымі аддзяленьнямі.

Працаўнікамі юстыцыі даўно ўсьвядомлена неабходнасьць паставіць агульную судовую экспэртызу на строгі навуковы грунт і прыймаць толькі думкі экспэртаў, абгрунтаваныя на рэзультатах падрабязных навуковых досьледаў. Гэта неабходнасьць усугубляецца яшчэ і тым, што пры выпадковым выбары экспэртаў у ліку гэтакіх, як гэта паказвае практыка, могуць аказацца асобы ня маючыя належнай адукацыі. Для прыкладу можна ўзяць абшырны круг судовых памылак у справах параўнаньня подчаркаў і падробкі дакумэнтаў, адзначаных у спэцыяльнай літаратуры, у каторых ўся віна падае на нядосыць ведаючых справу экспэртаў. Гэтыя судовыя памылкі паказваюць, як вяліка значэньне навуковай экспэртызы ў гэтай справе. Падобныя факты ставяць перад юстыцыяй ударную задачу падняцьця судовай экспэртызы на належную вышыню і ўтварэньня спэцыяльных габінэтаў, дзе-б і вытвараліся гэтыя экспэртызы. Галоўнейшай практычнай задачай падобнага габінэту зьяўляецца служыць правасудзьдзю і ў першую чаргу аблегчваць цяжкую многагранную работу судова-сьледчага апарату. Падобныя габінэты па магчымасьці павінны ахапіць увесь круг судовай экспэртызы. Гэтым дасягаецца тое, што дазнаньню, сьледзтву і суду ня прыдзецца ў розных паасобных выпадках шукаць у розных установах адпаведнага данай справе выпадковага экспэрта і адначасна даецца магчымасьць ва ўсіх сустракаючыхся на практыцы выпадках зьвяртацца да аднэй установы —габінэту навукава-судовай экспэртызы. Апрача гэтаго, як зусім справядліва зазначае Kanger, падобная канцэнтрацыя ўсёй судовай экспэртызы прадстаўляе тую выгаду, што каштоўны казуістычны матар'ял, натуральным чынам накапліваючыйся ў падобных габінэтах разам з экспэртызамі, можа быць мэтазгодна выкарыстан для далейшага разьвіцьця навукава-судовай экспэртызы і крымінальнай тэхнікі. Апрача ўсяго гэтага пэрсаналу падобных установаў прадастаўляецца магчымасьць практычна азнаёміцца з шматразнастайнасьцю і разнабаковасьцю судовай экспэртызы ўзнаваць мэтады злачынцаў і іх псыхалёгію, г. зн. аглядаць усю крымінальную тэхніку і такім чынам паглыбляць свой вопыт у галіне крымінальна-тэхнічных досьледаў.

Калі мы цяпер зьвярнёмся к нашай рэчавістасьці, г. зн. да пытаньня аб пастаноўцы справы навукова судовай экспэртызы ў БССР, то павінны ўпаўне адкрыта і поўна прызнаць, што гэтакая ў сучасны мамант астаўляе жадаць шмат і шмат лепшага. Перш за ўсё, як паказвае практыка, не кажучы ўжо аб нарсудах—і акруговыя суды і Вярхоўны Суд пры крымінальным судаводзтве прыбягаць, як

да адзінага выйсьця да экспэртызы выпадковых экспэртаў. Для ўсякага паасобнага выпадку (гэта неадносіцца да спэцыяльнай галіны судова-мэдыцынскай экспэртызы) неабходныя экспэрты вышукваюцца па паасобных установах і ў абавязковым парадку выклікаюцца ў судовае пасяджэньне. Мэтад гэты стэры, аблюблёны ў дарэвалюцыйны час, як мы ўжо зазначылі—мэтад прымітыўны і па сваіх выніках часам сумніцельны. Пры падобным выбары выпадковых экспэртаў, як гэта штодзённа паказвае нам практыка і перад судом і яшчэ часьцей перад сьледчымі паўстае пытаньне: „куды-ж трэба накіраваць даны рэчавы доказ для дасьледваньня“? або „каго трэба запрасіць для вытварэньня данай экспэртызы“, а разам з гэтым пытаньне —„ці можна пакласьціся па заключэньне выпадкова выкліканай асобы?“ Мне асабіста не раз прыходзілася і ў Менску і ў акругах чуць ад прадстаўнікоў сьледзтва падобныя пытаньні і справядлівыя скаргі на цяжкое, а іншы раз (у акругах) безвыхаднае становішча народнага сьледчага. Пастараюся паясьніць гэта канкрэтнымі прыкладамі. Як вядома ў практыцы нашых судоў нярэдкі справы з падложнымі дакумэнтамі. Пры дасьледваньні падложных дакумэнтаў заўсёды трэба памятаць, што няўдалым прыёмам можна загубіць магчымасьць атрыманьня добрых вынікаў, якія маглі быць атрыманы пры правільнай мэтодыцы і якія неабходны сьледзтву. Уявім сабе, што для справы неабходна зрабіць аналіз чарніл, каторымі напісан даны дакумэнт, а таксама зрабіць досьлед іх даўнасьці куды (у якую ўстанову) павінен зьвярнуцца нарсьледчы за справаводзтвам таго досьледу.

Прыклад 2-гі: неабходна зрабіць досьлед паперы на прадмет індэнтыфікацыі яе з паперай дакумэнтаў, які маецца ў справе? Павінен прызнацца, што мне працаўніку БДзУ, добра знаёмаму з унівэрсытэцкімі і іншымі навуковымі ляборатарыямі Менску і БССР прышлося-б спрабаваць ня малую цяжкасьць перш чым адказаць на данае пытаньне. Становішча-ж нарсьледчага, што можна сабе лёгка ўявіць, яшчэ больш цяжкае.

Прыклад 3-ці: на месца забойства пры перша-пачатковым абглядзе знойдзена медная гільза з кляймом Remington або steuer. Па зразумелых матывах сьледчаму велімі важна ўстанавіць род огнестрэльнага оружжа, якое паслужыла прыладай сьмерці. Куды павінен зьвярнуцца працаўнік вышуку або сьледчы за вырашэньнем гэтага пытаньня?

Прыклад 4-ы: куды накіраваць для досьледу прадметы, на каторых маюцца адбіткі пальцаў рук і ног (не дактылёскопічнае).

Прыклад 5-ы: на месцы злачынства знайдзен зношаны галёш, прыналежачы па мяркаваньнях вышуку падазраваемаму ў забойстве грамадзяніну №. Адсюль запытаньне, каму павінен нарсьледчы накіраваць гэты галёш, каб атрымаць пэўны адказ — ці быў ношаны даны галёш гр. № і як доўга быў ношан даны галёш?

Апошні прыклад мною ўзят з жыцьця, а менавіта з практыкі Харкаўскага Інстытуту навукова-судовай экспэртызы. Выпадак гэты надзвычайна цікавы з пункту гледжаньня судовай экспэртызы і я дазваляю сабе коратка яго зачапіць. У студзені 1924 году г-н С. зайшоў у парыкмахэрскую, дзе па сканчэньні галеньня некаторы час прасядзеў там, вядучы размову з парыкмахерам. Дзён праз 5 пасьля гэтага, вечарам, у гэту-ж парыкмахэрскую ўвайшлі два невядомых грамадзяніна і ўсьлед за імі ўвайшоў гр-н С, скамандаваўшы „рукі ўверх“. У першых двух у руках былі рэвальверы, каторыя яны накіравалі на гаспадара парыкмахэрскай і яго жану; гр-н С. трымаў у

руках фінскі нож. Жана парыкмахэра падняла крык, і гр-н С. ударыў яе два разы нажом у сьпіну, пасьля чаго яна ўпала і схапіла за ногу гр-на С., каторы разам з другімі двумя рабаўнікамі кінуліся бегчы. У выніку ў руках пастрадаўшай аказаўся галёш з нагі ўцякаўшага гр-на С. Зьбегшыяся на крык суседзі, убачыўшы ўцякаючых рабаўнікоў, пачалі іх прасьледваць, пры чым адзін з жыльцоў прасьледваў гр-на С. да таго часу, пакуль той нясхаваўся ў адным з дамоў. Выкліканыя прадстаўнікі Кр. Вышуку і міліцыі знайшлі ў доме куды забег гр-н С. яго адзеньне, сам-ж гр-н С. схаваўся. Дзеяньнямі Кр. Вышуку высьветлена, што ў адзін з суседніх дамоў заходзіў якісь-та гр-н у аднэй бялізьне, аб'ясьніўшы, што яго толькі што абакралі і папрасіўшы даць яму што небудзь адзець; пасьля атрыманьня адзеньня,выходзячы, ён указаў месца куды ён ідзе, дзе і быў затрыман супрацоўнікамі Кр. Вышуку. Па дастаўленьні яго ў Кр. Вышук з яго быў зьнят правы бот, які разам з галёшам, узятым супрацаўнікам Вышуку, быў накірован у Інстытут навукова-судовай экспэртызы на прадмет ўстанаўленьня ці прыналежыць гэты галёш тэй асобе, з каторай зьнят бот і ці быў галёш ношан на гэтым боце. Экспэртыза была даручана супрацоўніку Інстытуту д-ру Н. Н. Бакарыусу, каторы пасьля доўгага дасканальнага досьледу мікра-лупамі, фатаграфічным мэтадам і мэтадам ізьмярэньняў устанавіў, што прысланая для досьледу частка абутку—правы галёш і правы бот знаходзіліся такі доўгі час ва ўзаемнай датыкальнасьці, што сьляды выштаячых шчыльных частак на аднэй з датыкаючыхся паверхняй далі стойкія адбіткі на адпаведных мясцох другой, сулежачай з першай паверхняй як на скурнай абсацы боту, так і на рэзінавым галёшы ўстаноўлена таксама працяжнасьць нашэньня. На падставе досьледу доктара Бакарыуса Інстытут Н. С. Э. даў заключэньне ў тым сэнсе, што падвергнуты дасьледу галёш быў ношаны на дасьледваным боце досыць доўгі прамяжутак часу і, значыцца, нясумненна прыналежыць гр-ну С. Па разглядзе справы ў судзе абвіняемы гр-н С. быў прысуджан да пазбаўленьня волі са строгай ізаляцыяй тэрмінам на 10 год з канфіскаваньнем маемасьці, пры чым настолькі каштоўна для суда былі вынікі зробленай экспэртызы відаць з таго, што судом было вынесена асобная думка аб значэньні навукова-судовай экспэртызы для вырашэньня справы гр-на С. Прыводжу цытату з пастановы суду: „У даным выпадку ў справе гр. С. экспэртыза іграла аграмадную ролю ў выкрыцьці ісьціны, бо зьявілася самай пераканальнай сьветкай учыненага злачынства, улічаючым злачынца і... суд пераканаўся, што на лаўцы падсудных сядзіць сапраўдны злачынца, хоць адмаўляючы свой удзел і даводжваючы сваё alibi; вынікам гэтага зьявілася вынесены абвінавальны прыгавор, асудзіўшы грамадзяніна С. да 10 год утрыманьня пад вартаю".

Я мог-бы прывесьці яшчэ не адзін дзесятак прыкладаў з практыкі Кр. Вышуку і сьледзтва, якія малююць вельмі цяжкае становішча супрацаўнікоў іх у пытаньні экспэртызы, але з прычыны недахопу месца абмяжуюся вышэй прыведзенымі прыкладамі. У гэтых адносінах БССР далёка асталася ад іншых Савецкіх Саюзных Рэспублік. Я ўжо і не кажу аб прыгожых абсталяваньнях па апошняму слову тэхнікі Інстытутах вялікіх заходня-эўрапэйскіх гарадоў як — Бэрліна, Мюнхэна, Вены і г. д. Нават такая мініацюрная буфэрная рэспубліка, суседка БССР, як Латвія мае асобны добра абсталяваны Інстытут навукова-судовай экспэртызы, які знаходзіцца ў Рызе ў будынку міністэрства юстыцыі ў спэцыяльна-адведзеным і абсталяваным памяшканьні, Інстытут гэты знаходзіцца ў веданьні пракурора

вярхоўнага (апэляцыйнага) суду рэспублікі і мае 4 спэцыяльных аддзяленьні, якія абслугоўваюцца кваліфікаванымі спэцыялістымі. Суседняя з БССР Саюзная Савецкая Украіна мае 3 прыгожа абсталяваных Інстытуты Н. С. Э., якія знаходзяцца ў Харкаве, Кіеве, Адэсе. Аўтар гэтага артыкулу меў магчымасьць абгледзіць адзін з гэтых інстытутаў, а іменна—Харкаўскі і Н. С. Э. Да рэчы павінен заўважыць, што ў Харкаве, як і Кіеве І. Н. С. Э. існуюць раўналежна з судова—мэдыцынскімі інстытутамі В. Н. У-оў. Прыгожа абсталяваныя лябараторыі, абшырна пышна арганізаваны найбагатшы музэй і падбор вопытных спэцыялістых вазглаўляемых заслужаным праф. Н. С. Бакарыусам—усё гэта разам зьяўляецца найкарысьнейшай установай для Украінскага суду і лепшай школай для працаўнікоў суду, сьледзтва, вышуку, а таксама судовых мэдыкаў. Інстытут знаходзіцца ў веданьні НКЮ УССР. Суд УССР ня раз выказваў сваю падзяку гэтаму інстытуту за неацанімыя паслугі па правядзеньню экспэртызы ў вельмі цяжкіх і заблытаных выпадках. Недахоп месца не дазваляе мне затрымацца на аналёгічных установах РСФСР, у сталічных а роўна ў буйных унівэрсытэцкіх гарадох, у каторай маецца цэлы шэраг спэцыяльных габінэтаў і інстытутаў адпаведнага тыпу. Што тычыцца пытаньня аб падпарадкаваньні ўстаноў навукова-судовай экспэртызы, то гэта пытаньне ў розных краінах разьвязваецца па рознаму. Напрыклад, у УССР згодна „Палажэньня аб габінэтах навукова судовай экспэрт. (глядзі Вісти ВУЦИК'а УССР ад 24 мая 1925 г. за № 116/1405)—габінэты навукова судовай экспэртызы падпарадкаваны НКЮ і знаходзяцца ў яго веданьні, пры чым агульны нагляд за апэрацыйнай дзейнасьцю габінэтаў ускладаецца на пракуратуру. У другіх мясцох падобныя ўстановы, у прыватнасьці судова-хімічныя лябараторыі падпарадкаваны органам НКЗ і нарэшце у некаторых мясцох вырашэньне пытаньняў навукова-судовай экспэртызы перадаецца судова-мэдыцынскім інстытутам Унівэрсытэтаў. Не прадвырашаючы пытаньня аб падпарадкаваньні падобнай установы ў БССР, мы мяркуем, што гэтакае пасьпяхова можа быць разьвязана зацікаўленымі (у ім) Наркаматамі, а іменна: НКЮ, НКУС і НКЗ, якія і нясуць выдаткі па аплаце адпаведных аддзяленьняў. Ва ўсякім разе пытаньне аб падпарадкаваньні ня можа мець прынцыповага значэньня, неад'емліваюча складанаю часткаю і. Н. Э. зьяўляецца паказальны музэй, які маеаграмаднае значэньне як для практычных мэтаў экспэртызы, гэтак і ў асаблівасьці для навучальных мэтаў. У нашых умовах утварэньне падобнага паказальнага музэю ў асаблівасьці пажадана. Слухачы школы міліцыі і вышуку, курсанты паўторных курсаў пры НКЮ, слухачы факультэтаў права і гаспадаркі, а таксама і судова-мэдыцынскія экспэрты могуць многае вынесьці і атрымаць з абгледжаньня і вывучэньня экспанатаў падобнага паказальнага музэю. Адна тэорыя, якая практыкуецца на вышэй азначаных курсах у сучасны момант, ня можа ніякім чынам даць сапраўднай практычнай падрыхтоўкі ў пытаньнях выбара, абгляду і напрамку, часта неабходнага ў інтарэсах суда рэчавых доказаў. Павінен з жалем тут адзначыць на адзін смутны, з пункту гледжаньня экспэртызы, звычай нашых судоў, а іменна, на тое, што рэчавыя доказы пасьля вырашэньня судовых спраў перадаюцца судом у Сабез для рэалізацыі іх. Павінен сказаць, што гэта практыкуецца толькі ў нас у БССР—у другіх мясцох яны перадаюцца ўстановам экспэртызы, бо яны зьяўляюцца вельмі навучальнымі экспанатамі ў паказальных музэях экспэртызы. Звычай перадаваць пасьля патрэбнасьці рэчавага доказу ў Сабез або зварочваць родзічам, хоць і мае

свой станоўчы філёнтрапічны бок, але па нашай думцы павінен быць выжыт.

Канчаючы наша папярэдняе кароткае паведамленьне аб арганізацыі навукова-судовай экспэртызы мы дазволім сабе зрабіць ніжэйнаступныя вывады:

1. Жыцьцё і практыка судова-сьледчай справы дыктуе неабходнасьць хутчэйшага ўтварэньня інстытуту навукова-судовай экспэртызы. Утварэньне падобнага інстытуту зьяўляецца ў першую галаву істотна неабходным для практычнага служэньня органам юстыцыі, а таксама для пэдагагічных мэт абучэньня будучых працаўнікоў дазнаньня сьледзтва і суду.

2. Пры падобным інстытуце, аналёгічна маючымся інстытутам у Саюзных Савецкіх рэспубліках зьяўляюцца пажаданым утварэньне сэкцыі (або аддзяленьняў):

1) Судова-хімічных і фізыка-хімічных дасьледваньняў;
2) Судова-мэдыцынскіх макра і мікраскапічных дасьледваньняў;
3) Судова-фатаграфічных дасьледваньняў;
4) Ідэнтыфікацыі асобы;
5) Дасьледваньні цела чалавека і
6) Вывучэньне асобы злачынца.

3. Надзвычайна пажаданым і жыцьцёва—неабходным зьяўляецца арганізацыя пры І. Н. С. Э. паказальнага музэю.

4. Дэталі арганізацыі і пытаньне падпарадкаваньня інстытуту могуць быць распрацаваны і вырашаны зацікаўленымі ў навукова-судовай экспэртызе наркаматамі, а менавіта НКЮ, НКУС і НКЗ.

**Д-р В. Ф. Чарвакоў.**

---

## АСОБНЫ ПАРАДАК НАСЬЛЕДВАНЬНЯ УКЛАДАУ АШЧЭДНЫХ КАС.

У мэтах максымальнага прыцягненьня ўкладаў у ашчадныя касы, заканадаўца ўстанавіў асобны ільготны парадак для пераходу гэтых укладаў у парадку насьледваньня.

Між тым навізна гэтага парадку з аднаго боку і незнаёмства з паказанымі вышэй ільготамі з другога, прыводзяць да значных непаразуменьняў на мясцох, якія вырашаюцца, у частокавасьці, шматлікавымі судовымі працэсамі, падымаемымі асобамі памылкова думаючымі свае інтарэсы або процівазаконна парушанымі.

Судовы-ж апарат на мясцох (па маючымся ў Галоўнай Управе Дзярж.-Працашчадкасамі зьвестках) ня досыць яшчэ цьвёрда прысвоіў асаблівасьці парадку насьледваньня ўкладаў ашчадных кас і судовыя рашэньні, вынасімыя на мясцох, часта проста супярэчаць закону (паст. ЦВК СССР ад 11-V-27 г. З. З. № 25, арт. 267.)

Мэтаю гэтага артыкулу і служыць унясеньне вычарпаючай яснасьці ў пытаньне аб парадку насьледваньня ўкладаў ашчадкас, з мэтаю папярэджваньня ўсякіх магучых узьнікнуць непаразуменьняў і сумленьняў.

* * *

Асобны парадак насьледваньня ўкладаў ашчадных кас устаноўлен у першыню палажэньнем аб дзярж. ашчадных касах ад 29-XII 1922 г. (Изв. от 29-XII № 291). Паводле арт. 17 гэтага Палажэньня (дзейнічаючага аж да 5-XII 1925 г., з якога чысла яно заменена новым, цяпер дзейнічаючым Палажэньнем) па сьмерці ўкладчыка, прыналежачы яму капітал з проц, выдаецца яго правапрыемнікам з захаваньнем парадку, устаноўленага чыннымі ўзаканеньнямі аб насьледваньні.

Аднак, тымжа палажэньнем дапушчаецца або (гл. той-жа арт. 17 Палажэньня) на выпадак сьмерці ўкладчыка выдача ўкладаў па распараджэньню, прадугледжанаму надпісам ўкладчыка. Такім чынам дзейнічаючым да 5/XII—1925 году Палажэньнем прадугледжалася дзьве формы пераходу ўкладаў па насьледваньню: адна з іх—насьледваньне па закону і другая—насьледваньне па тэстамэнтальнаму распараджэньню, асабістай форме тэстамэнту, учыняемай нефармальным парадкам.

Зварочваючыся да выпадкаў насьледваньня ўкладаў па закону знаходзім, што ўсе гэтыя выпадкі разьвязваюцца на дакладнай падставе арт. арт. 418—435 Грам. Кодэксу, чаму затрымлівацца на гэтых выпадках не прадстаўляецца неабходнасьці.

Зусім інакш рэгулюецца пытаньне аб выдачы ўкладаў па тэстамэнтальных распараджэньнях. Паводле сэнсу прыведзенага вышэй арт. 17 Палажэньня аб Дзяржаўных працоўных ашчадных касах 1922 г., выдача ўкладаў па тэстамэнтальных распараджэньнях (названым гэтым артыкулам „асобным надпісам“) можа быць зроблена як тым асобам, якія пералічаны ў арт. 418 Гр. Код., так і ўсякай іншай асобе, на карысьць якое ўчынен надпіс з загадам аб выплаце пасьля сьмерці.

Такім чынам ужо Палажэньне 1922 г. устанаўлівала для пераходу ўкладаў ашчадкас па тэстамэнтальных распараджэньнях выключэньня з правіл устаноўленых арт. 418 Гр. Код. РСФСР (і адпаведн. арт. Гр. Код. Саюзных Рэспублік) у адносінах кругу асоб, выклікаемых да насьледваньня і ўстанавіла прынцып, паводле якому тэстамэнтальнае распараджэньне, учыненае на карысьць асобы, хоцьбы і непрыналежачай да кругу асоб, выклікаемых па абедзьвюх падставах (па закону або тэстамэнту да насьледваньня), адсувае ўсіх астатніх насьледнікаў ад насьледваньня на ўклад. У адносінах-жа формы самога надпісу і парадку пасьведчаньня сапраўднасьці апошняй, заканадаўца адмовіўся ад усіх фармальнасьцяй, прадугледжаных арт. 425 Грам. Код.

Зусім інакш рэдагаван арт. 36—2-ага Палажэньня аб Дзяржаўных ашчадкасах пал. ад. 5/XII—25 г., г. зн. у тэй рэдакцыі, каторая дзейнічала да 28/IV—27 г.

Згодна гэтай рэдакцыі ўкладчыку давалася права асобнага надпісу на іменным укладным дакумэнце паказваць асоб, каторым павінен быць выдан уклад у выпадку яго сьмерці, „з захаваньнем устаноўленых агульнымі законамі правіл у адносінах разьмеру пераходзячай па спадчыне маемасьці і кругу асоб, дапушчаемых да насьледваньня“.

Па гэтаму тэстамэнтальныя распараджэньні, учыненыя на падставе гэтага артыкулу, г. зн. між 5/XII—25 г. 28/V—1927 г. падлягаюць выкананьню толькі ў тым выпадку, калі яны ўчынены на карысьць асоб, пералічаных у арт. 418 Гр. Код. і такім чынам ільготны характар такіх тэстамэнтальных распараджэньняў абмяжоўваецца толькі адсутнасьцю патрабаваньняў фармальнага характару (натарыяльнага ўчыненьня).

Нарэшце з 28/V г/г. рэдакцыя артыкулу 36 Палажэньня аб Дзяржаўных працоўных ашчадкасах, 1925 г. зьменены.

Гэты артыкул у новай рэдакцыі кажа:

„Укладчыку даецца права паказваць ашчаднай касе ў парадку ўстанаўліваемым НКФ СССР, асоб, каторым павінен быць выдан уклад у выпадкі сьмерці ўкладчыка, незалежна ад таго, ці ўваходзяць гэтыя асобы ў круг законных насьледнікаў (гл. паст. ЦВК і СНК СССР ад 11/V—27 г. З. З.—27 г. № 25 арт. 267.)

Новая радакцыя арт. 36 зноў, на гэты раз зусім вызначана, адраджае ільготу, дадзеную ўкладчыкам арт. 17 першага Палажэньня аб ашчадкасах 1922 г. Ад гэтага часу ўкладчык можа адпісаць свой уклад каму яму будзе пажадана незалежна ад таго, ці ўваходзіць будучы насьледнік у круг асоб, прадугледжаных арт. 418 Грам. Код., або не.

З выкладзенага вышэй ужо відаць, якія цяжкасьці ўзьнікаюць перад судовымі ўстановамі малазнаёмымі, з паступова зьмяняўшымі адно другога палажэньнямі аб дзярж. працашчадкасах. Аднак, і простага знаёмства з гэтымі Палажэньнямі невыстарчальна для правільнага вырашэньня спрэчак, узнікаючых пры іх ужываньні.

Далей мы пастараемся шляхам аналізу тыповых пытаньняў, узьнікаючых у практыцы ашчадных кас, намеціць тыя шляхі, па каторых павінны ісьці судовыя ўстановы пры разьвязваньні ўзьнікаючых, у сувязі з паказанымі пытаньнямі, спрэчак.

Грунтоўным пытаньнем, узьнікаючым пры дапасаваньні спэцыяльных норм спадчыннага права, дэкрэтаваных у адносінах ашчадных кас, зьяўляецца пытаньне аб сапраўднасьці тэстамэнтальных распараджэньняў, складзеных з парушэньнем устаноўленага законамі кругу асоб, заклікікаемых да наследваньня абедзьвюх падставах. Гэта пытаньне можа ўзьнікнуць у адносінах тых тэстамэнтальных распараджэньняў, якія былі складзены у пэрыяд часу з 5/VII—25 г. па 28/V—27 г., так і ў адносінах тэстамэнтальных распараджэньняў, складзеных да 5/XII—25 году нягледзячы на тое, што пры чыннасьці 1-го палажэньня 1927 году тэстамэнтальныя распараджэньні маглі быць ўчынены і на карысьць асоб, якія не ўваходзяць у круг насьледнікаў, прадугледжаных арт. 418 ГК.

Разьвязаньне вышэй паказаных пытаньняў павінна наступіць у адпаведнасьці з формулай, паводле якой момантам адкрыцьця спадчыны лічыцца сьмерць наступніка і згодна каторай гэтым іменна момантам і павінна вызначацца дапасаваньне таго або іншага закону аб насьледваньні (гл. растлумачэньне 3 Аддзелу НКЮ № 781 ад 7/VIII—23 г.)

Дапасоўваючы гэты прынцып да ўкладу ашчадных кас, мы знаходзім, што ў выпадку калі наступнік, склаўшы тэстамэнтальнае распараджэньне на карысьць асоб, не прадугледжаных арт. 418 ГК у пэрыяд часу з 29/XII—22 г. і па 5/XII—25 г. памёр у граніцах тых-жа тэрмінаў, то тэстамэнтальнае распараджэньне, пакінутае ім падлягае выкананьню. Калі-ж тэстамэнтальнае распараджэньне складзена ў той-жа тэрмін і ў адносінах тых-жа асоб, але сьмерць укладчыка наступіла ў пэрыяд часу з 5/XII—25 г. і па 28/IV -27 г., то гэта тэстамэнтальнае распараджэньне выкананьню не падлягае і суд, вырашаючы ў парадку арт. 428 ГК пытаньне аб насьледніках, павінен прызнаць, што да насьледваньня маюць быць закліканымі па закону, пры гэтым належыць памятаваць, што тэрміны прадбачаныя арт. арт. 430—433 ГК, да ўкладаў у ашчадных касах дапасаваньня звычайна ня маюць, бо прыняцьце мер аховы спадчынных укладаў зьява выключная; агульныя-ж даўнасныя тэрміны да ўкладных апэрацый дапасываньня, наогул, мець ня могуць.

Далей, калі тэстамэнтальнае распараджэньне на карысьць асоб, не прадбачаных арт. 418 складзена між 5/XII—25 г. і 28/V—27 г. і сьмерць тэстамэра наступіла ў той-жа пэрыяд часу, то тэстамэнтальнае рас-

параджэньне па выкладзеных у пачатку гэтага артыкулу падставах павінна быць прызнана не сапраўдным і да насьледваньня павінны быць прыцягнуты насьледнікі па закону (гл. тэкст. арт. 36 палажэньня аб ашчадных касах ад 5/XII—25 г.)

Складней вырашаецца пытаньне аб сіле тэстамэнтальных распараджэньняў на карысьць асоб, па прадугледжаных арт. 418 ГК калі яны складзены: а) у пэрыяд чыннасьці 1-га палажэньня, якое прызнавала законнымі такія тэстамэнтальныя распараджэньні і б) у пэрыяд чыннасьці палажэньня недапушчаўшага тэстамэнтальных распараджэньняў на карысьць такіх асоб і пры тым, калі ў тым, і ў другім выпадку, сьмерць насьледадальніка наступіла пасьля 28/IV—27 г., г. зн. у той пэрыяд, калі тэстамэнтальныя распараджэньні на карысьць паказанных вышэй асоб аказаліся зноў легалізаванымі.

У першым выпадку мы маем між двумя легальнымі момантамі прамежутак часу на працягу якога тэстамэнтальныя распараджэньні аб якіх ідзе гутарка, моцы ня мелі, чаму ўзьнікае пытаньне аб тым, ці мог новы закон аднавіць сілу тэстамэнтальных распараджэньняў, каторыя не прызнаваліся сапраўднымі папярэднімі яму законамі.

Другі выпадак прасьцей, бо ў самы момант учыненьня тэстамэнтальнага распараджэньня яно ўжо супярэчыла закону.

Пастаўленыя вышэй пытаньні вырашаюцца ў адпаведнасьці з вырашэньнем агульнага пытаньня аб прыродзе тэстамэнтальных рэспараджэньняў Тэстамэнтальныя распараджэньні, аб якіх ідзе гутарка ў гэтым артыкуле (і гэта як нельга лепей пацьвярджаецца тэкстам Паст. СНК ад 28/V—27 г. у якіх замест ранейшага права ўкладчыка складаць „Тэстамэнтальныя распараджэньні“ абмоўлена права яго паказваць касе асоб, якім павінен быць пасьля яго сьмерці выплачан уклад) зусім нельга індэнтыфікаваць з тэстамэнтамі.

У дарэвалюцыйны час такое адрозьніваньне было вельмі яскрава праверана і царскія ашчадныя касы называлі такія акты „ўмовамі“ на выпадак сьмерці ўкладчыка.

Арт. 50 Статуту дарэвалюцыйных ашчадных кас, (а таксама і статут загаду „общественного призрения“, паслужыўшага ў Расіі роданачальнікам ашчадных кас) гаворыць: „укладчык, пры ўнясеньні ўкладу, можа паказаць асобу або ўстанову, якой пасьля сьмерці яго ўклад павінен быць выдан.

Такім чынам па сэнсу паказанага вышэй артыкулу дарэвалюцыйнага статуту ўкладчык як быццам-бы заяўляў, што ён уносіць уклад толькі пад тэй ўмовай, каб гэты ўклад пасьля яго сьмерці быў выдан паказанай ім у ўмове асобе.

Прыймаючы, як самы ўклад, так і ўмовы па яму да выкананьня і замацоўваючы іх подпісам службовых асоб касы, касы ўступалі ў укладчыкам у камбінаваны дагавор хаваньня і даручэньне пасьмертнай перадачы па назначэньню ўклада. Гэты прынцып, прынцып дагаворны цалкам перанесен у новыя савецкія палажэньні аб ашчадных касах.

Між тым паводле арт. 30 Гр. Код. дагаворы, зьмяшчаючыя ўмовы супярэчачыя закону несапраўдны.

Па гэтаму і тэстамэнтальныя распараджэньні, складзеныя на карысьць асоб, не прадугледжаных арт. 418 ГК. у тый пэрыяд, калі складаньне такіх распараджэньняў ня было легалізавана, несапраўдны і не параджаюць для асоб, у іх указаных, ніякіх праў.

Гэтыя тэстэмэнтальныя распараджэньні акажуцца не сапраўднымі не залежна ад таго, што да моманту адкрыцьця спадчыны, (калі яно мела месца пасьля 2/V—27 г.), тэстамэнтальныя распараджэньні на карысьць асоб не памянёных у арт. 418 ГК ужо аказаліся лега-

лізаванымі, бо як гэта прызнана яшчэ з часу клясычныга рымскага права тое, што ганьбавана з самога зараджэньня (ab initio) ня можа ня быць ганьбуючым цалкам.

Наадварот тэстамэнтальныя распараджэньні ўчыненыя ў пэрыяд дзеяньня палажэньня аб ашчадных касах 1922 г. пры ўмове адкрыцьця спадчыны пасьля 28/V — 27 г. сапраўдны незалежна ад тэй акалічнасьці, што у пэрыяд часу між 5/XII—25 г. і 28/V—27 г. дзейнічаў закон па сэнсу, якого тэстамэнтальныя распараджэньні ні на карасьць асоб аб якіх ідзе размова прызнаваліся не сапраўднымі, бо як у момант складаньня тэстамэнтальнага распараджэньня (момант учыненьня дагавору), так і ў момант адкрыцьця спадчыны дзейнічаў парадак, які дапушчаў магчымасьць рабіць распараджэньні аб выдачы ўкладаў пасьля сьмерці асобам, не ўваходзячых у круг асоб, прадугледжанных арт. 418 ГК.

Нарэшцэ, у сучасны момант, як мы ўжо зазначалі вышэй, усякія абмяжаваньні кругу асаб, заклікаемых да насьледваньня па тэстамэнтальных распараджэньнях як па ўкладах у ашчадных касах, (гэтак і па ўкладах установ каапэрацыйнага крэдыту) (паст. ЦВК і СНК СССР ад 26/I—27 г.) зьняты.

Гэтакія найбольш часта сутракаючыяся пытаньні, пры вырашэньні спрэчак між насьледнікамі па закону і насьледнікамі па тэстамэнтальных распараджэньнях.

Аднак, паказанымі вышэй выпадкамі, зусім не абмяжоўваюцца ўсе выпадкі спрэчак, падлягаючых на падставе арт. 428 ГК судаваму разьбіральніцтву, між насьледнікамі і выцякаючых з тэстамэнтальных распараджэньняў.

Асноўнай прыметай духоўнага тэстамэнту служыць тое, што тэстамэнт зьяўляецца аднабаковай угодай (аднабокім актам самотнай волі).

Пры гэтым паказаную вышэй прымету належыць лічыць рэквізытам (асноўнай прыметай) тэстамэнту. Так, дагавор продажы маемасьці, зьмяшчаючы, у якасьці адлагальнай умовы зьдзелкі, згоды аб перадачы маемасьці пакупацелю пасьля сьмерці прадаўца і аналёгічныя паказаньні зьдзелкі згоды ня могуць ушаноўвацца тэстамэнтамі толькі таму, што ў учыненьні гэтых актаў удзельнічаюць дзьве асобы, дзьве волі.

Як мы ўжо зазначылі вышэй пры ўчыненьні тэстамэнтальнага распараджэньня па ўкладах у ашчадных касах гэтак-жа сама удзельнічаюць два кантрагэнты—каса і ўкладчык—наступнік.

Пагэтаму фармула, пазьнейшы тастамэнт адмяняе папярэдні, ня можа мець дапасаваньня да тэстамэнтальных распараджэньняў.

Пазьнейшыя тэстамэнты ўкладу адмяняюць папярэднія. Гэты прынцып застаецца ў сіле. Якраз таксама бяспрэчным належыць лічыць, што пазьнейшае тэстамэнтальнае распараджэньне адмяняе папярэдняе (калі напэўна маемасьць, лёс якой вырашаецца тэстамэнтам або тэстамэнтальным распараджэньнем адно і тое-ж).

Але тэстамэнт складзен пазьней тэстамэнтальнага распараджэньня і відазьмяняючы ў параўнаньні з тэстамэнтальным распараджэньнем лёс ўкладу не адмяняе тэстамэнтальнага распараджэньня.

Прыклад – укладчык адпісаў свой уклад па тэстамэнтальнаму распараджэньню дачцэ сваёй, а ўсю маемасьць пакінуў потым па складзенаму пазьней тэстамэнту свайму сыну.

Насьледніцай на ўклад застаецца дачка. Усю астатнюю маемасьць атрымоўвае сын.

Прынцып тут вытрымліваецца дагаворны.

Аднабокавы акт (тэстамэнт) ня можа паралізаваць сілы актy двухбаковага (тэстамэнтальнага распараджэньня).

Такім чынам тэстамэнт, хоць-бы ён быў і пазьнейшы ня можа адмяніць сабою заключанага між укладчыкам і ашчадкасаю дагавору аб выдачы ўкладу на выпадак сьмерці ўкладчыка.

Апошнім пытаньнем, на каторым мы лічым неабходным затрымацца ў гэтым артыкуле зьяўляецца пытаньне аб дапасаваньні да пераходзячых у парадку насьледаваньня ўкладаў іскавога даўнаснага і спэцыяльных тэрмінаў устаноўленых арт. арт. 44, 429, 430 і 433 Гр. Кодэксу.

Пытаньне аб дапасаваньні арт. 44 ГК. можа ўзьнікнуць у тых выпадках, калі насьледнік па закону, тэстамэнту або тэстамэнтальнаму распараджэньню зьвіцца за атрыманьнем ўкладу па зыходу 3-х год з дню сьмерці наступнікаў (у тых выпадках, калі мер аховы маемасьці памёршага прынята судом ня было).

У тых выпадках, як і наогул у выпадках зьвязаных з дапасаваньнем агульных даўнасных тэрмінаў да ўкладных апэрацый, мясцовыя судовыя ўстановы часта дапушчаюць не правільнае ўжываньне закону.

Выходзячы з вызначэньня ўкладу да ўстрэбаваньня, як і рэгулярнага дэпазыту, і ўкладу тэрміновага, як займу, нашы судовыя ўстановы дапушчаюць дапасаваньне да ўкладных апэрацый 3-х гадовай іскавой даўнасьці, тэрміну; пры чым вылічаюць яго па ўкладах да ўстрэбаваньня на падставе арт. 45 ГК у час узьнікнавеньня обавязацельства, г. зн. з моманту адчыненьня рахунку ў ашчаднай касе і па тэрміновых укладах з моманту паступленьня тэрміну.

Само сабою разумеецца, што такія рашэньні зьяўляюцца неправільнымі. Ня кажучы ўжо аб тым, што ўклады ўяўляюць з сябе зеём асобнага роду, каторы падпарадкуецца не ГК, а зацьвердзіўшым у гандлёвым быту звычаем і банкаўскім статутам, дапасаваньне іскавога даўнаснага тэрміну памылкова і па сутнасьці, нават, калі прыняць за падставу разважаньні, няправільную прадпасылку аб безагаворачным распаўсюджваньні на ўклады правіл Грамадзянскіх кодэксаў.

Сапраўды, паводле правіл арт. 48 Г. К. іскавая даўнасьць прыпыняецца ўчыненьнем з боку абавязанай асобы дзеяньняў, якія сьведчаць аб прызнаньні доўгу.

Між тым, іменна такім дзеяньнем нельга ня лічыць прадаўжаючагася на працягу ўсяго тэрміну (хаваньне або займу) налічэньне па ўкладу проц. З выкладзенага належаў-бы ва ўсякім выпадку вывад, што ўперад да спыненьня налічэньня проц. пачатак вылічэньня даўнаснага тэрміну мець месца наогул ня можа.

Якраз-жа да такіх вывадаў аб недапасаваньні да ўкладаў агульных тэрмінаў Г. К. мы прыходзім і пры разглядзе пытаньняў, узьнікаючых пры дапасаваньні агульных норм спадчыннага права да ўкладу ашчадных кас.

Сапраўды: 1) Прадбачаны арт. 429 Г. К. трохмесячны тэрмін па зыходу якога, прысутны ў месцы адкрыцьця спадчыны насьледнік, не заявіўшы падлегламу суду аб адмове ад спадчыны, лічыцца прыняўшым спадчыну, недапасован, бо прыняцьце мер аховы і распаўсюджваньня гэтакіх на ўклады амаль ніколі ня мае месца, бо ўклады ашчадных кас рэдка аказваюцца ў складзе апісанай маемасьці.

Пагэтаму ўсякае абмяжоўваньне прадбачанага арт. 429 Г. К. права адмовы насьледніка якім небудзь тэрмінам ад прылічаючайся яму долі зьяўляецца немагчымым.

2) Па тых-жа прычынах насьледнікі, адсутныя ў месцы адкрыцьця спадчыны (калі напэўна мер аховы ўкладу судом ня было прынята), могуць атрымаць пакінуты ім па спадчыне ўклад і па зыходу шасьці месяцаў з дню прыняцьця мер аховы астатняй (акрамя ўкладу) маемасьці памершага. І на рэшце.

3) Уклады могуць быць прызнаны вымарачнымі і падлягаючымі перадачы адпаведным органам дзяржавы па зыходу тэрміну ўстаноўленага арт. 433 Г. К. толькі ў тым выпадку, калі меры аховы спадчынай масы былі своечасова распаўсюджаны і на яго (на ўклады).

Гэтакія найбольш тыповыя пытаньні ўзьнікаючыя перад нашымі судовымі ўстановамі ў сувязі з мала яшчэ вядомым парадкам насьледаваньня ўкладаў у ашчадных касах.

Мы горача раілі-б мясцовым судовым працаўнікам, як мага ўважлівей азнаёміцца з гэтай спэцыяльнай галінаю спадчыннага права і памятаць, што тэстамэнтальныя распараджэньні ўчыняюцца амаль на 100 проц. усіх укладных дакумэнтаў, і што погэтаму ва ўважлівым і правільным вырашэньні пералічаных у гэтым артыкуле пытаньняў зацікаўлены ня толькі 6 міліёнаў грамадзян СССР (1,5 міліёнаў укладчыкаў з 4,5 міл. членаў іх сямей), але што ад правільнага іх вырашэньня залежыць узмацаваньне давер'я да ашчадных кас і ў частковасьці і самы лёс ашчаднай справы ў Саюзе ССР.

*І. Ліндэ.*

---

## ДАКТЫЛЁСКОПІЯ, ЯК ДОКАЗ У КРЫМІНАЛЬНЫМ ПРАЦЭСЕ.

1

Прыстасаваньне навуковых мэтадаў у барацьбе з злачыннасьцю зьяўляецца ў сучасны момант неабходнай умовай для пасьпяховай дзейнасьці органу расьсьледаваньня. Першае месца сярод шмат якіх з гэтых мэтадаў покуль што займае дактылёскопія і фатаграфія, якія маюць цьвёрды, спробаваны на практыцы, навуковы грунт. У прыватнасьці дактылёскопія абгрунтована на тым, да гэтага часу неабвергнутым, палажэньні, што няма двух індывідумаў у якіх былі-б аднолькавыя малюнкі з так званых папілярных ліній, разьмяшчоных на мякаці верхняй аканечнасьці пальца, нават і ў блізьняцоў аднолькавага полу, і што лініі гэтыя маюць уласьцівасьць нязьменнасьці ў працягу ўсяго жыцьця чалавека. Абмяжоўваючыся гэтым кароткім, паказаньнем аб дактылёскопіі як мэтадзе індэнтыфікацыі асобы, пярэйдзем да разгляду яе ў якасьці доказу ў крымінальным працэсе.

Наш суд ня ведае ў крымінальнай справе бяспрэчных доказаў і згодна арт. 57 КПК, ён не абмяжован ніякімі фармальнымі доказамі і ад яго залежыць дапусьціць, альбо адхіліць тыя, ці іншыя, прадстаўленыя па справе доказы, а так сама яму-ж прыналежыць права канчатковага рашэньня аб даказацельнай моцы тых ці іншых доказаў. Таму нашай мэтай гэтага разгляду зьяўляецца па меры магчымасьці вытлумачыць: калі і пры якіх умовах дактылёскопія можа зьяўляцца доказам злачыннага ўчынку тэй ці іншай асобы і ў якой меры. І яшчэ адна мэта разгляду—гэта больш менш папулярызаваць дактылёскопію сярод судова-сьледчых працаўнікоў і інш. органаў, якія вядуць барацьбу з злачыннасьцю, маючы на ўвазе, што, як нам здаецца, некаторым работнікам дактылёскопія мала знаёма, тым больш, што нідзе ў законах, альбо тлумачэньнях аб ёй не гаворыцца.

II

У ліку іншых доказаў па крымінальнай справе, пералічаных у арт. 58 КПК, такавымі зьяўляюцца рэчавыя доказы. У 68 арт. КПК паказана, што рэчавымі доказамі зьяўляюцца прадметы, **якія** служылі прыладамі ўчыненьня злачынства, захавалі на сябе сьляды злачынства, альбо каторыя былі аб'ектамі злачынных учынкаў абвінавачваемага, а таксама ўсе іншыя прадметы і дакумэнты, каторыя **могуць служыць** сродкамі да выяўленьня злачынства і выдкрыцьця вінаватых.

Такім чынам 68 арт. КПК мае як-бы дзьве часткі: у першай гаворыцца аб прадметах, якія служылі сродкамі злачынства і ў другой—аб тых прадметах, якія могуць служыць сродкамі да выяўленьня злачынства і злачынца. Адгэтуль вынікае, што дактылёскопія, якая зьяўляецца (можа зьяўляцца) у справе, як у якасьці прадмета на якох захаваліся сьляды злачынства, ці то прылады злачынства, ці аб'ект злачынства, гэтак і сродкам да раскрыцьця злачынства,—можа на законнай падставе падавацца на разгляд суду і служыць у якасьці рэчавага доказу.

Падкрэсьліваньне розьніцы паміж доказамі, якія служылі злачынцу для ўчыненьня злачынства, былі аб'ектамі яго і тымі, каторыя паслужылі органу расьсьледаваньня злачынца зроблена намі тарму, што даказацельная моц першых бязумоўна пераважае над другімі. Дактылёскопія-ж ў практыцы найчасьцей іменна зьяўляецца сродкам да выяўленьня злачынца і толькі ў некаторых выпадках дактылёскапічны мэтад можа прыстасоўвацца да прадмету, які захаваў на сябе сьляды злачынства. Паясьнім гэта прыкладамі, сустракаючыміся ў практыцы. Пачнём з другога выпадку ўжываньня дактылёскопіі:

Знойдзен труп чалавека, якому былі нанесены раны, а за тым ён быў задушан і на каўняры кашулі, якая знаходзіцца на трупе—маюцца крывавыя пальцавыя адціскі, па якіх потым быў выяўлен іх уладар. Каўнер гэты бязумоўна зьяўляецца прадметам, які захаваў на сябе сьляды злачынства.

2. Пры забойстве з мэтай рабунку, на якой небудзь шкатулцы маюцца адіціскі пальцаў на ўнутраным баку пакрыўкі, якая была паломана, як раз на тым месцы, дзе павінна быць прыкладзена сіла адчыняўшага. Гэтая шкатулка таксама зьяўляецца прадметам, які захаваў на сябе сьляды злачынства.

Дакладней кажучы ў прыведзеных выпадках адціскі пальцаў, разам з прадметам на якім яны знойдзены, зьяўляюцца рэччу са сьлядамі злачынства, а самі па сабе пальцавыя адціскі—сродкамі да выяўленьня і ўстанаўленьня асабістасьці злачынца.

Але гэтыя выпадкі сустракаюцца, як ужо і казалася, рэдка. Найчасьцей бывае, што пальцавыя адціскі зьяўляюцца толькі акалічнасьцю, якая сьведчыць аб прысутнасьці тэй ці іншай асобы на месцы ўчыненьня злачынства, як напрыклад:

3. Злодзеі абакралі кватэру, альбо якое небудзь іншае памяшканьне. Абглядам месца злачынства на якіх небудзь прадметах абставін памяшканьня: стале, крэслах, сьцяне і інш. знойдзены пальцавыя адбіткі, а потым іх уладар.

4. Сьляды ў выглядзе пальцавых адціскаў знойдзены на шкле ад вакна, цераз каторае злодзеі праніклі ў памяшканьне, альбо на дзьверах і інш. прадметах, якія самі па сабе аб'ектамі злачынства

не зьяўляюцца, але злачынец дзеля таго, каб зрабіць свой учынак павінен быў іх адхіляць.

Усе гэтыя выпадкі найбольш тыповы і да падрабязнага разгляду іх мы зараз прыступім.

III

Перш за ўсё разгледзім пры якіх умовах дактылёскапічныя адціскі, пры адсутнасьці іншых доказаў могуць служыць у якасьці даказацельнага матар'ялу. Гэты разгляд неабходзен таму, што толькі ў вельмі рэдкіх выпадках можа застацца поўны адціск усіх пяці пальцаў якой небудзь рукі. Больш выпадкаў, калі выявіць удаецца адціск аднаго пальца і, нават, часткі яго, пры чым неабходным патрабаваньнем зьяўляецца налічча т. з. папілярных ліній, якія ўтвараюць малюнак, наз. „філігран“. Вось тут паўстае пытаньне аб мяжы да якой магчыма дакладна судзіць ці прыналежаць застаўленыя на мейсцы злачынства адціскі—падазраваемай асобе.

На гэтае пытаньне адказ дае практыка ў справе дактылёскопіі як у нас, гэтак і за мяжой. Практыка вялікая. Досыць прывесьці лічбы дактылёскапічных картак у некалькі соткаў тысяч у паліцэйскіх установах Амэрыкі, Нямеччыны, Англіі і г. д. І вось, пры дакладным вывучэньні адціскаў—лічыцца ўстаноўленым, што дастаткова 12 супаданьняў дзеля індэнтыфікацыі асобы. Гэта значыць, што калі 12 асаблівасьцяў малюнку папілярных ліній, як напрыклад, маленькія папілярныя лініі і кропкі, раздваеньне папілярных ліній (т. з. „вілкі“), расчапленьне якой небудзь лініі на дзьве з наступным зьліяньнем, (астравок) і г. д., на адным і тым жа вучастку малюнку супадаюць дык магчыма быць упэўненым, што параўнаемыя адціскі прыналежаць аднэй і тэй-жа асобе. Адгэтуль вынікае, што адціск часткі пальца можа мець такую-ж даказацелную моц, як і адціскі пальцаў усёй рукі. Бязумоўна, што дзеля дакладнага меркаваньня аб тожсамнасьці параўнаемых адціскоў, апрача актаў у справе—неабходна прысутнасьць у судовым пасяджэньні экспэрта—спэцыялістага.

Першае, што магчыма зьцьвярджаць пасьля ўсяго сказанага, тое, што дактылёскопія неабвяржыма сьведчыць аб прысутнасьці асобы, пальцавыя адціскі якой тожсамны з знойдзенымі на месцы здарэньня, на гэтым месцы, а таксама, што гэтая асоба датыкалася да прадметаў, на якіх знойдзены адціскі.

Што-ж далей. Бярэм першыя два прыклады. Крывавыя пальцавыя адціскі маюцца на каўняры кашулі парэзанага і потым задушанага чалавека. Яскравыя пальцавыя адціскі маюцца на месцы ўзлома шкатулкі. Вынік для кожнага, хоць-бы троху сьвядомага з індывідуальнымі прыметамі ўласьцівымі чалавеку можа быць адзін, хаць-бы больш, апрача дактылёскопіі, ніякіх доказаў ня было і нават падазраваемы ня сазнаўся і даказваў свае алібі. Гэтым вынікам зьяўляецца вынясеньне абвінавальнага прыгавору, як адзіная дастойная і заслугованая ацэнка дзьеяньня злачынца. Дактылёскопія тут такі неапраўвяржымы доказ, такая прамая ўліка, супроць якой ніхто спрачацца ня можа.

Зьвярнёмся цяпер да двух іншых выпадкаў. Тут справа больш складаная ў тых адносінах, што апрача ўстанаўленьня тожсамнасьці пальцавых одціскаў трэба некаторыя ўмовы, бо дактылёскопія тут выступае выключна ў ролі сродку, які служыць органу расьсьледаваньня для высьвятленьня вінаватых. Бярэм першы з двух іншых прыведзеных выпадкаў пад № 3. Могуць сустракацца звычайна такія акалічнасці:

1) Калі злачынства ўчынена ў памяшканьні, у якое маецца вольны доступ кожнаму, выяўленыя на прадметах абстаноўкі памяшканьня пальцавыя адціскі ніякай ролі іграць ня могуць. Але ёсьць і ў гэтым выпадку выключэньне. Западазроны ў злачынстве чалавек на падставе не дактылёскопіі, а па іншых прычынах, але адціскі якого на прадметах памяшканьня так сама маюцца—упарта адмаўляецца ад таго, што ён калі небудзь быў у гэтым памяшканьні. Трэба адзначыць, што ў гэтым выпадку дактылёскопія зьяўляецца толькі як доказ пабочны, дапаўніцельны і самастойнага значэньня ня мае.

2) Калі абакрадзена кватэра, склад, альбо іншае памяшканьне, дык пры адсутнасьці іншых акалічнасьцяў, паказваючых на віноўнасьць, падлягаюць поўнаму выключэньню з ліку падазраваемых на падставе тожсамнасьці маючыхся пальцавых одціскаў усе асобы, якія маюць, альбо могуць мець вольны доступ у дануюю кватэру, альбо памяшканьне, альбо пабывалі там у якасьці цікавых глядачоў пасьля выяўленьня злачынства і да прыбыцьця агэнтаў.

3) Калі будзе ўстаноўлена прыналежнасьць выяўленых одціскаў пальцаў асобе; якая доступу ў данае памяшканьне пры звычайных умовах ня мела, а тым больш вядомаму злодзею рэцыдывістаму—дык натуральна двух думак аб удзеле гэтай асобы ў злачынстве быць ня можа.

4) Апошні, 4 выпадак, амаль што аналёгічны толькі што разгледжанаму. Розьніца паміж імі заключаецца ў тым, што сьляды одціскаў знаходзяцца на прадметах, якія зьмяшчаюцца ня ўнутры памяшканьня, а знадворку, як на шкле ваконнай рамы ад вуліцы, уваходных дзьвярах і г. д.

Застаўленыя на гэтых прадметах пальцавыя одціскі параўнаныя пры дапамозе дактылёскопіі з одціскамі падазраваемай асобы даюць адмоўны довад прысутнасьці гэтай асобы на месцы злачынства. Але зноў паўстае пытаньне ці пры ўсіх умовах дактылёскапічны доказ сьведчыць аб злачынстве ўчыненым іменна данай асобай. Усе выпадкі, якія могуць сустракацца ў практыцы прадуглядзець цяжка. Самае цяжкае заключаецца, галоўным чынам, у тым, што кожны абвінавачваемы на падставе выключна падобнасьці одціскаў можа адмаўляцца тым, што ён выпадкова, знаходзячыся ў гэтым месцы, датыкаўся сваімі пальцамі да данага прадмету. Дык вось у гэтых выпадках неабходна дакладнае высьвятленьне ўсіх акалічнасьцяў і падрабязнасьцяў справы, абставін пры якіх выяўлены адціскі, каму яны прыналежаць і г. д. Дапусьцім, што ў прыведзеным 4 выпадку злодзеі праніклі ў кватэру цераз вакно, шляхам вынацьця шкла, якое застаўлена пад вакном, альбо перанесена на другое месца. На гэтым шкле, ці то цэлая шыба, ці кавалак яе, маюцца одціскі і як раз у кутку шкла, дзе значны сьляды адскабліваньня нажом кіта, альбо ня ў кутку, а ў такім месцы, дзе неабходна было некалькі панатужыцца для таго, каб выняць шкло з шыбы. Тое-ж самае можна сказаць і ў адносінах дзьвярэй і г. д. Установлена прыналежнасьць знаходзячыхся на гэтым месцы одціскаў злодзею рэцыдывістаму. Нават і нерэцыдывістаму, а прыватнай асобе, ня маючай прамых адносін да данай кватэры і ня бышай на месцы здарэньня ў час ад выяўленьня злачынства да прыбыцьца агэнтаў вышуку. У гэтых выпадках магчыма сьмела лічыць, што, як раней казалася, суд не абмяжованы фармальнымі доказамі, пры ўмове дакладнага абгляду месца злачынства, вытваранага пры папярэднім расьследаваньні і пры

зацьвярджальным паказаньні экспэрта, наогул паколькі акалічнасьці справы высьветлены дастаткова—можа на падставе аднэй гэтай улікі вынесьці абвінавальны прыгавор, ніколькі не памыліўшыся.

IV

Наша практыка, на вялікі жаль, ня мае яскравых прыкладаў абвінавачваньня западазроных у злачынстве на падставе дактылёскопіі. І не таму толькі, што нашы органы расьсьледаваньня мала карыстаюцца дактылёскопіяй, як мэтадам крымінальнай тэхнікі. Справа ў тым, што дактылёскопія не карыстаецца усеагульным прызнаньнем у нашага суду, асабліва нізавога. А гэта акалічнасьць адбіваецца у той бок, што і працаўнікі крымінальнага вышуку адхіляюць дактылёскопію на задні плян. Што-ж разважаюць яны? „Усё роўна суд гэтаму ня верыць. Трэба прызнаньне западазронага. А хіба легка дабіцца яго ад злодзея рэцыдывістага? Паказаньне сьветак? З упэўненасьцю можна сказаць, што судовыя памылкі пры базіраваньні на паказаньнях сьветкі ня рэдкасьць, у тэй час, калі пры наліччы такіх доказаў, як дактылескопія гэтыя памылкі зусім выключаюцца.

У крымінальнай літаратуры маюцца апісаньні значнага ліку выпадкаў, калі дактылёскопія служыла ня толькі ў якасьці сродкаў да раскрыцьця вінаватага, а і сродку ўхіліцца асуджэньня зусім ня маючай адносін па данай справе асобы. Мы прывядзем тут для ілюстрацыі два, найбольш характэрных, выпадкі, здарыўшыхся ў практыцы замежных крымінальных вышукаў.

Раніцай аднаго дню на вуліцы гораду быў знайдзен труп забітага і абрабаванага ювеліра, які звычайна раніцай хадзіў у сваю краму. Падазрэньне пала на аднаго беспрацоўнага, якога бачылі ў той час каля месца здарэньня і ён быў затрыман. Дакладным абглядам трупа ў далейшым, на пыльным боце забітага быў выяўлен яскравы адціск частак некалькіх пальцаў і пры дапамозе рэг. матар'ялу ўстановлена была іх прыналежнасць некаліс рэгістраванаму, пражываючаму ў гэтай частцы гораду гр-ну. Ня гледзячы на тое, што ён даказаў свае алібі, а іменна: з паказаньняў сьветак суседзяў па кватэры было відаць, што ён раніцай у гэты дзень з кватэры нікуды ня выходзіў, апрача прыбіральні ў кватэры-ж. Суд прызнаў яго вінаватым. Ужо праз некаторы час, сядзячы ў турме, ён прызнаўся і расказаў як была справа. Дакладна разлічыўшы час, у каторы ходзіць ювэлір, ён зайшоў у прыбіральню, каб суседзі бачылі, потым хутка выйшаў на вуліцу, зрабіў злачынства і ні кім ня прыкмечаны зьвярнуўся ў прыбіральню, у якую ўжо пачалі стукаць суседзі, маючы патрэбу ў ёй. Ён, як ні ў чым ня было, вышаў, паскардзіўшыся на свой жывот. Вельмі яскравы выпадак! А вось другі, супраціўны гэтаму і сьведчачы, як могуць памыляцца сьветкі.

У аднэй з кватэр быў учынен рабунак. Шмат сьветак бачылі, як каля гэтага часу з кватэры выходзіў адзін малады чалавек, прыкметы якога ім добра запомніліся. Па гэтым прыкметам быў затрыман падазраваемы, якога ўсе сьветкі добра пазналі за выходзіўшую з кватэры асобу. Але ён упарта адхіляў падазрэньне, дакладна даказаўшы сваё алібі. Пры абглядзе месца злачынства, на адным з прадметаў, да якіх злачынец павінен быў датыкацца, знойдзены былі пальцавыя адпіскі, пры зьлічэньні якіх з адціскамі затрыманага яны ня супадалі. Паведзенай далейшай распрацоўкай было ўстаноўлена, што ў затрыманага маецца родны брат, блізьнец, да падрабязнасьцяў падобны з затрыманым. Затрымалі і яго, і пры

зьлічэньні адціскаў з яго пальцамі, знойдзена была неабходная колькасьць супаданьняў. Сумненьняў у суда пасьля гэтага аб тым, хто з іх вінаваты—ня было, і другі брат быў асуджан.

Канчаючы хочацца думаць, што і нашы суды могуць верыць ня толькі сьветкам жывым, а і нямым сьветкам, якія гавораць і памыляцца ня могуць і сярод якіх дактылёскопія іграе першую ролю. Яе даказацельная моц значна, яе прызнаньне з боку судоў дасьць стымул да найбольшага ўжываньня яе органамі дазнаньня пры выкрыцьці злачынстваў.

У заключэньне неабходна затрымацца яшчэ на адным, быўшым да апошніх часов, спрэчным палажэньні. Гэта тое, ці магчыма зрабіць падробліваньне адціскаў? Дакладным дасьледаваньнем з боку вучоных крыміналістых такі падроб лічыцца неажыцьцяўлімым, бо якбы ня быў дакладна зроблен падроб, усіх дэталей малюнку перадаць немагчыма.

**В. Уласаў.**

---

## СПРАШЧЭНЬНЕ СУДАВОДЗТВА ПА ГРАМАДЗЯНСКІХ СПРАВАХ.

Народны Камісарыят Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі Саюзу ССР азначана паставіў на чаргу пытаньне аб спрашчэньні судаводзтва па грамадзянскіх справах.

Выконваючы заданьне НКРСІ, Народны Камісарыят Юстыцыі БССР распрацаваў адпаведныя законапраэкты аб зьмене чынных законаў.

Законапраэкты гэтыя, ня ўносячы грунтоўных зьмен у наш грамадзянскі працэс, уносяць тым ня менш досыць істотныя зьмены ў дзейнічаючае права, якое мае сваёю мэтаю ўскорыць і аблегчыць разгляд грамадзянскіх спраў. Задачай гэтай заметкі і зьяўляецца азнаямленьне з асноўнымі палажэньнямі праэктуемага закону.

1. Першае пытаньне, на каторым затрымаўся Народны Камісарыят Юстыцыі, гэта *зьмена падсуднасьці.*

У сучасны момант судовая сыстэма настолькі ўмацавалася, нізавае яе ячэйка—народны суд настолькі забясьпечан належным пэрсаналам, што пара падумаць аб пашырэньні грамадзянскай падсуднасьці народных судоў. Блізкасьць да насельніцтва і хуткасьць справавядзеньня ў народных судах даюць выстарчальную падставу да пашырэньня іх падсуднасьці. Выключэньне-ж часткі спраў з паддсуднасьці акруговых судоў павінна спагадна адбіцца і на дзейнасьці гэтых апошніх судоў; з скарачэньнем колькасьці спраў акруговыя суды з асоблівай увагай здолеюць аднесьціся да касацыйнай работы і да разгляду ў якасьці першай інстанцыі падсудных ім спраў; у той-жа час прадаставіцца магчымасьць таксама падвысіць аўтарытэт і кваліфікаваньне народных судзьдзяў шляхам перакідкі на пасады нарсудзьдзяў б. членаў акруговых судоў, каторыя могуць аказацца свабоднымі пры скарачэньні апарату акруговых судоў.

Праэктамі НКЮ зьмяняецца рэдакцыя арт. 23 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу БССР, якая ўстанаўляе падсуднасьць акруговых судоў. Пры гэтым з веданьня акруговых судоў мяркуецца аднесьці да падсуднасьці народных судзьдзяў: а) усе іскі, цана якіх не перавышае двух тысяч рублёў (у сучасны момант народным судом падсудны іскі толькі да 1000 р.) б) справы па ісках, прад'яў-

леных да раённага выканаўчага камітэту або гарадзкому савету акруговага гораду цалком; у сучасны момант такога роду іскі, прадугледжаныя п. „в“ арт. 23 ГПК БССР, падсудны акруговым судом, што выклікае загрузку акруговых судоў такімі справамі, каторыя ні па важнасьці іх, ні паскладанасьці не заслугоўваюць гэтага із посьпехам будуць разглядацца народнымі судамі; в) справы паісках, цаною ня звыш 2000 руб., якія выцякаюць з дагавароў простага таварыства і таварыства з абмяжованаю адказнасьцю, і г) справы паісках, цаною ня звыш 2000 р., аб аўтарскай узнагародзе за публічнае выкананьне твораў.

Пашыраючы такім чынам падсуднасьць народных судоў, праэкт уводзіць ГПК новы (107/1) артыкул наступнага зьместу: „Народны суд устанавіўшы ў працэсе разбору падсуднай яму па роду справы, што іскавыя патрабаваньні перавышаюць дзьве тысячы рублёў, павінен справу разглядзець па сутнасьці, калі ня зьменена самая падстава іску“.

Рашэньне народнага судзьзі ў такім выпадку, у адносінах парадку абскарджваньня, прыраўніваецца да рашэньня акруговага суду.

Пасьлядуе паказаньням НКРСІ, Народны Камісарыят Юстыцыі, у справе зьмены падсуднасьці праэктуе такое новаўвядзеньне: з спраў падсудных народным судам, выймаюцца справы па ісках, цаною ня звыш 15 руб., пры ўмове, што месца жыхарства абедзвюх спрачаючыхся старон знаходзіцца ў межах аднаго сельсавету. Такога роду справы перадаюцца на разгляд асобнага суду пры сельсавеце. Адпаведна з гэтым арт. 14 палажэньня аб сельскіх саветах (З. З. БССР 1925 г. № 31 арт. 291) дапаўняецца пунктам аб тым, што да веданьня сельсавету адносіцца таксама „вырашэньне ў парадку, прадугледжаным асобнай інструкцыяй, іскаў, цаною ня звыш пятнадцаці рублёў, калі яны не падсудны акруговым судом або вярхоўнаму суду паводле арт. арт. 23 і 24 ГПК, і калі месцажыхарства абодзьвюх спрачаючыхся старон знаходзіцца ў межах сельсавету.“ Як відаць з выкладзенага, да веданьня сельсавету адносяцца прасьцейшыя справы, дробныя спрэчкі між членамі аднаго і таго-ж сельсавету. Справы гэтыя вырашаюцца сельсаветам у складзе яго старшыні і двух членаў. Рашэньні сельсаветаў канчатковы і могуць быць адмяняемы толькі ў парадку нагляду народным судзьдзёю, у вучастку каторага знаходзіцца сельсавет.

Народным камісарыятам распрацована таксама асобнае палажэньне аб судох пры сельскіх саветах, у каторым устаноўлены правілы аб складзе суду, аб падсуднасьці і аб парадку вядзеньня і рашэньня спраў, а таксама выкананьня рашэньня. Згодна гэтых правіл суд пры сельсавеце ня зьвязан фармальнасьцямі, абавязковымі для народных судоў, рашэньні такіх содоў прыводзяцца ў выкананьне членам сельсавету. Народны судзьдзя мае права прыпыняць рашэньне суду пры сельсавеце, але ня больш, як на 2 тыдні, на працягу каторых ён павінен вырашыць пытаньне аб тым, ці падлягае рашэньне адмене ў парадку нагляду.

Другое пытаньне—гэта *ўскарэньне справавядзеньня.* Для дасягненьня гэтага, НКЮ БССР праэктуе перш за ўсё (праэкт аб гэтым пададзен яшчэ раней) павялічыць пералік выпадкаў, калі дапушчаецца выдача судовых загадаў, г. зн. калі справа вырашаецца народным судзьдзёю самотна.

Спрашчаецца таксама падрыхтоўка справы пры чым народнаму судзьзі даецца права самства, па свайму ўгледжаньню, ўстанаўл-

іваць сьпіс сьветак, падлягаючых выкліку, патрабаваць ад старон і трэціх асоб і ўстаноў неабходныя для разьбіраньня справы дакумэнты, назначаць экспэртаў і рабіць усе падрыхтавальныя дзеяньні (арт. 80 ГПК БССР.)

Артыкул 176 ГПК дапаўняецца ўвагай аб тым, што ў выпадку прызнаньня адказчыкам падставы і разьмеру іску суд можа выносіць рашэньні без выкладаньня матываў яго.

Згода паказаньням НКРСІ зьвернута ўвага таксама на *барацьбу з суцяжніцтвам.* У гэтых мэтах арт. 46 ГПК БССР (аб спагнаньні з адказнай стараны ў выпадку здавальненьня іску, судовых пошлін і збораў, панесеных ісцовай стараной, а таксама выдаткаў па ўзнагародзе прадстаўніка ісца) дапоўнен другой увагай, у каторай суду даецца права, зьверх паказаных вышэй спагнаньняў, прысуджаць з аднэй з спрачаючыхся старон на карысьць праціўнай стараны спэцыяльную сплату за прычыненую страту працоўнага часу ў тых выпадках, калі судом будзе прызнана, што гэта старана вяла спрэчку суцяжніцкімі мэтадамі (напрыклад, зварочванчне ў суд без належнага папярэджваньня праціўнай стараны, прад'яўленьне яўна пераўвялічанага па разьмеру іску, зацягваньня справы і г. д.

Чацьвёртым пытаньнем, разьвязаным у праэкце НКЮ БССР, зьяўляецца *спрашчэньне выканальнага справавядзеньня.*

У гэтых мэтах падпалі зьмене два разьдзелы, аменавіта XXXIII і XXXIV разьдзелы, г. зн. артыкулы 328-332 і 333-336 (у грамадзянскіх працэсуальных кодэксах РСФСР і УССР гэтым артыкулам адпавядаюць арт. арт. 283-287 і 288-291).

У першым з гэтых разьдзелаў (арт. арт. 328-332) да гэтага часу зьмяшчаліся правілы спгнаньня па выканальнаму лісту *з дзяржаўных* устаноў і прадпрыемстваў, пры чым ў аснове гэтых правіл ляжала палажэньне аб спагнаньні праз судовага выканаўца. Такога роду парадак вельмі грамоздак, і ўдзел у такіх выпадках судовага выканаўцы зусім лішні. Парэтаму НКЮ БССР і ўстанаўляе для спагнаньняў з дзяржаўных органаў і дзяржаўных прадпрыемстваў, а таксама і з *грамадзкіх* устаноў і прадпрыемстваў, такія правілы: 1) выкавальны ліст накіроўваецца судом (беспасрэдна або праз спагнальніка) у тую ўстанову або прадпрыемства, аб спагнаньні з каторага пастаноўлена рашэньне;

2) рашэньне выконваецца на працягу аднаго месяца, калі судом ня вызначан больш кароткі тэрмін, адміністрацыяй установы або прадпрыемства, у асобе кіраўніка крэдытамі або яго намесьніка;

3) на прадстаўніка адміністрацы, які абавязан выканаць рашэньне, ускладаецца дысцыплінарная і матар'яльная адказнасьць за своечасовасьць і дакладнасьць выкананьня рашэньня;

4) калі выканальны ліст выдан супроць грамадзкай ўстановы або прадпрымства, пераведзенага на гаспадарчы разрахунак, народны судзьдзя, які наглядае за выкананьнем паводле арт. 315, мае права па зыходу вышэй паказанага тэрміну, даручыць судоваму выканаўцу вытварыць неадкладна арышт і прадажу тэй маемасьці, на каторую па чыннаму заканадаўству можа быць абернута спагнаньне.

Разьдзел XXXIV (арт. арт. 333-336), азаглаўленыя: „абарочваньне спагнаньня на заработную плату рабочых і служачых", зьмяшчае па праэкту НКЮ БССР наступныя палажэньні:

1) усе ўстановы, прадпрыемствы і асобы абавязаны даваць па патрабаваньню суду або судовага выканаўца водзыў аб тым, ці лі-

чыцца даўжнік у іх на службе і, калі лічыцца, то якая сума прылічаючыхся яму ў бягучым месяцы ўсіх відаў харчаваньня і выдач.

2. калі даўжнік лічыцца на службе ў дзяржаўнай або грамадзкай установе або прадпрыемстве, суд, які пастанавіў рашэньне, перадае выканальны ліст для выкананьня беспасрэдна адміністрацыі ўстановы або прадпрыемства, паведамііўшы аб гэтым народнаму судзьдзі па месцу выкананьня;

3. адказным (дысцыплінарная і матар'яльная адказнасьць) за выкананьне ў такім выпадку зьяўляецца кіраўнік крэдытамі, каторы робіць утрыманьне адпаведных сум і перадае іх спагнальніку;

4. выкананьне падобнага роду спагнаньня праз выканальныя органы робіцца толькі ў тым выпадку, калі даўжнік працуе ў прыватнай асобы або прыватным прадпрыемстве.

Уводзячы выкананьне рашэньняў ня толькі праз нармальныя выканальныя органы, якімі па інструкцыі НКЮ, НКУС і НКФ зьяўляюцца судовыя выканаўцы, міліцыя і сельсаветы, але ў вядомых выпадках і праз адміністрацыю ўстаноў і прадпрыемстваў, НКЮ ў кіраўніцтва апошніх выдае асобную інструкцыю.

У сувязі з выкладзенымі зьменамі выканальнага справавядзеньня знаходзіцца і праэктуемая зьмена арт. 315 ГПК БССР (арт. 270 ГПК РСФСР і УССР). Па праэкту арт. 315 выкладаецца гэтак:

скаргі на дзеяньне асоб, выконваючых рашэньні (судовых выканаўцаў, органаў міліцыі, сельскіх або местачковых саветаў, а таксама кіраўнікоў крэдытамі дзяржаўных і грамадзкіх устаноў і прадпрыемстваў), падаюцца народнаму судзьдзі, у вучастку каторага робіцца выкананьне ў сямідзённы тэрмін з дню ўчыненьня абскарджанага дзеяньня або з моманту, калі яно стала вядома жалабшчыку.

Народны судзьдзя і па ўласнай ініцыятыве можа даваць выканальным органам кіраўнічыя паказаньні, каторыя для выканаўчых органаў абавязковы. Судовыя выканаўцы, органы міліцыі і сельскія саветы абавязаны перад мясцовым народным судзьдзёю пэрыядычнаю справаздачнасьцю.

Падводзячы падлікі, належыць адзначыць, што НКРСІ, а па яго заданьням і НКЮ БССР становяцца на шлях павялічэньня самадзейнасьці суду і зьнішчэньня лішкавых фармальнасьцяй. Пакуль гэта толькі частковыя зьмены, але за імі трэба мяркаваць, наступяць і грунтоўныя зьмены грамадзянскага працэсу.

Усе пытаньні, разьвязваемыя грамадзянскім працэсуальным кодэксам, вельмі істотна зачэпліваюць інтарэсы грамадзян, зварочваючыхся да дапамогі суду для абароны сваіх праў. Той або іншы парадак абароны гэтых праў можа моцна адбіцца і на ступені абароны. Пагэтаму, нормы грамадзянскага працэсу, умацоўваючы правы не зьяўляюцца толькі правіламі для суду нестваракочымі асобных праў для насельніцтва. Асноўнае права, каторае павінен забясьпечыць ГПК,—гэта *сапраўдная абарона праў, прадастаўляемых савецкімі грамадзянскімі законамі.*

Пры рэформе працэсу таму неабходна вельмі асьцярожна падыходзіць да выбару сэстэмы працэсу і да ўстанаўленьня асноўных рыс.

**Б. Ватацы.**

---

## ПРАЭКТ ГАСПАДАРЧЫХ ЗАКОНАЎ УССР.

У № 18 за 15/IX—г. г. часопісі „Вестник Советской Юстиции" зьмяшчаецца артыкул Старшыні Камісіі НКЮ УССР па перагляду Грамадзянскага Кодэксу УССР т. МАЗУРЭНКА: „аб праэкце новага грамадзянскага кодэксу".

Артыкул гэты зьяўляецца вельмі цікавым, паколькі ён прадстаўляе інфармацыю аб напрамку працы камісіі, і асобна паколькі інфармацыя гэтая дадзена адным з актыўных удзельнікаў гэтакай вялікай працы, якая праводзіцца шляхам прыцягненьня ўвагі да яе з боку мясцовых працаўнікоў: тэзісы і схэма накіраваны для іх азнаямленьня і заключэньня. Артыкул дае: 1) пашырэньне тэзісу па пытаньню аб задачах перагляду Г. К. УССР, аб аб'еме,—сыстэме і заходах выкладаньня новага кодэксу, які атрымае найменьне: „Кодэкс гаспадарчых законаў УССР" і 2) агульную схэму яго выкладаньня.

Затрымаем нашу ўвагу на тэзісах, якія зьяўляюцца найбольш цікавымі і вызначаюць сыстэму выкладаньня Кодэксу.

1—5 п. п. тэзісаў даюць ацэнку існуючаму ГК УССР выданьня 1922 г. і тут аўтары тэзісаў адзначаюць, што чынны Г.К. зьяўляецца пераважна правам прыватнага звароту, што такім чынам ён у сучасны момант разьвіцьця сацыялістычнага сэктару гаспадаркі краіны (звароту дзяржаўных і каапэрацыйных органаў) не ахоплівае вялікай часткі існуючых узаемаадносін, не адпавядае да патрабаваньняў эпохі. Тэзісы адсылаюць (п. 3) да погляду на гэтую рэч пр. Гойхбарга, дакладчыка на пасяджэньні УЦВК РСФСР за 27/Х-1922г. аб Г.К.РСФСР, якраз: Г.К. меў мэту абмежаваньне інтарэсаў Рабоча-Сялянскай дзяржавы пры ўступках НЭП'у і адначасова некаторай магчымасьці разьвіцьця прыватнай ініцыятывы, і такім чынам Г. К. зьяўляецца частковаю рэцэпцыяю буржуазнага права не далей таго, што патрэбна для разьвіцьця вытворчых сіл краіны.

У 4 п. тэзісаў падрабязна адназначаны тыя артыкулы. Г. К., якія вызначаюць асноўныя адзнакі нашага права ад буржуазнага, тыя віткі, на которых утвараецца абмежаваньне інтарэсаў Дзяржавы ад стыхіі прыватнага звароту, паміж інш., адзначаных і 1 і 4 арт. Г.К.

Думка, якая высунута ў гэтых п. п. тэзісаў, думка аб неадпаведнасьці існуючага Г. К. да цяперашняга складанага гаспадарчага звароту Савецкай краіны, неадпаведнасьці да асабістага працэсу „Камерсыялізацыі" грамадзянскага права, ўжо выказвалася колькі разоў і на нарадах юрыстаў і ў друку. Найбольш уваг. загастрыў на гэтым пытаньні пр. **Мартынаў** у сваім дакладзе на нарадзе юрысконсультаў дзяржаўнай прамысловасьці пры ВСНГ СССР у сакавіку г. г. на тэму аб Г. К. і дзяржаўным звароце.

З выказанай думкі аўтары тэзісаў робяць пасьлядовна вынік, што новы праэкт павінен ахапіць сваімі нормамі ўвесь гаспадарчы зварот краіны: узаемаадносіны дзяржворганаў і каапэрацыі як паміж сабою, так і з прыватнымі асобамі, ўзаемаадносіны, якія грунтуюцца на падставе дагаворнага права, а таксама-ж неахопленую у сучасны момант Г. К. значна большую частку ўзаемаадносін плянавага характару (гэнэральныя дагаворы, карпарацыйныя ўгоды і г. д.), як раз увесь плянавы зварот, а таксам-ж і ахоплены Г. К. у большай сваёй частцы неарганізованы зварот прыватных асоб. (п. 6). У адпаведнасьці да ўнівэрсальнага характару новага кодэксу адзначана, што няма ніякага грунту для выдзяленьня асобнага гандлёвага права, і новы закон павінен ахапіць цалком і нормы гандлёвага звароту.

Такім чынам, прапануецца назваць новы кодэкс кодэксам гаспадарчых законаў УССР.

У часьці Б арт., дзе выкладаецца агульная схэма кодэксу адзначаецца і, гэтак казаць, прыкладам, задача кодэксу: шляхам рэгуляваньня на сацыялістычных плянавых асновах ўзаемаадносін гаспадарчага звароту (ўзаемаадносін па разьмежаваньню паміж удзельнікаў грамадзянскай вытворчасьці—сродкаў і прадуктаў вытворчасьці і ўзаемаадносін па абмену тавараў і інш. каштоўнасьці), дапамагаць разьвіцьцю вытворчых сіл краіны і ўзрастаньню сацыялістычных элемэнтаў народнай гаспадаркі УССР праз лік капіталістычных яе элемэнтаў і падняцьцю матар'ялнага ўзроўню працоўных мас.

Аўтары праэкту думаюць, што такой устаноўкай магчыма больш канкрэтазаваць агульнаю формулу 4 арт. Г. К., што тут ясьней выяўляецца гэнэральная палітыка пралетарскай дзяржавы ў адносінах да разьвіцьця вытворчых сіл ў сучасны момант пераходнага пэрыяду.

У сувязі з гэтым высоўваецца неабходнасьць ўзмацненьня у кодэксе прынцыпу (прэзумпцыі) аб праве ўласнасьці дзяржавы на спрэчную і безгаспадарчую маемасьць, што павінна значна адрозьніць нашае права ад буржуазнага, якое высоўвае прынцып прыватнай ўласнасьці, у паасобку ўласнасьці ў карысьць уладара рэчы.

Такім чынам, калі мы зьвярнёмся да другой часткі арт., да адзначэньня схэмы, дык бачыцца шырокі ахоп праэкту новага кодэксу: апрача норм і інстытутаў існуючага Г. К., у склад праэкту кодэксу гаспадарчых законаў ўключаюцца нормы, якія павінны рэгуляваць замежны гандаль, так наз. выключныя правы і манаполіі (права на вынаходку, таварныя знакі і г. д.) аўтарскае права, выдавецкі дагавор, дагаворы экспэдыцыі, перавозкі, тэлегр. і паштовых паслуг, нормы банкаўскага і крэдытнага звароту унутры сындыкацкага звароту. Адначасова-ж лічыцца необходным з кодэксу выключыць некаторыя нормы аб іскавой даўнасьці, якія маюць працэсуальны характар, каб кодэкс меў толькі матар'яльна праўны характар.

Потым п. п. 13 і 14 тэзісаў адзначаюць, што новы кодэкс павінны з боку свайго выкладаньня (з надворнай стараны) быць кароткім з зразумелым для шырокіх працоўных мас: простыя і кароткія арт. замест доўгіх і складаных, больш зразумелыя словы і выразы, значнае пакарачэньне агульнай часткі і больш простая сыстэма выкладаньня.

У адпаведнасьці да вышэй сказанага кодэкс канструктуецца ў наступнай сыстэме (п. 16 тэзісаў):

1. Угодны закон. 2. Асноўныя палажэньні. 3. Удзельнікі гаспадарчага звароту (фізычныя і юрыдычныя асобы) з перавагай юрыдычных асоб, паколькі яны зьяўляюцца цэнтральнымі фігурамі звароту і падрабязным адзначэньнем іх відаў, праў і абавязкаў. 4. Праваадносіны паасобных удзельнікаў у галіне рэчавых праў (разьмеркаваньне сродкаў вытворчасьці і спажываньня). 5. У галіне права абавязнасьці (абмен тавараў і інш.) 6. Выключныя правы (вынаходкі, аўтарская і інш.) і 7. Права спадчынаемства.

У такіх рысах прадстаўляецца погляд аутараў праэкту на складаньне новага кодэксу і будучая яго сыстэма. Тут зьяўляюцца важныя наступныя моманты:

І) Неабходнасьць складаньня кодэксу, які больш адпавядае да рэгуляваньня найважнейшага ў нашым звароце сацыялістычнага сэктару, патрабаваньні якога ня зусім здавальняе існуючы Г. К., і

2) Выкладаньне гр. кодэксу ў найбольш агульнай зразумелай, папулярнай форме, каб кодэкс зьяўляўся даступным да зразуменьня ня толькі юрыстаў, але-ж і ўсялякага рабочага і селяніна.

Тут спыняе нашу ўвагу імкненьне аўтараў праэкту, кабы даць кодэксу законаў, рэгулюючых увесь гаспадарчы зварот.

Магчыма спрачацца аб тэрміне: „Гаспадарчае права", які усе больш і больш ужываецца на юрыдычнай мове, а таксама-ж і аб ступені ахопу гэтага вызначэньня і правільнай устаноўцы адзначанай у тэзісах задачы новага кодэксу, як рэгулюючага адносіны гаспадарчага звароту сацыялістычнай краіны, але-жа неабходна ўзгадніцца з аўтарамі праэк ту, што дзейнічаючы Г. К. мае патрэбу ў зьмене, у дапасаваньні яго да патрабаваньняў сацыялістычнага будаўніцтва—узмацненьня асноўнага вучастку гаспадаркі, дзяржворганаў і кааперацыі.

Паколькі ў органаў СССР вядзецца праца па распрацоўцы асноўных прынцыпаў грамадзянскага законадаўства (камісія тав. Дробніса пры П. К. СНК СССР), настолькі ў сувязі з гэтым і ў БССР як і ў і нш. саюзных рэспубліках, узьнікае неабходнасьць працы па перагляду Г. К., тыя-ж самыя пытаньні ўзьнікнуць і ў нас і з гэтага боку пачатак СССР зьяўляецца вельмі цікавым і важным.

Нам таксама-ж неабходна падумаць і аб сыстэме нашага будучага кодэксу і аб тым, паколькі ён адпавядае інтарэсам нашага звароту, і аб аб'ектах маемасьці аб абмежаваньні праў суб'ектаў звароту, у паасобку-ж юрыдычных асоб і аб тым, якія віды угодаў і абавязнасьцяў неабходна ўключыць у кодэкс, а таксама-ж аб аб'еме яго; ня менш важным зьяўляецца і пытаньне аб большай папулярнасьці і зразумеласьці яго для працоўных мас.

Я лічу, што было-б вельмі неабходна, каб тав. тав., якія працуюць у галіне права, выказалі свае думкі па закранутых пытаньнях на старонках нашай часопісі.

*Макуня.*

---

## НОВЫ СТАТУТ АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ ГЭРБАВЫМ ЗБОРЫ І ПАЛАЖЭНЬНЕ АБ ПАДАТКУ З ЗВАРОТУ КАШТОЎНАСЬЦЯЙ.

З прычыны немагчымасьці па браку месца падрабязна выкласьці на старонках „Рэв. законнасьць" склад новых законаў, выданых ЦВК і СНК 14 верасьня г. г. аб дзяржаўным гэрбавым зборы і аб падатку з звароту каштоўнасьць „ИЗВ. ЦИК" №№ 215 і 216—20/IX і 21-IX 27 г.). Мы абмяжуемся выкладам адзначальных рысаў новых законаў аб статуце аб дзяржаўным гэрбавым зборы 1923 году.

Гэрбавы збор паводле новага закону, як раней, падзяляецца на просты і прапрацыянальны; просты таксама 4 разрадаў: 1 р. 65 к., 1 р. 15 к. і 6 к., але прапрацыянальны толькі 3х- разрадаў замест існаваўшых раней 7 разрадаў: 0,5 проц., 0,25 проц. і 0,15 проц. з сумы дакумэнту.

Сыстэма выкладу тая самая, як у статуце 1923 г.; да статуту даданы: 1) табэль дакумэнтаў, падлягаючых гэрбаваму збору і 2) пералік выняткаў. Гэрбавы збор, паводле роду дакумэнтаў, якія аплачваюцца ім, мае дваякі характар: а) характар пошліны па заявах якія падаюцца ў дзяржаўныя ўстановы для разгляду і выдачы адказу або якіх—небудзь дакумэнтаў і б) характар падатку—па дакумэн-

мэнтах па зьдзелках. Найбольш паважная адзнака новага статуту—спрошчаны і скарочаны табэль дакумэнтаў, падлягаючых гэрбаваму збору. Ранейшы табэль зьмяшчаў шмат дакумэнтаў па грамадзянска-праўных зьдзелках і быў вельмі цяжкі для вывучэньня; установы і прадпрыемствы былі вымушаны зварачацца да спэцыялістых з прычыны таго, што яны самі ня мелі магчымасьці дэтальна азнаёміцца з многалікавымі растлумачэньнямі „Цэнтраналогу“ і заўсёды рызыкавалі падпасьці пад штраф за няправільную або несваячасную аплату гэрбавага збору. Новы табэль зьмяшчае толькі 29 параграфаў, у якіх паказаны ўсечыста дакументы, падлягаючыя гэрбаваму збору. Кожны карыстаючыйся гэтым пералікам ведае, што дакумэнты, не паказаныя ў табэлі, —не абкладаюцца гэрбавым зборам.

Пералік абкладаемых гэрбавым зборам зварачэньняў прыватных асоб да дзяржаўных установаў і дакумэнтаў, якія выдаюцца па гэтых зварачэньнях, дапоўнены заявамі, якія падаюцца тэлеграфам, і тэлеграфнымі адказамі на гэтыя заявы.

З ліку дагавораў абкладаюцца гэрбавым зборам толькі наступныя: аб адчужэньні будынкаў; аб набыцьці і адчужэньні права забудоўкі; аб адчужэньні гандлёвых і прамысловых прадпрыемств; аб дарэньні ўсякага роду маемасьці; аб найманьні будынкаў і памяшканьняў, а таксама аб арэндзе нетраў зямлі прыватнымі асобамі, калі дагавор пасьвядчаецца ў натарыяльным парадку; аб адчужэньні і найме марскіх і рэчных судзен; таварыства поўнага, па веры, з абмежаванай адказнасьцю і простага; дагаворы концэсыйныя.

Дагаворы аб няўстойцы, аб залозе, аб перадачы праў і абавязкаў і аб зьмене або дапаўненьні раней заключаных дагавораў, абкладаюцца гэрбавым зборам толькі тады, калі яны адносяцца да вышэйпералічаных дагавораў, уключаных у табэль.

Рахункі, расьпіскі і квіткі не падлягаюць гэрбаваму збору.

З дакумэнтаў па даўгавых зьдзелках—пазычковыя лісты, даўгавыя расьпіскі, рахункі, падпісаныя даўжнікам і інш., звольнены ад гэрбавага збору і абкладаюцца, як раней, вэксалі зборам у разьмеры 25 кап. з кожных 100 рублёў, але пры вылічэньні збору кожная няпоўная сотня лічыцца за поўную.

Дакумэнты па зьдзелах, сума якіх не перавышае 5 рублёў (раней—3 руб.), звальняюцца ад гэрабвага збору.

Усе дакумэнты па зьдзелках гандлёва прамысловага звароту—дагаворы куплі-продажу, камісійныя, аб падрадах і дастаўках, рахункі, фактуры, расьпіскі і г. д. цяпер звальняюцца ад гэрбавага збору. На замену гэтага ўсе гандлёвыя і прамысловыя прадпрыемствы, якія прыцягваюцца да зраўнальнага збору, абкладаюцца падаткам з звароту цэннасьцяў у разьмеры 0,55 проц. з звароту, апроч некаторых прадпрыемств, паказаных у законе, якія абкладаюцца ў разьмеры ад 0,2 проц. да 1 проц. Ад падатку звальняюцца прамысловыя каапэрацыйныя організацыі, опэрацыі дзяржаўных і каапэрацыйных організацый па вывозе за граніцу нярэнтабельных тавараў і опэрацыі дзяржаўных прадпрыемств па вырабе прадметаў забясьпячэньня Чырвонай Арміі.

Пералік выняткаў падзьляецца, як раней, на дзьве часткі: пералік установаў, прадпрыемств і асоб, якія звальняюцца ад гэрбавага збору, але павінны сачыць за правільнай аплатай атрымоўваемых імі дакумэнтаў, прычым за няправільную аплату апошніх адказваюць абедзьве староны,—і пералік дакумэнтаў, якія звальняюцца ад гэрбавага збору незалежна ад таго, хто зьяўляецца стараной ў гэтых дакумэнтах. Гэты пералік значна пашыраны ў параўнаньні з ранейшым—

ён зьмяшчае 123 параграфы замест 79. У новым законе ўведзена новае правіла, што дакумэнты аплачваюцца гэрбавым зборам не ў момант іх подпісу або выдачы, але ў двохтыднёвы тэрмін ад дню іх выдачы.

Урэшце значна зьменены карныя артыкулы; замест 10—кратнага штрафу ўстаноўлены штраф ня звыш 10—кратнага, што дае права фінансавым органам накладаць штраф у кожным выпадку ў залежнасьці ад акалічнасьцяў справы; службовыя асобы дзяржаўных устаноў падлягаюць толькі дысцыплінарнаму пакараньню, але не грашоваму штрафу.

С. Рахманін.

---

# УРАЖЭНЬНІ ПА РЭВІЗІІ.

## Гомельскі Акруговы суд.

Гомельскі акруговы суд ва ў мовах Беларусі зьяўляецца параўнаўча маладой судовай адзінакай і ён арганізаван з моманту далучэньня Гомельшчыны да БССР—у студзені месяцы 1927 г. На тэрыторыі Гомельскай акругі маецца 21 вучасткаў народнага суду, 10 вучасткаў судовых выканаўцаў, 2 натарыяльныя канторы. Акруговая Калегія Абаронцаў.

Па палажэньню аб судабудаўніцтве на Акруговыя Суды ўскладзены тры асноўныя задачы: 1) Арганізацыйна—адміністрацыйнае кіраўніцтва ўсёю сеткаю судовых устаноў на тэрыторыі акругі, 2) касацыйны разгляд спраў і 3) разгляд спраў 1-ай інстанцыі, аднесеных да падсуднасьці Акруговага Суду.

Праца Гомельскага Акруговага Суду праходзіла ва ўмовах выкананьня, галоўным чынам, апошніх двух задач—судовай дзейнасьці і мала аддавалася ўвагі кіраўніцтву сеткаю судовых устаноў, і ў выніку гэта асноўная галіна працы акрсуду праводзілася вельмі слаба.

### Пленум акрсуду.

Пленум Акрсуду працаваў з значнымі перабоямі, маюцца выпадкі месячных перарываў у пасяджэньнях Пленуму. На пленуме абгаварваліся, галоўным чынам, пытаньні асабовага складу (перамяшчэньні, назначэньні і г. д.) і разглядаліся справы, якія паступілі ў парадку нагляду.

На працягу 11 месяцаў Пленум заслухаў толькі 4 справаздачы народных судзьдзяў аб іх дзейнасьці а справаздачы, судовых выканаўцаў зусім не заслухоўваліся. Калегіі абаронцаў з боку Пленуму было аддадзена досыць увагі. Каляндарны плян працы Пленуму адсутнічаў. Аб'ясьненьня нерэгулярнай працы Пленуму трэба шукаць у пастаноўцы працы апошняга. Пасяджэньні Пленуму звычайна скліkаліся ў непрацоўны час і члены Пленуму, будучы занятымі правядзеньнем шэрагу Савецкіх і грамадзкіх кампаній, ня мелі магчымасьці прыймаць удзелу ў працы Пленуму і пасяджэньні апошняга зрываліся.

### Выязныя сэсіі.

Акруговым Судом было арганізавана 6 выязных сэсій, у якіх разгледжана 78 спраў, што складае 32,5 проц. усіх спраў разгледжаных па сутнасьці.

Народнымі судамі Гомельскай акругі, па даных першага паўгодзьдзя 1927 г. было арганізавана 65 вызных Сэсій агульнай працяжнасьцю ў 136 дзён, у якіх было закончана 1055 крымінальных і грамадзянскіх спраў або 9 проц. да агульнай колькасьці спраў, разгледжаных народнамі судамі па сутнасьці.

У сярэднім за 6 месяцаў, на адзін вучастак нарсуду прыходзіцца 3 вызных Сэсіі, з двух дзенным прабываньнем пры кожным вызьдзе ў вёсцы; заканчэньне спраў у аднэй вызной сэсіі складае—16 справы.

## Рэвізыйныя абсьледваньні.

Гомельскім Акруговым Судом у прыцягу 11 месяцаў было абрэвізавана 8 вучасткаў народнага суда (38 проц. усёй сеткі), 3 вучасткі судовых выканаўцаў (30 проц. агульнай колькасьці) і 2 натарыяльных канторы (100 проц.).

Па пляну працы Гомельскага Акрсуду на 1927 г. было намечана вытварэньне рэвізій усёй сеткі судовых устаноў на тэрыторыі акругі.

Значная частка рэвізій была зроблена фактычна адным членам Акрсуду, на працягу аднаго дня і, зразумела, што такія рэвізіі немаглі мець здавальняючага характару. Цэлы шэраг момантаў работы народнага суду—плянавасьць у працы, выкананьне раней дадзеных дырэктыў, распарадчыя пасяджэньні, прыпыненыя справы і г. д.,—засталіся зусім ня высьвятленымі. Адзначан выпадык, калі рэвізуючым зусім не праглядаліся крымінальныя справы, закончаныя нарсудом;—у адным вучастку рэвізія была зроблена ў адсутнасьці народнага судзьдзі і сакратара.

Рэвізыйныя абсьледваньні маюць сваёй асноўнай мэтаю інструктаваньньне народнага судзьдзі і сакратара і выпраўленьня памылак дапушчаемых апошнім у іх практычнай працы. Між тым большасьць рэвізій Гомельскага Акрсуда насілі паверхавы, галоўным чынам, рэвізійны, мала даючы акрсудом у іх практычнай працы, характар.

## Касацыйная практыка.

Колькасьць прайшоўшых касацыйных спраў за 1927 год. складае: Крымінальных—1595, грамадзянскіх—2094. Усярэднім, у адным судовым пасяджэньні разглядалася 18-19 спраў. Вынікі Касацыйнага разгляду спраў з наступных даных.

| Крымінальныя справы | | | | | | Грамадз. справы | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Застаўлена ў сіле | Зьменена ў пар. арт. 419-а КПК | Скасавана | Спынена ўсілу арт. 418 КПК | Арт. 4-а КПК | Арт. 10 КПК | Пакін. ўсіле | Адменена |
| 60,2% | 9,7% | 15,9% | 12% | 1,6% | 0,6% | 61,5% | 38,5% |

Праца Касацыйных адзяленьняў зьяўляецца здавальняючай. Па ўсіх справах выносяцца мытываваныя вызначэньні. У вызначэньнях маюцца тлумачэньні матар'яльнага і працэсуальнага права. Арт. 419-а Крым. Прац. Код. дыпасоўваўся правільна і

пры наяўнасьці належных падстаў, чым належным чынам выпраўлялася лінія народных судоў. У галіне Крымінальных спраў нарсудам даваўся шэраг кіраўнічых паказаньняў шляхам прыватных вызначэньняў, колькасьць апошніх па грамадзянскіх справах незначна. Адзначаецца некатары перабой касацыйных аддзяленьняў у бок пераацэнкі доказаў, устаноўленых судом 1-ай інстанцыі.

Падлік касацыйнай практыкі наладжан шляхам прымацаваньня групы нарсудоў да пэўнага члена акрсуду, аднак, матарыялы падліку да гэтага часу не скарыстоўваліся, ня было выдана дырэктыўных лістоў на падставе касацыйнай практыкі, а таксама не складаліся характарыстыкі на народных судзьдзяў.

## Першая інстанцыя.

У Гомельскі Акрсуд паступіла 1076 Крымінальных спраў. З іх закончана Акруговым судом 890 і спынена ў распарадчых пасяджэньнях 72 проц. і прапушчана спраў з абвінавальнымі заключэньнямі 28 проц. У распарадных пасяджэньнях Акрсудом шырока выкарыстоўваецца права, дадзенае яму арт. 238 ГПК. (Спыненьне спраў, у выпадках накіраваньня іх у суд з абвінавальным заключэньнем).

Па закончаных справах было аддана суду 433 чалавек, з іх асуджана—60 проц. і апраўдана—40 проц. Вынасімыя акрсудом прыгаворы адпавядаюць агульнаму духу савецкай судовай палітыкі і ніякіх ухілаў ня выяўлена. Супастаўляючы меры сацыяльнай абароны дапасоўваемыя Акрсудом і стан злачынства на тэрыторыі Гомельскай акругі належыць прызнаць, што лінія Акрсуду і ў гэтых адносінах наогул была правільнай.

Грамадзянскіх спраў паступіла—70, з іх першае месца займаюць іскі прыватных асоб да прыватных—22 справы, далей ідуць іскі прыватных асоб да дзяржаўных устаноў—13спраў. Адзначаецца некаторая марудласьць у праходжэньні грамадзянскіх спраў: сярэдні тэрмін руху справы ад паступленьня да заключэньня ровен чатыром месяцам.

Клясавая лінія Акрсуду па грамадзянскіх справах была вытрыманай і ініцыятыва суду ў працэсе—выстарчальнай.

## Рацыяналізацыя.

У адносінах рацыяналізацыі працы Гомельскі Акрсуд мае значныя дасягненьні.

Акруговы суд поўнасьцю першы ў Беларусіі перавёў сваё дзелаводзтва на картачную сыстэму, якая ўсім складам тэхнічных працаўнікоў усвоена. Пераход на картачную сыстэму ўскорыў праходжэньне папер, спрасьціў працу і ўстанавіў сыстэму самакантролю.

Вопыт пераходу на картачную сыстэму сябе цалкам апраўдаў, і ў сучасны момант НКЮ распрацоўвае мерапрыемствы на пераводзе ўсіх органаў Юстыцыі БССР на картачную сыстэму.

Акрсудом праведзена прызначэньне касацыйных крымінальных і грамадзянскіх спраў да слуханьня беспасрэдна народнымі судамі.

Расклад пасяджэньняў касацыйнай інстнацыі загадзя павядамляецца нарсудом з паказаньнем дню і часу і апошнія пры атрыманьні касацыйнай скаргі адразу-ж абвяшчаюць касатару аб тэрміне слуханьня яго справы ў Акрсудзе, чым дасягнута прыбліжэньне суду да насельніцтва, таксама ўскарэньне і спрашчэньне працэсу.

Разьмер часопіснага артыкулу не дазваляе затрымацца на іншых момантах працы Гомакрсуду. У заключэньні я лічу неабходным зазначыць асноўныя задачы, якія стаяць перад Акрсудом.

17 мая 1927 г. НКЮ па дакладу Старшыні Гомакрсуду даў цэлы шэраг дырэктыў, якія ў асноўным, і ў сучасны момант стаяць перад Акрсудом,—гэта:

1) узмацненьне сувязі і кіраўніцтва з нарсудамі і судовымі выканаўцамі, для чаго рэгулярна заслухоўваць іх даклады на Пленуме Акрсуду;

2) наладзіць плянувую працу ПленумуАкрсуду, забясьпечыўшы рэгулярнасьць апошніх;

3) узмацніць колькасьць і паглыбіць якасна праваджімыя Акрсудом рэвізыйныя абсьледваньні.

4) палепшыць інструктаваньне народных судоў шляхам: а) павялічэньня прыватных вызначэньняў па грамадзянскіх справах, б) выданьня, сыстаматычна, на падставе касацыйнай практыкі, дырэктыўных лістоў, в) складаньне на кожнага народнага судзьдзю кожнага паўгодзьдзя характарыстык, в) правядзеньня іспытаў народных судзьдзяў і д) наладжваньня самаадукацыйнай працы па падняцьцю кваліфікацыі судовых працаўнікоў, е) увядзеньня ў сыстэму выкліку народных судзьдзяў у якасьці нарзасядатаяляў па грамадзянскіх справах 1-ай інстанцыі;

5) ухіляцца фактычнай пераацэнкі доказаў у касацыйнай інстанцыі, устаноўленых судом 1-ай інстанцыі;

6) у мэтах абмену вопытам месц правесьці раённыя нарады Акруговы зьезд працаўнікоў юстыцыі.

Выкананьне гэтых задач дае магчымасьць Акруговаму Суду стаць сапраўдным кіраўнічым цэнтрам у сей сеткі судовых устаноў на тэрыторыі акругі.

**В. Гінцбург.**

# Старонка практыка.

## СПРЭЧНЫЯ ПЫТАНЬНІ.

Закон, і ў прыватнасьці грамадзянскія законы, як-бы падрабязна ён ня быў выкладзен ня можа прадугледзіць і даць ясныя, пэўныя адказы на паасобныя пытаньні, якія ўзьнікаюць у дзелавым штодзённым жыцьці.

Нярэдка ўзьнікаюць такія пытаньні, адказы на каторыя можна даць толькі шляхам тлумачэньня закону, абгуртованага пры гэтым не на яго літары, а на агульным сэнсе.

Ніжэй будуць выкладзены некалькі такіх пытаньняў, каторыя ўзьніклі на практыцы і каторыя прадстаўляюць пэўны інтарэс.

I.

Адна крэдытная арганізацыя зьвярнулася ў Народны Камісарыят Юстыцыі з запытаньнем аб тым, *ці дапусьціма па закону выдача даверанасьці на вядзеньне судовых і пратэнзіёзных спраў на імя юрыдычнай асобы.*

НКЮ на гэта пытаньне даў адмоўны адказ.

Пад імем давернасьці разумеецца договор, у сілу каторага адна асоба абавязуецца быць прадстаўніком другой па якому-небудзь грамадзянскаму дзеяньню. У гэтым дагаворы ўдзельнічаюць дзьве стараны: давернік і паверaны. Кожная асоба здольная да грамадзянскай дзейнасьці і можа ўдзельнічаць у дагаворы даверанасьці ў якасьці верніка, можа даручыць другому, са згоды апошняга, учыніць за яго якое-небудзь дзеяньне.

Паводле арт. 16 Гр. Код. БССР юрыдычная асоба ўдзельнічае ў грамадзянскім звароце і ўступае ў зьдзелкі праз свае органы (гэта-законнае прадстаўніцтва), або праз сваіх прадстаўнікоў. Адсюль ясна, што юрыдычная асоба можа заключаць дагаворы давернасьці ў якасьці верніка, калі толькі гэта ня выходзіць з кругу дзейнасьці юрыдычнай асобы. Арт. 269 ГК БССР, даючы пералік умоў, пры наступленьні каторых даручэньне спыняецца, паказвае як на сьмерць верніка, абвяшчэньне яго ня дзеяздольным, бяз веддама адсутным, або немаемасным, таксама і на спыненьне юрыдычнай асобы, ад імя каторай выдана даверанасьць. Значыцца, і тут пэўна маецца на ўвазе, што вернікам можа быць юрыдычная асоба.

Наадварот, той-жа арт. 269 ГК БССР, ўстанаўліваючы у п. „г“, што сьмерць паверанага таксама зьяўляецца ўмовай спыненьня даручэньня, не ўпамінае пры гэтым аб спыненьні юрыдычнай асобы. Відаць закон меў на ўвазе, што ў якасьці паверанага можа выступаць толькі фізычная асоба.

Калі мы зьвернемся да спэцыяльнага закону аб прадстаўніцтве на судзе—арт. 26 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу БССР, то ўбачым, што і ён не прадугледжвае магчымасьці для юрыдычнай

асобы быць прадстаўніком на судзе. Арт. гэты толькі дакладна паказвае, хто менавіта з фізычных асоб можа быць паверaным на судзе (п. „б“ арт. 16 ГПК кажа, што па справах рабочых і служачых прадстаўніком можа быць *упаўнаважаны* профсаюзу, г. зн. зноў такі асоба фізычная).

Вывад аб тым, што юрыдычная асоба ня можа выступаць у якасьці паверанай падцьвярджаецца таксама пастановай арт. 16 ГК БССР. Згодна гэтага арт. „юрыдычныя асобы ўдзельнічаюць у грамадзянскім звароце і ўступаюць у зьдзелкі праз свае органы або праз сваіх прадстаўнікоў“. Ясна, што юрыдычная асоба, каторая ня можа дзейнічаць у грамадзянскім звароце інакш, як праз законных прадстаўнікоў, ня можа сама быць прадстаўніком даверaным другой асобы, бо ад прадстаўніка патрабуецца выяўленьне яго волі, як ня ясна само па сабе выстаўленае вышэй палажэньне, яно ўсё-ж нярэдка выклікае пярэчаньні як таму, што ў законе няма прамой і пэўнай забароны юрдычным асобам заключаць дагаворы даверанасьці ў якасьці паверанага, так ў асаблівасьці з прычыны зьмяншэньня паняцьцяў юрыдычнай асобы, з аднаго боку, і яго органаў (праўленьне, дырэктар і г. д.),—з другога. Трэст ня можа быць паверaным, але яго дырэктар—можа; прафэсыянальны саюз ня можа быць паверaным, але яго ўпаўнаважаны—можа (п. „б“ арт. 16 ГПК БССР); словам, паверaным можа быць толькі такая асоба, каторая сама беспасрэдна мае права ўступаць у зьдзелкі; юрыдычная асоба, як зазначана вышэй, такім правам не ўладае, чаму яна і ня можа быць паверaным.

II.

У адну з натарыяльных кантор зьвярнуліся з патрабаваньнем аб пасьведчаньні даверанасьці ад імя аднэй асобы на імя трох асоб, каторым давяраецца весьці судовыя справы, якія выцякаюць з дагавораў перавозкі, а таксама пред‘явіць прэтэнзіі ў парадку статуту чыгуначных дарог. Пры гэтым у паданай да пасьведчаньня даверанасьці абмоўлена, што паверaныя могуць дзейнічаць сумесна і кожны з іх у паасобку.

У натарыуса ўзьніклі два пытаньні: а) ці можна пасьведчаць такога роду даверанасьці і б) калі можна, то ці не належыць іх аплаціць, па ліку паверaных, як тры даверанасьці.

Зварочваючыся да вырашэньня пастаўленага пытаньня, належыць адзначыць, што ні агульныя нормы абавязальнага права, ні спэцыяльныя правілы ГК аб даверанасьцях нідзе не ўстанаўліваюць забароны заключаць такія дагаворы даверанасьці, у каторых абавязкі паверанага ўскладаюцца на некалькіх асоб. Пагэтаму заключэньне падобнага дагавору належыць лічыць упаўне дапусьцімым па закону. Сутнасьць пытаньня ў даным выпадку зводзіцца, галоўным чынам, да таго, ці належыць лічыць апісаны вышэй дагавор даверанасьці як адзіны дагавор, або як некалькі даверанасьцяй, з якіх кожная падлягае аплаце гэрбавым і натарыяльным зборам.

Той або іншы адказ на пастаўленае пытаньне, можна даць толькі на падставе аналізу самага дагавору даверанасьці.

Калі-б даверанасьць выдавалася некалькім асобам на вядзеньне аднэй якой-небудзь справы, то яе належыла-б прызнаць адным дагаворам, нягледзячы на ўдзел у ім на адным баку некалькіх асоб, бо ў такім выпадку па сутнасьці мы мелі-б адно даручэньне некалькім асобам; тым больш пры даверанасьці на ўчыненьне аднаго якога-небудзь дзеяньня.

Іншая справа — прыведзены вышэй выпадак. Тут тром асобам давяраецца прад'яўленьне цэлага шэрагу прэтэнзій і вядзеньне цэлага шэрагу судовых спраў. Дзейнасьць паверанных тут не аб'яднаецца агульнасьцю справы, наадварот, упаўне мысьліма, што ў адзін і той-жа час патрабуецца выступленьне ў розных мясцох усіх трох паверанных. У такім выпадку двое з іх павінны будуць мець на руках копіі даверанасьці. Гэта апошняя акалічнасьць досыць ясна паказвае на тое, што копіі даверанасьці будуць замяняць перадавер'е. Адсюль належыць заключыць, што і мэтай учыненьня указанай вышэй аднэй даверанасьці на імя трох асоб зьяўляецца жаданьне ўхіліцца выдачы перадавер'я, што выклікае за сабою лішнюю аплату гэрбавым зборам і пошлінамі. А калі гэта так, то неабходна прызнаць, што ў падобнай даверанасьці па сутнасьці заключаюцца тры даверанасьці: кожнаму з паверанных на вядзеньне ўсіх спраў верніка. Пагэтаму і апалачвацца яны павінны як тры, а не як адна даверанасьць.*

## III.

Акцыянэрнае таварыства ліквідуецца. Ліквідацыйная яго камісія жадаючая прадаць прыналежачы ліквідуемаму таварыству дом, намерана, абапіраючыся на арт. 116 палажэньня аб акцыянэрных таварыствах, скасаваць да тэрміну дагавор, па катораму адно з памяшканьняў у доме таварыствам здана ў арэнду.

Зварочваючыся да зьместу паказанага вышэй артыкулу 116 палажэньня аб акцыянэрных таварыствах (З. З. Саюзу ССР 1927 г. № 49, арт. 500) трэба адзначыць, што ён сапраўды дае ліквідацыйным камісіям акцыянэрных таварыстваў права, ў выпадку неабходнасьці, прызнаваць спынёнымі дагаворы, тэрмін выкананьня каторых выходзіць за межы ліквідацыйнага тэрміну.

Выкладзеныя правілы датычаць да ўсіх дагавораў, каторыя былі заключэны акцыянэрным таварыствам, да моманту яго ліквідаваньня.

Вышэй паказаны дагавор арэнды заключан акцыянэрным таварыствам да моманту яго ліквідаваньня і пагэтаму, здавалася-б, да яго дапасовальна правіла арт. 116 Пал. аб Акц. Т-вах. Аднак, пры аналізе зьдзелкі, нятрудна высьвятліць, што гэта ня так.

Справа ў тым, што дагавор найму памяшканьня мае зусім рознае значэньне, у залежнасьці ад таго, з пункту гледжаньня якога з суб'ектаў яго, мы будзем яго абгаварваць. Калі-б ліквідуемые акцыянэрнае таварыства было ў гэтым дагаворы наймальнікам, то ясна, што ня было-б ніякіх перашкод да яго спыненьня да зыходу тэрміну на падставе арт. 16.

Зусім іншае становішча акцыянэрнага Т-ва ў даным выпадку. Тут яно зьяўляецца ўласьнікам дому і наймальнікам, а пагэтаму для яго абавязкова норма арт. 171 Грам. Код. БССР аб тым, што зьмена ў асобе ўласьніка дому не адбіваецца на лёсе дагавору найму, каторы, зьяўляючыся абцяжараваньнем, на будынку, пераходзіць і на новага ўласьніка. У прыведзеным выпадау дом зьяўляецца маемасьцю з пэўным абцяжарэньнем якое па сіле арт. 171 ГК БССР ня можа быць самавольна зьнята аднэй стараной.

---

*) Увага рэдакцыі: НКЮ па гэтаму пытаньню растлумачыў, што даверанасьць ў такім выпадку павінна аплачвацца адзін раз на падставе арт. арт. 10 і 33 Пал. аб гэрбавым зборы.

Дзеля гэтага належыць прыйсьці да заключэньня аб недапасавальнасьці да данага выпадку арт. 116 Палажэньня аб Акцыянэрных таварыствах. Ды гэта выцякае таксама і з таго, што выражанае ў арт. 116 права скасаваньне дагавораў, ліквідуемага акцыянэрнага, таварыства, аб'ясьняецца немагчымасьцю, за ліквідаваньне таварыства, далейшае яго выкананьне, бо адзін з кантрагэнтаў дагавору-акцыянэрнае таварыства зьнішчаецца. Усё гэта тычыцца чыста абавязальных адносін. У дачым-жа выпадку ў наймальніка ёсьць пэўнае права на маемасьць, права захоўваючае па арт. 171 ГК БССР сваю сілу і пасьля перамены ўласьніка маемасьці. Пры ліквідаваньні таварыства дом можа быць перадан аднаму з крэдытораў або прадан, але абцяжарваючы яго дагавор аб найме захаваюць сілу і ў адносінах да новага ўласьніка яго.

У паказаным сэнсе па выкладзенаму пытаньню і дадзена растлумачэньне Народным Камісарыятам Юстыцы па запытаньню ліквідацыйнай камісіі аднаго з акцыянэрных таварystваў.

IУ.

Як відаць з растлумачэньня НКЮ УССР па Адзелу Заканадаўчых Праэктаў ад 11 лютага 1927 г. (З. З. УССР 1927 г. II Аддз. № 8 арт. 35), у практыцы крэдытных установў наглядаюцца выпадкі, калі банкі адмаўляюцца ад прыняцьця для банкаўскіх апэрацый (на дысконт, на інкасо і інш.) вэксалёў пісаных на ўкраінскай мове, з прычыны таго, што да іх не прыкладзена перакладу на рускай мове ў тых выпадках, калі вэксалі пасылаюцца ўстановам тых мясцовасьцяй, дзе украінская мова ня прызнана за абавязковую ў дзяржаўных установах.

Пагэтаму поваду НКЮ УССР даў наступныя растлумачэньні:

а) Банкі і іх канторы, якія функцыяніруюць на тэрыторыі УССР, ня маюць права адмаўляцца ад прыняцьця для апэрацыі вэксаляў напісаных на украінскай або на мове якіх-небудзь нацменшынстваў УССР, толькі па тэй прычыне, што да яго не прыкладзена патрэбнага ім для іх апэрацый перакладу.

У тых-жа выпадках, калі пры вытварэньні банкамі іх апэрацый зьявілася-б патрэбнасьць перакласьці вэксаль на якую-небудзь іншую мову, то банкі павінны самі паклапаціцца аб такім перакладзе і засьведчыць яго ў устаноўленым парадку.

б) Вэксаль можна пісаць на мове кожнай з нацменшынств, якія знаходзяцца на тэрыторыі УССР, і такі вэксаль мае вэксальную сілу ў УССР без далучэньня да яго перакладу на ўкраінскай мове.

Прыведзенае вышэй растлумачэньне НКЮ УССР можа прадстаўляць інтарэс і ў нас.

Калі па заканадаўству БССР здаецца несумненным права складаць вэксалі на любой з чатырох дзяржаўных моў (беларуская, руская, яўрэйская і польская), то можа ўзьнікнуць сумненьне аб праве пісаць вэксалі на іншых мовах, г. зн. на мовах нацменшынств, якія жывуць на тэрыторыі БССР, мова каторых ня ўключана ў лік дзяржаўных, так і на іншых мовах.

Палажэньне аб вэксалёх у арт. 2 п. „б“ і ў арт. 17 п. 2, пералічаючых рэквізыты вэксалю простага і пераводнага, пэўна робяць спасланьне на тое, што, напрыклад, слова „вэксаль“ павінна быць прастаўлена на тэй мове, на якой складаўся самы тэкст вэксалю. Такім чынам у палажэньні аб вексалёх не ўстаноўлена патрабаваньне, каб вэксаль пісаўся толькі на аднэй якой-небудзь мове

або хоць-бы на аднэй з некалькіх дзяржаўных моў. Гэта выцякае між іншым і з таго, што вэксаль па сутнасьці сваёй зьяўляецца зьдзелкай простай (арт. 27 ГК), простыя-ж зьдзелкі могуць пісацца ня толькі на дзяржаўнай, але і на любой іншай мове.

Дзеля гэтага ў нас, у БССР, *ня маецца ніякіх законных падстаў да забароны напісаньня вэксалю на любой мове.*

Зварочваючыся да растлумачэньня НКЮ УССР, мы лічым правільным хоць і некалькі звужаным 2-гі п. гэтага растлумачэньня. Што-ж тычыцца 1-га п., і асабліва другой яе часткі, то з правільнасьцю яе нельга згадзіцца. Нельга *прымушаць* Банк прыймаць да дысконту або на інкасо вэксалі, якія напісаны не на дзяржаўнай мове. Гэта надмерна абцяжарыла-б нашы крэдытныя ўстановы, гэта ішло-б таксама ў разрэз з прынцыпам, які выкладзен ў арт. 13 пал. аб Дзярж. натарыяце БССР (З. З. БССР—27 г, №5, арт. 17).

Пагэтаму трэба прызнаць, што вэксаль можа быць напісан ня толькі на аднэй з дзяржаўных моў, але на любой мове, хоць-бы ён і не адносіўся да групы мясцовых моў данай саюзнай рэспублікі, і такі вэксаль будзе мець вэксальную сілу на тэрыторыі БССР.

Іншая справа—пытаньне аб прыёме такіх вэксалёў банкамі для сваіх апэрацый. Дзяржаўныя і іншыя банкі, дзейнічаючыя на тэрыторыі БССР абавязаны прыймаць вэксалі, пісаныя на любой з *дзяржаўных моў* БССР і ня маюць права патрабаваць перакладу, а калі для апэрацыі банку гэтакі неабходзен, Банк павінен зрабіць яго за свой рахунак. Але, калі вэксаль напісан на мове, не прыналежачай да ліку дзяржаўных, то банк мае права патрабаваць ад асоб, падаючых вэксалі да дысконту і іншых апэрацыяў, прадстаўленьне неабходнага перакладу на адну з моў дзяржаўных па паказаньню Банку.

**Б. В.**

---

## ПА ПЫТАНЬНЮ АБ ПРЫПЫНЕНЬНІ СПРАЎ У ГРАМАДЗЯНСКІМ ПРАЦЭСЕ І АБ ЗВАРОЧВАНЬНІ СУДОМ ІСКАВЫХ ЗАЯЎ. (арт. 2 і 31 ГПК).*

У №23—24 „Пролетарский суд“ за 1926 г. т. Дзюдзін у сваім артыкуле „по вопросу о прекращении дел в гражданском процессе“, лічыць, што абзац арт. 2 ГПК . . . „при чем принятие судом отказа лишает сторону права обращаться списком, основанным на тех-же основаниях“,—ставіць судзьдзю ў недаўменнае становішча ў тых выпадках, калі размова ідзе аб выпадковыхісках, якія выклікаюцца бытавымі акалічнасьцямі. Як прыклад, прыводзіць іск аб выдзеле часткі маемасьці с/г. двара, выкліканы сваркай у сям'і.

Прыгэтым, калі справа даходзіць да суда, стораны між сабою міряцца з тае прычыны, што яны хочуць жыць разам. Як быць суду,--пытае тав. Дзюдзін,—прыпыніць справу за прымірэньнем старон?—Здавалася-б нельга, бо потым, у моц арт. 2 ГПК, старонам нельга будзе зноў падняць такі-ж іск і на тых-жа падставах. Прымусіць стораны, апрача іх волі, драбіць гаспадарку зноў такі нельга і нямэтазгодна.

Так т. Дзюдзін, недаўмявае і шукае выйсьця з становішча, як бы паставіць стораны ў *дасудовае* становішча.

Некаторым, на першы погляд, можа здавацца, што т. Дзюдзін праў. Усамай рэчы, такі выпадак можа быць з іскам аб высяленьні,

*) Гэты артыкул зьмяшчаецца ў парадку дыскусыйным.—Рэдкалегія

абгрунтованым на не плацяжы кватэрнай платы. Скажам, наймадальнік падаў іск аб высяленьні кватэранаймальніка, з тае прычыны, што апошні на працягу некалькіх месяцаў ня ўносіць кватэрнай платы; але як справа толькі дайшла да суда, кватэранаймальнік унёс прылічаючуюся кватэрную плату і ісцу засталося заявіць суду аб тым, што не жадае болей судзіцца і ня хоча свайго кватэранаймальніка высяляць, бо ён атрымаў здавальненьне. Суд спыніў справу. Аднак, прайшло яшчэ 4—5 месяцаў і кватэранаймальнік па ранейшаму неакурацен, ня ўносіць кватэрнай платы. З прычыны гэтага той-жа наймадальнік зварочваецца з такім-жа іскам і натакіх-жа падставах.

Няўжо-ж і тут нядаўменьне? Або —уладальнікі саматужнай майстэрні між сабою не паладзілі і адзін з іх падаў іск аб выдзеле яму часьці маемасьці і прыбыткаў. Як толькі справа дайшла да суда, стораны між сабою паладзілі і заявілі суду, што ў іх няма патрэбы ў разборы справы, бо яны прадаўжаюць зноў сумесна працаваць і больш ні абчым не спрачаюцца. Суд спыніў справу. Спусьціўшы паўгоду спрэчка між старанамі паўтарылася, а сьледам за тым паўтарылася гісторыя з прад'яўленьнем новага іску. Няўжо-ж зноў перашкодзіць разгляду справы арт. 2 ГПК.?

Але-ж прыклад, прыведзены т. Дзюдзіным, як і прыклады мною прыведзеныя, ні нахвілінку не падымаюць сумненьня ў тым, што ў старон да моманту разгляду справы ня было больш спрэчак, што няма болей патрэбы ў устанаўленьні праў старон, бо яны к таму моманту ці ўстаноўлены добраахвотна старонамі, ці не парушаюцца. Такім чынам ясна, што няма болей патрэбы ў разглядзе такой справы „з прычыны адсутнасьці спрэчкі“. Але-ж паводле арт. 2 ГПК суд прыступае да разгляду справы ня інакш, як па заяве зацікаўленай у тым стараны. Раз няма зацікаўленай стараны, бо няма парушанага права, нельга разглядаць справы і далейшае справаводзтва па такой справе павінна быць спынена.

Ці магчыма новае ўзбуджэньне іску „на такіх-жа падставах“ („але не на тых-жа падставах“)? Канечна-магчыма. Бо сходства падстаў можа быць заўёды. Прыклады: кватэранаймальнік, па зыходу 4-5 месяцаў, пасьля адбыўшагася замірэньня ў судзе і спыненьня справы, зноў перастаў плаціць, і наймадальніку зноў прышлося падаць іск аб высяленьні, зноў абгрунтованым на неплацяжы квартплаты; або, кампаньёны саматужнай майстэрні, або гандлёвага прадпрыемства, пасьля адбыўшагася замірэньня і спыненьня справы аб выдзеле, з тае прычыны, што яны зноў прадаўжаюць сумесна працаваць, праз некаторы час, зноў пасправаліся і няўжываюцца. Зноў новы іск аб выдзеле. Або навы такі прыклад—сумежны сусед, які парушыў уладаньне,—да разгляду справы добраахвотна аднавілі ўладаньне, абчым абодвы бакі заявілі суду і справа спынілася. Спусьціўшы год-два, ён зноў паўтарыў тую-ж гісторыю. Усе гэтыя прыклады паказваюць на тое, што ў даных выпадках адбылося новае парушэньне права, або настала зноў новая зацікаўленасьць стараны, абгрунтованая на іншых, хоць і тожсамых сходных, але, аднак, не „на тых-жа“ першых падставах. Важна толькі, каб у спыненьні справы зазначаліся матывы спыненьня з выкладаньнем падстаў, якія пабудзілі стораны да спыненьня справы. Аб гэтым адзначана ў цыркуляры НКЮ, РСФСР № 7-25 г. (Сж. Юст. № 6-25 г.).

Адзнака міравой згоды старон, заяўленага суду ад вышэйпрыведзеных прыкладаў,—спыненьне старанамі спрэчкі,— заключаецца ўнаступным. Міравая згода старон відазьмяняе прэваадносіны старон,

пагэтаму такая згода можа быць аформлена паасобным актам, заявай або запісам у пратаколе суду і з зацьвярджэньнем гэтакага судом, набывае потым выключны спосаб ажыцьцяўленьне праў, г. зн. спрошчаны парадак спагнаньня, шляхам атрыманьня суд-загоду. Адмова-ж ад іску з тае прычыны, што між старанамі ня існуе больш спрэчак, бо яны не парушаюцца, не зьяўляюцца міравой згодай старон, відазьмяняючым іх праваадносіны, а ёсьць толькі да моманту разгляду справы—або факт добраахватнага аднаўленьня адказчыкам парушанага права ісца (напрыклад: уплата адказчыкам квартплаты і адсутнасьць патрэбнасьці ў ісца хадайніцтва аб высяленьні, зварот захопленага, пазычанага і г. д.) або жаданьне старон не зьмяніць іх праваадносін існаваўшых і існуючых да моманту разгляду справы, (не падзяляць іх агульнай маёмасьці, жадаючы супольна жыць і працаваць у адным двары, прамысловым або гандлёвым прадпрыемстве і г. д.).

У апошнім выпадку не патрабуецца абавязковай згоды абедзвюх старон аб спыненьні справы, а досыць назвы аднаго толькі ісца аб адсутнасьці спрэчак.

II

Аднак, арт. 2 ГПК патрабуе сапраўднага дадатку і зьмены. У арт. 2 ГПК сказана толькі аб павялічэньні або памяншэньні іскавых патрэбаваньняў, але не гаворыцца аб поўнай адмове ад іску. Дзеля гэтага лічу, што для большай яснасьці —ў арт. 2 ГПК, пасьля слоў „старона можа павялічыць або паменшыць свае іскавыя патрабаваньні належыць—дадаць „або поўнасьцю адмовіцца ад іх“.

III

Далей арт. 2 ГПК кажа толькі аб тым, у якіх выпадках суд прыступае да разгляду справы, але нічога ня кажа аб тым, у чым павінны выяўляцца далейшыя дзеяньні суду, на выпадак выяўленьня пры разглядзе справы адсутнасьці або спыненьне спрэчкі між старанамі; адсутнасьці права на іск або на прад'яўленьне іску з прычыны пагашэньня такога права.

ГПК ведае адмову ў прыняцьці іскавой заявы, але па прычынах непадсуднасьці (арт. 31), вынясеньне рашэньня паводле арт. арт. 108, 174—176 і нарэшце адзін выпадак спыненьня справавядзеньня касацыйнай інстанцыяй пры адсутнасьці права на іск (арт. 289) і апроча таго маецца ўкоснае паказаньне на магчымасьць спыненьня першай інстанцыяй (арт. 166), у якім сказана „ . . . можа, неспыняючы справы, дапусьціць замену“, стала быць, можна і спыніць.

Як-жа, аднак, быць суду 1-ай інстанцыі, калі перастае патрэбнасьць у далейшым справавядзеньні?

Судовая практыка даказала, што адзіны выхад з становішча ёсьць спыненьне далейшага справавядзеньня па справе і гэты інстытут (спыненьне), павінен быць уведзен з пералічэньнем толькі неабходных для гэтага ўмоў.

Сапраўды. Што павінен рабіць суд, калі пры разглядзе справы выявілася, што разглядваемы іск зьяўляецца „паўторным“ паднятым „на тых-жа падставых“?. Няўжо-ж прадаўжаць разгляд справы і выносіць рашэньне паводле арт. арт. 108 і 176 ГПК аб адмове ў іску, у якім адзін раз таму-ж ісцу было адмоўлена, здавалася-б, паўтарацца лішне. Бо ў такіх выпадках у сілу арт. 2 ГПК, старана пазбаўлена права зьвярнуцца з новым іскам і суд не павінен такіх іскаў прыймаць, але калі прыняў і

выявіў адсутнасьць гэтакага права толькі пры разглядзе справы, ён павінен „спыніць далейшае справавядзеньне выносячы толькі пастанову аб спыненьні з выкладаньнем матываў па форме, прыстасавальна да арт. 176 ГПК.

Пры гэтым пытаньні аб прысуджэньні судовых выдаткаў па справе на карысьць адказчыка (у прыватнасьці выдаткаў, згодна ўвагі да арт. 46 ГПК.) павінна быць разьвязана ў залежнасьці ад таго, ці мог суд пры падачы заявы ведаць або ня ведаць аб тым, што яна не падлягае прыняцьцю і толькі ў тым выпадку, калі суд гэтага ня мог углядзець—гэтакія выдаткі прысуджаюцца.

Што павінен рабіць суд, каліісьцец, у сілу арт. 2 увод. закону да Гр. Код., аб увазе 1 да арт. 59 ГК, ня мае права на іск? Раз толькі пры разглядзе справы выяўлена адсутнасьць такога права, нечага адмаўляцца ў гэтакім, а належыць спыніць далейшыя судовыя дзеяньні па гэтакай справе.

Што павінен рабіць суд, калі пры разглядзе справы выявілася, што правы ісца на падаваньне іску пагашаны з прычыны зыходу тэрміну даўнасьці (арт. 44 ГК)? Напэўна далейшыя дзеяньні суду, па вырашэньню і адшуканьню матар'яльнага права па данай справе падлягаюць спыненьню. Магчыма толькі вынясеньне пастановы аб адмове ў хадайніцтве аб працягненьні тэрміну (арт. 49 ГК), як права не пагашанае.

Што павінен рабіць суд, калі пры разглядзе справы высьвятлілася, што іск падан не належнай асобай, а зрабіць замену ў парадку арт. ГПК не прадстаўляецца магчымым. Канечна, прыходзіцца толькі спыніць далейшыя дзеяньні суду па такой справе, спыніўшы самае справавядзеньне. Аб гэтым укосна кажа арт. 166 ГПК „ . . можа ня спыняючы справы дапусьціць замену",—стала быць пры немагчымасьці дапушчэньня замены прыходзіцца спыніць.

Хіба з сэнсу арт. арт. 166 і 246 ГПК ня яўствуе, што пры адсутнасьці праў у ісца на іск, пачатае справавядзеньне падлягае спыненьню.

Значыцца, гэта павінна быць уведзена, як агульнае правіла.

Вось чаму мяркую, што арт. 2 ГПК павінен быць выкладзен і дапоўнен наступным чынам: „Суд прыступае да разгляду справы ня інакш, як па заяве зацікаўленай стараны *і спыняе далейшае справавядзеньне па справе па заяве аб тымісцавой стараны, альбо абодвых старон, з прычыны адбыўшайся між імі міравой згоды, а таксама пры адсутнасьці ў ісца права на іск або на прад'яўленьне такавого*". . .

Старана можа ва ўсякім становішчы справы зьмяніць падставу іску (ня зьмяняючы, аднак, сутнасьці іскавога патрабаваньня), павялічыць або паменшыць свае іскавыя патрабаваньні, *альбо поўнасьцю адмовіцца ад іх. Адмова стараны ад прыналежачых ёй праў і судовай іх абароны—абгаварваецца судом і ад яго залежыць прыняцьце гэтакай, а прынятая судом адмова пазбаўляе старану права зьвярнуцца зноў з іскам, абгрунтованым на тых-жа падставах*":

Такое, на мой погляд, патрабаваньне нашай судовай практыкі ў сэнсе вырашэньня пытаньня пачацьця справавядзеньня і спыненьня пачатага справавядзеньня па грамадзянскай справе.

IV.

Але судовая практыка ведае выпадкі ўнікаяньня будачага пямінулага спыненьня спраў.

Высоўваючы лёзунг „ухіляйцеся ад надмернага і не патрэбнага судовага дзеяньня“, вопытныя судзьдзі пры прыёме іскавых заяўленьняў і ў парадку падрыхтоўкі справы, дапасавальна да арт. арт. 5 і 118 ГПК патрабуюць і падрыхтоўваюць усе неабходныя довады па справе (п. „г“ арт. 76 ГПК) і часта зварочваюць іскавыя заявы, з каторых відаць адсутнасьць права на іск або на прад'яўленьне такавога

Гэтым яны ўхіляюцца правядзеньня ўдзеяньне судовага апаратаў па справе, па каторай упасьледку, пачатыя дзеяньні прыдзецца ўсёроўна спыніць і староны ня ўводзяцца ў надмерныя выдаткі і трату часу.

Бадай, ці у каго небудзь з практыкаў—юрыстаў, у асаблівасьці судовых працаўнікоў, можа ўзьнікнуць сумненьне у тым, што пры навочнасьці, у момант падачы іскавой заявы, адсутнасьці праў у істца на іск у сілу арт. 2 увод. закону да Гр. Код., або ўвагі 1 да арт. 59 ГК. Паданая іскавая заява павінна быць зьвернута, (канечна з растлумачэньнем прычын звароту).

Але, ці можа гэта быць зроблена пры адсутнасці права на прад'яўленьне іску з прычыны пагашэньня гэтакага (арт. 44 ГК). Некаторыя, чаго добрага, скажуць, што зьвяртаючы такія заявы мы парушым арт. 5 ГПК, бо могуць быць выпадкі не ўпаўне граматнага выкладаньня іскавой заявы або неабходнасьць дапасаваньня арт. 49 ГК. (працягненьне тэрміну), альбо налічча перарыву даўнасьці (арт. 50 ГК.), каторагаісьцец не ўказаў.

На мой погляд усе гэтыя небясьпекі лішнія, бо на выпадак узвароту заявы,—старана не пазбаўлена магчымасьці васпоўніць дэфэкты сваёй іскавой заявы, ці шляхам падачы асобнай заявы з прыкладам узьвернутага і з хадайніцтвам аб прыцягненьні тэрміну, паводле арт. 49 ГК, альбо шляхам перакладаньня сваёй іскавой заявы з выкладаньнем акалічнасьцяй, якія зазначаюць на наяўнасьць перапынку даўнасьці.

Хіба іскавыя заявы не адказваючыя патрабаваньням 76 і 78 арт. ГПК ня цягнуць за сабою пасьледкаў па арт. 81 ГПК?—Хіба папера, паданая з пропускам працэсуальнага тэрміну не застаўляецца без разгляду (арт. 65 ГПК), але такавы іск можа быць працягнут (арт. 61 ГПК) па просьбе зацікаўленай стараны з прыкладаньнем паперы, на падачу каторай-быў прапушчан тэрмін (арт. 64 ГПК) і з выклікам старон (арт. 63 ГПК)? Хіба правы старон пры такім становішчы не ахованы, а разам з тым ухіляюцца непатрэбныя судовыя дзеяньні і валакіта? Вось чаму мяркую, што арт. 31 ГПК, які дае права ўзвароту іскавой заявы па непадсуднасьці павінен быць зьменен і дапоўнен наступным чынам.

„Прызнаючы справу сабе непадсуднай, альбо ўглядзеў наяўнасьць адсутнасьці права на іск або на прад'яўленьне такавога, народны суд зварочвае паданую яму іскавую заяву разам з прыкладам і рэзалюцыяй на ёй, або копіяй пастановы аб прычынах няпрыняцьця іскавой заявы. На пастанову суду аб няпрыняцьці іскавой заявы дапушчаецца прыватная скара ў Акрсуд (арт. 292 ГПК)“.

*Я. Корт.*

---

## АБ РЭПРЭСІІ ЗА ДЗЕТАГУБСТВА.

Аднясеньне заканадаўцам дзетагубства да катэгорыі кваліфікаваных забойстваў, і крайняя неадпаведнасьць судовых прыгавароў па справах аб дзетагубствах санкцыі арт. 142 КК, паслужылі прычынай

выданьня ККК Вярхоўнага Суду РСФСР, інструкцыйнага ліста аб карнай палітыцы ў адносінах гэтых спраў. Улічваючы, што дзетагубства, у аграмаднай большасьці выпадкаў, зьяўляецца вынікам: 1) вострай матар'яльнай патрэбы мацеры, абракаючай яе і дзіцё на галоднае існаваньне, 2) вострага пачуцьця сораму, пад дауленьнем цёмна-неадукаванага асяродьдзя, утвараючай ў будучым невынасімае жыцьцё мацеры і 3) хваравітай псыхікі, бязумоўна расшатанай, як самымі родамі, так і ў асабліваcьці звычайнымі у такіх умовах, абставінамі. ККК упаўне правільна зазначыла мясцом на мэтазгоднасьць ужываньня больш мяккіх мер сацыяльнай абароны ў адносінах мацярэй, якія ўчынілі забойства сваіх нованароджаных дзяцей пры наяўнасьці вышэй пералічаных ўмоў.

Ліст зьяўляецца ў паўне аўтарытэтным і думкі, выкладзеныя ў ім гэтак-жа правільнымі. Аднак, у юрыдычнай літаратуры паступілі пярэчаньні, якія гучаць натта трывожна і прадасьцярагаюча ад розных небясьпек, якія могуць ўзнікнуць пры зьніжэньні рэпрэсіі за дзетагубства. Усе гэтыя трывогі і небясьпекі зьяуляюцца зусім ня грунтоўнымі. Дзетагубства ня толькі павінна быць выведзена з пад дзеяньня арт. 142 КК, але яго нават трэба было-б аднесьці да забойстваў прывілейных.

І з пункту гледжаньня паталёгіі із пункту гледжаньня марксыскай думкі павышаная рэпрэсія за дзетагубства зьяўляецца зусім не мэтазгоднай. Праўда, марксыская думка, як зазначае праф. Шырвіндт, адмаўляе існаваньне тыповых антрапалёгічных або анатомабіолёгічных асаблівасьцяй злачынца, угледжваючы галоўную прычыну злачынства ў сацыяльна-эканамічных умовах даных абставін, аднак, яна ўсё-ж аддае належную ўвагу паталёгічным зьменам у чалавека, каторыя могуць ўзьнікнуць на грунце цяжкіх душэўных перажываньняў, у ўмовах цяжкага маральнага і матар'яльнага абкружэньня і каторыя, у сілу гэтага, павінны паслужыць зьмякчаючай акалічнасьцю пры вызначэньні меры сацыяльнай абароны. Такім чынам і біолёгічны фактар злачынства неадмаўляецца марксыскай тэорыяй права. А хіба саматычны стан рожаніцы, аслажнёны вядомым растройствам псыхікі ня можа быць назван зьявішчам паталёгічным, упаўне выключаючым дапасаваньне да яго суровай рэпрэсіі за ўчыненае дзетагубства? Але не ў паталёгічным стане маткі-забойцы ляжыць падстава для зьніжэньня пакараемасьці, а голоўным чынам, усё ў тым-жа сацыяльна-эканамічным напрамку, каторы можа быць назван не праложным і ортадаксальным.

У Практыцы сьледчай работы мне прышлося стыкнуцца са множаствам выпадкаў забойстваў мацерамі нованароджаных дзяцей. дзе злачынства выклікалася і дыктавалася як раз тымі матывамі, якія паказаны ў лісьце ККК, г. зн. цяжкімі матар'яльнымі ўмовамі, фальшывым сорамам, іншы раз такім маральным станам, які даходзіў да роспачу, давадзіў да самагубства. Аб гэтым сьведчаць выпадкі самагубства маладых дзяўчат, якія аказаліся пры ўскрыцьці цяжарнымі. Трэба падлічыць таксама і тую акалічнасьць, што маральны стан зацяжарняўшай дзяўчыны, аслажняўся яшчэ і перажываньнямі любоўнага характару: звычайнае ў такіх выпадках ахладжэньня ранейшага любоўніка, яго ўсякае ўвільваньне ад спатканьняў і аб'ясьненьняў, нарэшце, яго нахабніцкія заявы аб тым, што тут ён ня прычым і за другіх не адказвае, упіканьні, прычытаньні, абразы і зьдзекі збоку родных—бацькі або маткі (быў такі выпадак, калі аднэй зацяжараўшаў падсьледчы бацька загадаў, пайсьці ў рэчку і ўтапіцца)—усё гэта, разам узятае, няўмольна штурхалі да злачынства. У адну

злашчасную ноч, дзе небудзь за пуняй, у лазьні або ў нужніку адбываўся вялікі акт: нараджаўся маладзенец і тут-жа гінуў, кінутый ў клозэт або задушаны і закопаны ў зямлю. Так абстаіць справа ў беларускай вёсцы і ў горадзе.

Мне могуць пярэчыць, што ўсё гэта рамантызм, манілаўшчына, што ня трэба абагульняць, што ў кожным паасобным выпадку суд высьвятліць акалічнасьці забойства, што ўсе гэтыя маральныя і матар'яльныя ўмовы, саматычнае становішча і інш., могуць быць толькі повадам для дапасаваньня арт. 28 або 36 КК, але ніяк не павінны датыкацца санкцыі арт. 142 КК. Але ў такім выпадку, чаму-ж заканадаўца нават больш цяжкае і сур'ёзнае забойства—забойства з рэўнасьці—знайшоў магчымым аднесьці, пры ўмовах душэўнага хваляваньня злачынца, пад дзеяньне арт. 144; г. зн. паставіць гэта забойства, у вядомых выпадках, ў катэгорыю прывілейных?

Калі так абстаіць справа з забойствам з рэўнасьці, то ці не належала-б і дзетагубства таксама аднесьці да разраду прывелейных або хоць-бы прастых, некваліфікаваных, забойстваў. Пытаньне ня ідзе не аб дапасаваньні арт. 28 К. К. або ўмоўнага асуджэньня, не аб кампрамісах, не аб праяўленьні гуманных пачуцьцяў або вялікадушша,—пытаньне ідзе аб сацыяльнай неабходнасьці, аб аглашэньні зьніжанай рэпрэсіі за дзетагубства *па прынцыпу,* які выцякае з даных усіх пазытыўных дысцыплін, маючых адносін да навукі крымінальнага права. У самай рэчы, выходзячы з прынцыпу алемэнтарнай мэтазгоднасьці, хіба можна ставіць на адну даску детагубства і пазбаўленьне жыцьця, учыненае па матывах карысьці або па іншых нізкіх пабуджэньнях: атручэньне, прадацельнае забойства і з-за вугла, забойства зьвязанае з падпалам, учыненае зьверскім і пакутным спосабам?

Цеперашняе становішча рэчаў—кваліфікацыя дзетагубства і практычнае прыстасаваньне мяккіх мер сацыяльнай абароны ў адносінах мацярэй-дзетагубцаў, зьяўляецца ненармальным, уступаючым у канфлікт з эмоцыяльным адчуваньнем справядлівасьці і нават дэмаралізуючым крымінальнае правасудзьдзе. Мяшчанскі элемэнт грамады, абыватэль, кулак, несьвядомая частка працоўных адносяцца да такіх прыгавораў іранічна, з крывой усьмешкай, якая сьведчыць аб пахістаным паважаньні да закону. Усюды чуюцца такія выразы: „далі 8 год, але, *прыймаючы пад увагу*—і вышла толькі год" і прыгэтым рогат. Адсюль самі сабою напрашваюцца належныя шляхі крымінальнай палітыкі ў адносінах рэпрэсіі за дзетагубства.

*А. Скабалан.*

---

## НЕАБХОДНЫЯ ЗЬМЕНЫ АРТ. 71 ГРАМАДЗЯНСКАГА КОДЭКСУ.

Згодна арт. 71 Грамадзянскага Кодэксу БССР у рэдакцыі пастановы ЦВК і СНК БССР ад 21 жніўня 1925 г., права забудоўкі на зямельныя вучасткі можа пашырацца на наступныя тэрміны для каменных будынкаў — да 60 гадоў і іншых дамоў—да 40 гадоў.

Зразумела, што ні ў воднага з забудоўшчыкаў, як дзяржаўных і кааперацыйных, так і прыватных асоб маецца недахоп уласных сродкаў для пабудовы будынкаў, а па гэтаму ўсе забудоўшчыкі павінны атрымліваць пазыкі ў банкаўскіх установах.

Таксама ўпаўне зразумела, што выдаючы пазыкі пад заклад права забудоўкі, як аднаго з відаў рэчавага права, банкаўскія ўстановы прад'яўляюць да забудоўшчыкаў патрабаваньні і да гэтага ўпаў-

не грунтоўныя, аб тым, каб тэрміны дзейнасьці дагавароў па выдаваемых пазыках заканчваліся на 5 гадоў раней сканчэньня тэрміну права забудоўкі, з той прычыны, што пасьля гэтага тэрміну ў сувязі з тым, што будынкі павінны перайсьці ў уласнасьць органаў Камунальнай Гаспадаркі, забудоўшчык становіцца менш крэдытаздольным, у сувязі з чым інтарэсы банкаўскіх устаноў, як крэдытараў могуць у гэтым выпадку пастрадаць.

Па моцы арт. 23 пастановы ЦВК і СНК СССР ад 15 чэрвеня 27 года аб мерах дапамогі будаўніцтву рабочых памяшканьняў (З. З. СССР —27 г. № 36 арт. 362) пазыкі для рабочага будаўніцтва, у прыватнасьці рабочым жыльлёва-каапэрацыйным таварыствам, выдаюцца на тэрміны: ад 30 до 40 гад. на драўляныя будынкі, ад 50 до 60 для каменных будынкаў і ад 40 да 55 гадоў для мешаных будынкаў.

Супастаўляючы арт. 71 Грамадз. Код. у паказанай рэдакцыі з арт. 23 Палажэньня аб мерах дапамогі будаўніцтву рабочых памяшканьняў неабходна прыйсьці да заключэньня, што існуючы тэрміны аб прадстаўленьні зямельных вучасткаў пад забудоўку не здавальняюць патрабаваньня жыцьця, а па гэтаму згодна арт. 8 уведзанага закону Палажэньня ад 15 чэрвеня 1927 г. падлягае зьмяненьню і ўдліненьню.

У мэтах разьвіцьця будаўніцтва неабходна ўстанавіць наступныя тэрміны прадстаўленьня зямельных вучасткаў пад забудоўку: для драўляных будынкаў да 50 гад., для мешаных да 65 гад. і для каменных 70 гад.

Вось ў якім становішчы павінен быць зьмянён арт. 71 Грамадзянскага Кодэксу БССР.

Устанаўленьнем гэтых тэрмінаў і даўшы гэтакому закону зваротную моц, для забудоўшчыкаў будуючых рабочыя памяшканьні будзе дасягнута вялікая палёгка ў адносінах адыманьня доўгатэрміновых пазык, што ў сваю чаргу шмат аблягчыць выплату паёў у пагашэньні каштоўнасьці кватэр у тых арганізацыях, дзе гэта павінна рабіцца.

**І. Еселяў.**

## УЗОРНЫЯ БАКІ Ў ПРАЦЫ СЕЛЬСАВЕТАЎ І ЧЫМ ЦІКАВІЦЦА СЯЛЯНСТВА.

*(З блёкноту вуч. пам. пракурора).*

За 10 год існаваньня Савецкай улады селянін навучыўся таму, каб бачыць законнае выкананьне ўсяго, што яму належыць, няхай нават будзе гэта ў яго карысьць, а калі гэта законна, ён нарэшце ўспакайваецца і згаджаецца склаўшымся становішчам, і другое, селянін хоча бачыць прадстаўніка Савецкай Улады на галаву стаячага вышэй яго, адказваючага на яго ўсе запатрабаваньні, даючага дакладныя канкрэтна-законныя адказы.

Адначасова з гэтым старая прывычка не пакінула селяніна пайсьці да „валаснога старшыні“ і назад ідучы паскарадзіцца „валасному сторажу“.

І ў сучасны момант бывае,—селянін пачынае з адным пытаньнем ад сельсавета і ідзе аж да ЦВК СССР правяраючы правільнасьць адказу.

Таксама ёсьць цэлы шэраг так званых суцяжнікаў, якія адначасова падаюць заявы ў ЦВК, АВК, Акрпракурору і РВК і ўсюды разьбіраюць гэтыя заявы і нарэшце яны ўсе пападаюць ў РВК—выклікаюць лішнюю перапіску, валакіту, а селянін думае, што ад гэтага справа ўскараецца, аж тут выходзіць наадварот.

Для таго, каб ухіліцца ад лішняй валакіты, неабходна, галоўным, чынам зьвярнуць ўвагу на паляпшэньне працы сельсаветаў, бо грамадзяне здаволены адказам з боку сельсаветў, правяраўшы яго ў вышэйстаячых установах адзін два разы, нарэшце даяварацца адказу сельсавету.

Але, каб сельсавет мог даць правільны адказ—неабходна ведаць закон па таму ці іншаму пытаньню. Між тым, у сельсаветах атрымалі заёмныя імі бюлетэні СНК БССР і Збор Законаў і Загадаў ураду БССР, ляжаць часта не разрэзанымі, а іншы раз разрэзаныя, але ніхто ня чытае. А выносяць сельсаветы пастановы, дык сьмяецца і сьлёзы самі цякуць, калі іх чытаеш. Напрыклад:

*Аршанскі раён*: слухалі—аб пачынцы мастоў і пастанавілі: „выйсьці ўсім, як адзін, а хто ня выйдзе штраф 1 рубель“.

Слухалі: аб няяўцы на сходы сялян.

Пастанавілі: „за няяўку штраф 1 рубель“.

У адным сельсавеце спакойна на полцы ляжыць Зборнік Кодэксаў, а сельсавет пры вучоце аб‘ектаў абкладаньня бярэ падпіску ад сялян з папярэджаньнем па 193, 200 арт. арт. Крым. Код.—калі-ж я ім заявіў, што ня гэтыя артыкулы караюць за ложныя паказаньні, зтрымаў ад сельсаветчыкаў адказ: „а мы пісалі, чым большы артыкул, дык страшней“. А кодэкс спакойна прадаўжае ляжаць на полцы.

*Багушэўскі раён:* сельсавет слухае даклад школы, выносіць пастанову, „ячэйцы ЛКСМБ узмацніць працу піянэратрадаў“, што зьяўляецца яўнай недарэчнасьцью.

—Гэта яшчэ лішні раз даказвае аб праўнай няпісьменнасьці сельсавету.

—Гэтыя сельсаветы знаходзяцца пад бокам у РВК—РВК адтрымоўвае копіі іх пратаколаў і па іх маўчыць, значыцца, ён не рэагіруе.

Селянства, галоўным чынам, цікавіцца пытаньнямі законнасьці. Калі зробіш даклад аб рэвалюцыйнай законнасьці, дык ад пытаньняў не абярэшся.

Селянін патрабуе законнасьці і яшчэ раз законнасьці. Нізавым Савецкім органам трэба яе даць, ўперад яе самім добра вывучыўшы.

Роман.

---

## НЕАБХОДНА СПРАСЬЦІЦЬ ПАРАДАК СПАГНАНЬНЯ ПАЗЫК, ЯКІЯ ВЫДАЮЦЦА ПРАЦОЎНЫМІ КАСАМІ ЎЗАЕМАДАПАМОГІ.

Існуючы парадак членства сяброў прафсаюзаў у працоўных касах узаемадапамогі зьўляецца дабраахвотным. Каса нічога агульнага ня мае з адміністрацыяй таго прадпрыемства, пры которым яна дзейнічае і зьяўляецца самастойнай юрыдычнай асобай. Пагэтаму правільна паступае адміністрацыя, якая адмаўляецца ўтрымліваць запазычнасьць рабочым касам узаемадапамогі пры ўплаце заработнай платы, ды і закон забараняе вытвараць якія—небудзь утрыманьні з сум, якія прылічаюцца наняўшамуся ў відзе зарабатнай платы, за выключэньнем выпадкаў асобна паказаных ў законе. Рабочых-жа, каторыя па несьвядомасьці і ў сувязі з сьцяжкім матар‘яльным становішчам не зварочваюць сваечасова ўзятыя імі сумы, на жаль, надзвычайна многа, і гэтым самым яны падрываюць усю працу кас, дапамагаюць распыленьню сродкаў.

Нягледзячы на тое, што запазычнасьць паасобных сяброў кас нязначна, але ў агульнай складнасьці яна складае даволі буйную для дадзенай касы суму.

Амаль што кожная працоўная каса ўзаемадапамогі стыкаецца з пытаньнем як быць, калі той ці іншы сябра касы не зварочвае ўзятую ім пазыку на працягу году і больш часу. Звычайна праўленьне касы ў гэтакіх выпадках прыбягае да вывешваньня сьпісаў даўжнікоў на прадпрыемстве, агалошваюць іх празьвішчы на агульных сходах індывідуальныя выклікі, але ў асаблівасьці ў малаесьвядомых або меньш забясьпечаных сяброў саюза. Усе гэтыя спасобы не даюць магчымасьці спагнаць запазычнасьць і як надзвычайная мера—прыходзіцца зьвярнуцца ў судовыя органы.

Але тут пачынаецца валакіта і прытым валакіта па нашаму зусім не патрэбная, каторую необходна выжыць і чым хутчэй, тым лепш.

Парадак спагнаньня праз суд ня зусім та просты, вымагае затраты часу зусім непатрэбнага як для праўленьня касы, гэтак і судовых органоў. Час ад часу неплацежнікаў зьбіраецца вялікая колькасьць і для спагнаньня справы іх прыходзіцца аддаваць цэлымі пачкамі ў суд. Суд не заўсёды згаджаецца аб'яднаць гэтыя іскі ўадну справу і па кожнаму іску ў паасобку прыходзіцца пісаць ісковую заяву, прылучаць копію паўнамоцтва, бо ў большасьці выпадкаў яны прад'яўляюцца прадстаўнікам. Уся гэта праца і затрата паперы, абсалютна нічога ня значыць па параўнаньню з працай, якая робіцца судовымі органамі, заводзяцца справы па кожнаму іску ў паасобку выпісваюцца позвы, пратаколы судовага пасяджэньня, выносяцца рашэньні і інш. працы.

І тут узьнікаюць пытаньні: каму ўся гэта праца патрэбна? Ці магчыма яе спросьціць? На гэта мы адкажам, гэта праца нікому не патрэбна, і зьяўляецца зусім лішняй і яе можна спросьціць. Больш 50 проц. сяброў касы, атрымаўшы позвы суду, сплачваюць сваю запазычнасьць, не чакаючы дню разбору справы і прадстаўніку касы ўзаемадапамогі прыходзіцца толькі адмоўвіцца ад іску, а 30—40 проц. у суд не зьяўляюцца, астатнія-ж прызнаюць іскі правільнымі.

Адгэтуль ясна выцякае, што іскі ўзаемадапамогі па сутнасьці зьяўляюцца бяспрэчнымі і пагэтаму для іх неабходна ўжыць парадак спагнаньня праз судовыя загады, якія маюць моц выканальнага ліста і выдаюцца судом па месцу жыхарства адказчыка, калі з дню наступленьня тэрміну патрабаваньня не прайшло больш 2-х месяцаў.

Маючы на руках судовы загад, праўленьне касы ўзаемадапамогі ў любы момант, па свайму ўгледжаньню, будзе мець магчымасьць перадаць яго для спагнаньня судоваму спагнальніку або іншым ворганам, якія маюць права прыводзіць рашэньне суду ў выкананьне.

Гэтакі парадак спагнаньня зьяўляецца пажаданым, і чым хутчэй ён будзе праведзен у жыцьцё, тым лепш, і гэтым самым палегчыць працу кас узаемадапамогі бяз лішкавых затрат грошай і часу спаганяць выдаўшымі пазыкі і ўзмацніць свой бюджэт.

*С. Шляпінтох.*

# РАСТЛУМАЧЭНЬНЕ ПРАКУРАТУРЫ РЭСПУБЛІКІ.

**Па дапасаваньні законаў „аб перадачы ў распараджэньне камунаддзелу часткі жыльлёвай плошчы немуніцыпалізаваных будынкаў“.**

На запытаньні акруговых пракурораў Пракуратура Рэспублікі дала наступныя растлумачэньні па дапасаваньню закону I) 1/II-25 г. „аб перадачы ў распараджэньне камунаддзелу часткі жыльлёвай плошчы немуніцыпалізаваных будынкаў“ (З. З. 25 г. № 9, арт. 79).

I. Паводле таго, што ў увазе да арт. 1-га гэтага закону паказаныя памяшканьні, з якіх ня можа выдзяляцца плошча ў жыльлёвы фонд, гэтая плошча можа выдзяляцца з гасьцініц і заежых дамоў.

2. Артыкулам 1-м гэтага закону права вылучэньня з немуніцыпалізаваных будынкау жыльлёвай плошчы ў паказаных у законе процантах належыць мясцовым выканкомам, пры гэтым домакіраўніцтвы і дамаўласьнікі ня маюць права вылучаць канкрэтнаю плошчу па свайму погляду (арт. 2); у выпадках нязгоды дамакіраўніцтва, або дамаўласьніка на тую канкрэтную плошчу, якую выдзяляе камунаддзел, дамакіраўніцтва, або дамаўласьнік павінны падаць у суд, згодна ўвагі да арт. 2 (З. З. 26 г., № 21, арт. 79).

3. Калі ў занятаю камунаддзелам плошчу будзе ўселен па ордэру кватэрант, а потым судом будзе адменена вылучэньне ў жыльлёвы фонд гэтае плошчы, асоба, заняўшая гэту плошчу можа быць выселена толькі ў судовым парадку на падставе п. “е„ арт. 1-га закона 19/II-27 г. (З. З. 27 г., № 12, арт. 42), як з плошчы, не ўваходзячай ў камунальны фонд.

4. Камунаддзелы маюць права вылучаць ў камунальны фонд, як вольную плошчу, гэтак сама і занятаю жыхарамі, выдаўшы ім адпаведны ордэр на далейшае пражываньне, калі яны занялі гэту плошчу законна.

5. Дамаўласьнікі не павінны дапушчаць заняцьця перададзенай ў веданьне Камунаддзелу плошчы бяз ордэру, бо гэта супярэчыць арт. 3 закону, а таму, калі дамаўласьнік гэта дапусьціў і не паведаміў Камгас, Камгас мае права як выселіць незаконна заняўшых плошчу, а гэтак і патрабаваць перавучоту плошчы, гэта значыць вылучыць іншую адпавецную плошчу з гэтага дамаўладаньня.

6. Усякага роду лішкі ў вылучанай ў камунальны фонд плошчы могуць адбірацца камунаддзелам толькі ў парадку закона „аб прымусовым пацясьненьні ў дамох“ ад 15/IX-27 г. (Сав. Бел.—№ 216, З. З. 27 г., № 36, арт. 190).

7. Калі дамаўласьнік ня добра утрымоўвае тую плошчу, якая перададзена ў камунальны фонд, Камгас мае права як патрабаваць рэмонту, гэтак і перавучоту, г. з. вылучэньня ў фонд іншай адпаведнай плошчы. Спрэчкі па гэтаму пытаньню разьвязваюцца ў судовым парадку, згодна ўвагі да арт. 2-га.

---

**Аб праве пракуратуры падаваць пратэсты на муніцыпалізацыю, што адбылася да 1/1-26 году.**

На запытаньне акруговай пракуратуры, ці мае права пракуратура пасьля выданьня пастановы ЦВК і СНК „аб спыненьні разгляду хадайніцтваў аб дэмуніцыпалізацыі будоў“ (З. З. 27 г., № 1, арт. 4) уваходзіць ў разгляд законнасьці муніцыпалізацыі, адбыўшайся да 1-га студзеня 1926 году, Пракуратура Рэспублікі растлумачыла, што згодна паказанай пастановы ЦВК і СНК с 1/I-27 г. спыняецца разгляд у ЦВК і СНК хадайніцтваў грамадзян аб дэмуніцыпалізацыі будынкаў, якая адбылася да 1/I 1926 г. гэта значыць аб звароце ўласьнікам будынкаў законна муніцыпа-

лізаваных, калі-ж муніцыпалізацыя тых будынкаў адбылася з парушэньнем законаў (незаконная), паказаная пастанова ЦВК і СНК не адмяняе права органаў пракуратуры на падачу пратэстаў.

---

### Аб парадку ўвядзеньня мэтавага кватэрнага падатку на патрэбы будаўніцтва рабочых жылішч.

З прычыны таго, што ў некаторых акругах мэтавы кватэрны падатак на патрэбы будаўніцтва рабочых жылішч быў ўведзен прэзыдыумамі акрвыканаўкомаў, якімі былі вызначаны і разьмеры гэтага падатку для паасобных гарадоў, Пракуратура Рэспублікі растлумачыла, што гэты падатак, згодна пастановы ЦВК і СНК ад 4/VI-27 г. (З. З. 27 г., № 28, арт. 133) павінен уводзіцца горсаветамі, але на падставе пастаноў акруговых з'ездаў саветаў, або пленумаў акрвыканкомаў, якія даюць права горсаветам увесьці гэты падатак, гэткім чынам Прэзыдыумы акрвыканкомаў ня могуць самі ўводзіць гэтага падатку.

---

### Аб непашырэньні закону 19/II-27 г. аб высяленьні з кватэр на сельскія мясцовасьці.

На запытаньне Акруговае Пракуратуры Пракуратура Рэспублікі растлумачыла, што, як бачна з уваходнай часткі закону 19/II-27 г. аб высяленьні (З. З. 27 г., № 12, арт. 421), ён выдан для аб'яднаньня раней выданых пастаноў аб парадку высяленьня грамадзян з занятых імі памяшканьняў.

Першая частка гэтага закону зьяўляецца перапрацаванай пастановай ад 17/VIII-23 г. (З. З. 23 г., № 15—16, арт. 133) і па ўсяму ясэнсу датычыць гарадзкіх паселішчаў і выдана ў мэтах змаганьня і ўрэгуляваньня жыльлёвага крызісу, які адбываецца ў гарадзкіх паселішчах, а таму Пракуратура Рэспублікі ня бача падставы да пашырэньня гэтае часткі закону на сельскія мясцовасьці.

Што датычыць часткі закону аб высяленьні з чыгуначных памяшканьняў, дык яна зьмяшчае закон ад 17/IV-25 г. (З. З. 25 г., № 26, арт. 195) мае самастойнае значэньне.

---

### Аб дапасаваньні арт. 313 КПК

Адзін з сьледчых падняў пытаньне аб правільнасьці вызначэньня народнага суду, які перадае справу сьледчаму для складаньня пастановы аб адданьні абвінавачваемага суду па больш цяжкаму абвінавачваньню без папярэдняга вытварэньня, супроць арт. 313 КПК, дадатковага расьсьледваньня.

Не падлягае сумненьню, што ў тых выпадках, калі апрача меркаваньняў, у справе няма даных, якія абгрунтоўваюць зьмены абвінавачваньня на больш цяжкае вядзеньня дадатковага расьсьледваньня абавязкова і вызначэньне суду, супярэчачае ў гэтых адносінах патрабаваньням арт. 315, ня можа лічыцца правільным. Калі, аднак, у справе мюцца даныя як супроць, так і за зьмену абвінавачваньня, пытаньне зводзіцца да ўнутранага перакананьня суду. Тое, што па думцы сьледчага, зьяўляецца недаказным, суд можа прызнаць досыць даказаным, і непатрабуючым дадатковага расьсьледваньня.

---

## Практыка Асобае Калегіі Вышэйшага Кантролю па зямельных справах.

1. Віцебская акруговая зямельная камісія прасіла растлумачыць, ці спаганяецца, наогул, судовая мыта, а калі спаганяецца, дык з каго і ў якім разьмеры, па исках раённага выканаўчага камітэту аб скасаваньні дагавору на суму звыш 1000 руб. пры аддачы ў арэнду дзяржаўнае зямельнае маемасьці прыватнай асобе, калі дагавор гэты, як незасьведчаны натарыяльным парадкам, прызнан несапраўдным акруговаю зямельнаю камісіяй.

Разглядзеўшы гэтае пытаньне, Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю журналам сваім № 24 растлумачыла:

„Іск, які прад'яўляецца раённым выканаўчым камітэтам аб скасаваньні дагавору на аддачу ў арэнду дзяржаўнае зямельнае маемасьці, не аплачваецца судовою мытаю, згодна арт. 43 Гр. Пр. Код. і арт. 31 інструкцыі за 20 мая 1926 г. аб парадку спагнаньня судовых мытаў зямельнымі камісіямі. Калі ў гэтым іску пастановай зямельнай камісіі райвыканкому адмоўлена, а дагавор на фармальных падставах прызнан несапраўдным, дык па сутнасьці справа праіграна абедзьвюма старанамі. Дзеля таго, што судовая мыта зьяўляецца адплатай выдаткаў дзяржавы, артыкул-жа 31 інструкцыі звальняе ад ўзносу мыты ня справы, а толькі некаторыя катэгорыі ісцоў, дык на адказчыка, незвольненага ад выплаты судовае мыты, павінен быць ускладзены выплат яе ў парадку 10 арт. інструкцыі з прайгранай ім часткі іску, пры чым цана іску, вызначаецца ня сумаю арэнднай платы па несапраўднаму дагавору, а пры суджанай на карысьць істца сумай у выніку звароту старон у першапачатковае становішча з залікам выдатку адказчыка па здаволенай частцы яго аднароднага іску“.

2. У практыцы Менскае акруговае зямельнае камісіі ўзьнікла пытаньне, ці мае права дамагаспадар здаць зямлю ў арэнду ў тым выпадку, калі члены двара згаджаюцца на адачу зямлі ў арэнду за выключэньнем аднаго члена, які мае больш 70 гадоў і зьяўляецца непрацаздольным.

Па гэтаму пытаньню Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю дала ў журнале № 31 наступнае тлумачэньне:

„На здачу в арэнду зямлі, зьяўляючайся самым галаўным і аснаўным элемэнтам гаспадаркі, трэба глядзець як на часовую адмову ад непасрэднага карыстаньня зямлей, а таму дамагаспадар бяз ведама і згоды ўсіх поўнапраўных членаў двара ня можа здаць зямлю ў арэнду. Аднак, з гэтага нельга зрабіць вывад, што кожны член двара мае заўсёды права забараніць усім астатнім членам двара ў асобе гаспадара здаць землю ў арэнду.

У паказаным пытаньні, калі ўсе члены двара, за выключэньнем аднаго непрацаздольнага 70 гадовага старога жадаюць зямлю здаць у арэнду. Райвыканком па зямельнаму сталу пры рэгістрацыі арэнднага дагавору павінен высьвятліць, ці ёсьць дзеля здачы гэтай зямлі ў арэнду наяўнасьць умоў, прадугледжаных 27 арт. зям. код., ці здача зямлі зьяўляецца гаспадарча-мэтазгоднай, а таксама ці выклікаецца яна агульнымі інтарэсамі двара. Пры наяўнасьці паказаных акалічнасьцяў Райвыканком павінен зарэгістраваць арэндны дагавор.

Зразумела, што кожны член двара не пазабаўлены магчымасьці прад'явіць у зямельную камісію іск аб скасаваньні арэнднага дагавору.„

3. Полацкая акруговая камунальная гаспадарка прасіла рестлумачыць, якімі дакумантамі камунальная гаспадарка можа даказаць, што зямельны вучастак к 1 жніўня 1922 г. знаходзіўся ў распараджэньні Горсавету.

Разглядзеўшы гэтае пытаньне 10 лістападу 1927 г. Пленум Асобае Калегіі Вышэйшага Кантролю журналам сваім за № 32 растлумачыў:

„Гарсавет можа даказать нахаджэньне к 1 жніўня 1922 г. у яго распараджэньні зямельных вучасткаў усякімі дакумантамі, з якіх відаць, што да рэвалюцыі горад уладаў гэтымі вучасткамі на праве уласнасьці, пры чым пасьля рэвалюцыі яны не паступілі ў працоўнае карыстаньне сялян, а таксама дакумэнтамі, якія сьведчаць, што Гарсавет да 1 жніўня 1922 г. аддаваў гэтыя вучасткі ў арэнду, разьмяркоўваў іх сярод землякарыстацеляў-спаганяў з іх падаткі, рабіў на гэтых зему лях гарадзкое ўпарадкаваньне і г. д., прыватнасьці, такімі дакумэнтамі могуц быць: а) пляны і дакуманты дарэвалюцыйнага часу; б) арэндныя ўмовы, ордары пляны, абавязковыя пастановы і іншыя дакуманты, якія пацьвярджаюць, што вызначаныя вучасткі знаходзіліся ў заведваньні Гарсавету да 1-га жніўня 1922 г.“.

4. Бабруйская акруговая зямельная камісія прасіла растлумачыць, ці могуць прадаўжаць карыстацца зямлёй надзяляемыя грамадзяне, якія дапушчаны былі да карыстаньня райземкамісіяй на падставе ўвагі да арт. 204 Зям. Код.; калі пастанова Райземкамісіі адменена была акрземкамісіяй і справа зварочана дзеля перакладаньня праэкту.

Пленум Асобае Калегіі Вышэйшага Кантролю па гэтаму пытаньню ў тымжа журнале даў наступнае тлумачэньне:

„На падставе ўвагі да арт. 204 зям. код. раённая зямельная камісія магла дапусьціць папярэдняе выкананьне свайго рашэньня толькі па справе аб адабраньні лішкаў з карыстаньня буйнае гаспадаркі і разьмеркаваньні іх сярод патрабуючых зямлі грамадзян. Калі адабраньне гэтае зроблена было з карыстаньня паасобных гаспадарак з разьмеркаваньнем абрэзкаў зямлі пры чым раённая зямельная камісія дапусьціла па справе папярэдняе выкананьне, а акруговая зямельная камісія адмяніла земляўпарадчы праэкт і пастанову райземкамісій дзеля перакладаньня праэкту, дык грамадзяне, якія надзелены зямлёю з абрэзкаў буйнае гаспадаркі, маюць права стасоўна да арт. 17 Палажэньня аб Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю прадаўжаць карыстацца атрыманай зямлёй аж да зацьверджаньня акруговаю зямельнаю камісіяй зьмененага земляўпарадчага праэкту“.

5. У практыцы Асобае Калегіі Вышэйшага Кантролю і Полацкае акруговае зямельнае камісіі ўзьнікла наступнае пытаньне. Дзеяльнасьць сельскагаспадарчага калектыву, утворанага на вучастку дзяржаўнае зямельнае маемасьці, спынена

была па пастанове акруговага выканаўчага камітэту з прычыны безгаспадарчых адносін каляктыву да будынкаў і саду, пераходу ад грамадзянскага вырабу зямлі да асабовага і наогул, невыкананьня статуту. Пры ліквідацыі каляктыву апошні адмовіўся самахоць вярнуць зямлю, інвэнтар і будынкі зямельнаму органу, у якім парадку можа быць зроблена адабраньне інвэнтару і зямлі з карыстаньня членаў быўшага сельскагаспадарчага каляктыву і высяленьне іх з будынкаў, якія уваходзяць у склад дзяржаўнае зямельнае маемасьці. Каму падсудны таксама іскі аб высяленьні быўшых членаў сельскагаспадарчага каляктыву выключаных з яго складу, калі гэтыя іскі зьвязаны з спрэчкамі аб выплатах і стратах паміж каляктывам і яго быўшымі членамі, альбо з пытаньнем аб скасаваньні дагавору на дзяржаўную зямельную маемасьць.

Разглядзеўшы гэтае пытаньне ў тымжа пасяджэньні, Пленум Асобае Калегіі Вышэйшага Кантролю расглумачыў:

„Утвораны на вучастку дзяржаўнае зямельнае маемасьці сельскагаспадарчы каляктыў, дзеяльнасьць якога спынена была пастановай акруговага выканаўчага камітэту з прычыны непільнаваньня каляктывам свайго статуту, павінен з моманту ліквідацыі зьвярнуць у распараджэньне зямельных органаў зямлю на грунце ўвагі да арт. 105 зям. код., а таксама інвэнтар, будынкі і іншую маемасьць, атрыманыя ім па сьпісу. У выпадку невыкананьня гэтага абавязку членамі быўшага каляктыву, па іску зямельнага органу альбо прызначанай ім ліквідацыйнай камісіі ў судовым парадку абіраецца з карыстаньня быўшага каляктыву земля, будынкі і іншая дзяржаўная маемасьць, бо адміністрацыйны парадак высяленьня вызначан законам для такіх выпадкаў. Што ж тычыцца да падсуднасьці іску ўрадовай установы аб адабраньні дзяржаўнае зямельнае маемасьці і адначасна падаваемага іску аб інвэнтары і будынках, а таксама аб скасаваньні дагавору на дзяржаўную зямельную маемасьць, дык на грунце арт. 141 і пункту „а“ арт. 200 зям. кад. іск падсудзен у якасьці першае інстанцыі акруговай зямельнай камісіі. Яна-ж на падставе арт. 105 зям. код. разглядае спрэчкі паміж сельскагаспадарчым каляктывам і выключанымі з яго складу членамі аб высяленьні іх з буднкаў каляктыву, выплатах, стратах і ўсякіх узаемных падрахунках.

---

# АГЛЯД ВАЖНЕЙШЫХ АКТАЎ САВЕЦКАГА ЗАКАНАДАЎСТВА АПУБЛІКАВАНЫХ ЗА ЧАС ад 1/VIII да 1/IX 1927 г.

## *А. Пастановы ўраду СССР.*

### I. Крымінальнае права.

1) Пастанова ЦВК і СНК СССР за 10 жніўня 1927 г. **аб парадку адплаты шкоды ад растрат, прысваеньняў і расьцягаў маемасьці дзяржаўных установ і прадпрыемств, коопэрацыйных, прафэсыянальных і грамадзкіх організацый** („Изв. ЦИК“ № 197—30/VIII 1827 г.) выдана ў мэтах забесьпячэньня адплаты шкоды, якая робіцца расратамі. Сумы прысуджаных на адплату растрачанай маемасьці могуць спаганяцца з усёй маемасьці асуджанага апрача самых неабходных прадметаў хатняга ўжытку, працоўнай сельскай гаспадаркі і інш., якія пералічаны ў пастанове; найменьне і колькасьць прадметаў, з якіх ня можа рабіцца спагнаньне, устанаўляюцца заканадаўствам саюзных рэспублік. Спагнаньне можа робіцца таксама з агульнай маемасьці сялянскага двара, або з агульнай маемасьці супругаў, калі судом устаноўлена, што агульная маемасьць павялічылася дзякуючы злачынству, і спагнаньне з агульнай маемасьці можа рабіцца толькі тады, калі з моманту растраты да падняцьця крымінальнага прасьледваньня прайшло ня больш 2 год.

### II. Фінансы і крэдыт.

2) Пастанова ЦВК і СНК СССР за 6 жніўня 1927 г. **аб выпуску сэртыфікатаў дзяржаўных працоўных кас ашчаднасьці** („Изв. ЦИК“ № 182—11/VIII 27 г.) выдана дзеля таго, каб даць насяленьню найбольш выгадны спосаб памяшчэньня сваіх свабодных грашовых сродкаў. Сэртыфікаты выпускаюцца цаной у 5 і 10 рублёў, на агульную суму 30.000.000 руб., тэрмінам на 6 год—ад 15-VIII 1927 г. да 15-VIII 1933 г. па сэртыфікатах кожныя паўгодкі налічваюцца складаныя проценты такім чынам, што праз 6 год сэртыфікат набывае падвойную каштоўнасьць —10 і 20 руб. Сэртфікаты бесперашкодна аплачваюцца касамі ашчаднасьці і прыймюцца для залічэньнява ўкладаў.

3) Пастанова ЦВК і СНК СССР за 24 жніўня 1927 г. **аб выпуску дзяржаўнай унутранай пазыкі індустрыялізацыі народнай гаспадаркі СССР** („Изв. ЦИК“ № 194—26—VIII 27 г.) выдана ў мэтах павялічэньня сродкаў, якія зварочваюцца на капітальнае будаўніцтва. Сумы, якія выручаюцца ад рэалізацыі пазыкі, зварочваюцца на індустрыялізацыю народай гаспадаркі СССР. Пазыка выпускаецца на суму 200.000.000 р., у аблігацыях па 25 р. З гэтай сумы 25.000.000 назначаюцца на фінансаваньне будаўніцтва гідрастанцыі на раке Дняпрэ. Частка аблігацый выпускаецца з падзяленьнем кожнай аблігацыі на 5 часьцін па 5 руб. Пазыка выпускаецца на 10 год ад 1-X 1927 г. да 1-X 1937 г. Па аблігацыях налічваюцца 6 проц. гадавых. У пра-

цягу паказанага часу ўтвараюцца 38 тыражоў выйграшаў; у першыя 24 тыражы разыйгрываюцца па 23.300 выйгрышаў разьмерам ад 100 да 25.000 руб., на агульную суму 3.001.500 руб.; у 25—28 тыражы—па 18.350 выйграшоў на суму 2.401.500 р.; у 29-32 тыражы—па 13.250 выйграшаў на суму 1,801.500 р. і ў 33-38 тыражы—па 8.200 выйграшаў на суму 1.199.000 руб. Аблігацыя, на якую паў выйграш, пагашаецца и выключаецца з далейшых тыражоў выйграшаў. Апрача гэтага пазыка пагашаецца шляхам пяцёх тыражоў пагашэньня роўнымі часткамі; тыражы пагашэньня робяцца адзін раз на год пачынаючы з 1933 г. Аблігацыі, прыбытак ад іх і выйграшы вызваляюцца ад усіх падаткаў і збораў агульна-дзяржаўных і мясцовых.

4) Пастановай ЦВК і СНК СССР за 17 жніўня 1927 г. зацьверджаны **Правілы спагнаньня рэнты з гарадзкіх зямель** („Изв. ЦИК“ № 195—27/VIII—27 г.) Права ўстанаўляць спагнаньне рэнты з гарадзкіх зямель даеца мясцовым саветам. Рэнта спаганяецца з зямель забудованых і незабудованых, якімі карыстаюца ўстановы, прадпрыемствы, організацыі і асобы, калі за карыстаньне гэтымі землямі не спаганяецца арэндная плата на карысьць органаў камунальнай гаспадаркі. Для устанаўленьня ставак рэнты экономічныя нарады саюзных рэспублік падзяляюць гарадзкія пасяленьні па клясах на падставах, якія ўстанаўляюцца Саветам Народных Камісараў СССР. Паводле гэтых пастаноў стаўкі рэнты для кожнага гарадзкога пасяленьня вызначаюца мясцовымі саветамі. У пастанове азначан шэраг катэгорый зямель, якія вызваляюца ад спагнаньня рэнты.

5) Пастанова ЦВК і СНК СССР за 24 жніўня 1927 г. **аб самаабкладаньні насяленьня** („Изв. ЦИК“ № 197—30-VIII-27 г.) выдана на адмен пастановы ЦВК і СНК СССР за 29-VIII 1924 г. (З. З. 1924 г., №6, арт. 69). Самаабкладаньне, абавязковае для ўсіх грамадзяе данага сяленьня, можа ўстанаўляцца для здаволеньня мясцовых культурных і гаспадарчых патрэб, маючых грамадзкае значэньне. Пералік тых патрэб, на якія можа ўстанаўляцца самаабкладаньне, а таксама найбольшыя разьмеры апошняга ўстанаўляюцца законадаўствам саюзных рэспублік. Устанаўленьне самаабкладаньня для пакрыцьця выдаткаў на адміністрацыйныя патрэбы забараняецца. Самаабкладаньне дапускаецца толькі паводле пастановы агульнага сходу грамадзян данага сяленьня. Самаабкладаньне насяленьня на іншыя грамадзкія патрэбы, апроч вышэйпамянёных, дапускаецца толькі на падставе дабравольнай згоды грамадзян. Пастановы могуць прыймацца на сходах грамадзян пры гэтым для грамадзян, якія ня прыймалі ўдзелу ў сходзе, або галасавалі супроць пастановы ці ўстрымаліся ад галасаваньня, пастанова зьяўляецца не абавязковай.

## *Б. Пастановы Ўраду БССР.*

### I. Працоўнае права.

1) Паводле пастановы ЦВК і СНК за 25 жніўня 1927 г. **аб зьмене артыкулу 171 Кодэксу Законаў аб працы** („Савецк. Бел.“ № 196—31/VIII—27 г.) справы паступаюць у міравыя камэры па згодзе старон; справы, зьвязаныя з ажыцьцяўленьнем калектыўных дагавораў, прымаюцца міравою камэраю толькі пасьля таго, як яны былі разгледжаны, але ня вырашаны ў расцэначна-канфліктнай камісіі; ў міравой камэры справы рашаюцца па згодзе старон. У пасрэдніцкі суд справы перадаюцца па ўзаемнай згодзе старон, незалежна ад таго, разгледжаны ці не разгледжаны яны міравою камэраю. Пры канфліктах у дзяржаўных установах і прадпрыемствах органы Народнага Камісарыяту Працы па патрабаваньні аднэй з старон утвараюць для вырашэньня спрэчак пасрэдніцкія суды; у гэтых выпадках другая старона абавязкова павінна згадзіцца на пасрэдніцкі суд. Калі канфлікты пагражаюць бясьпечнасьці дзяржавы, пасрэдніцкі суд можа быць утвораны па асобнай пастанове ЦВК, СНК альбо Экономічнае Нарады пры СНК БССР.

### II. Зямельнае права.

2) Пастановай ЦВК і СНК за 2 ліпеня 1927 г. зацьверджана **Палажэньне аб Асобнай Калегіі Вышэйшага Кантролю па зямельных справах БССР** („Савецкая Беларусь“ № 178—9/VIII—1927 г.). Склад асобнае калегіі зацьвярджаецца Прэзыдыумам ЦВК: старшыня, намесьнік яго і 3 члены —па прапанове НКЗ і 2 члены—па прапанове НКЮ. Асобная калегія вырашае зямельныя спрэчкі паміж акругамі, разглядае ў касацыйным парадку і ў парадку нагляду скаргі на рашэньні акруговых зямельных камісій, вырашае хадайніцтвы аб пераглядзе ўвайшоўшых у законную сілу рашэньняў зямельных камісій, ажыцьцяўляе агульнае кіраваньне работаю зямельных камісій і рэвізуе і інструктуе апошнія. У пастанове выкладзены парадак дзейнасьці асобнай калегіі і выкананьня яе рашэньняў. У адпаведнасьці з новым парадкам зацьвярджэньня складу асобнае калегіі пастановай ЦВК і СНК за 2/VII 1927 г. зьмены арт. 202 Зямельнага Кодэксу („Сав. Бел.“ № 179—10/VIII 1927 г.).

### III. Народная асьвета.

3) Пастановай ЦВК і СНК за 2 ліпеня 1927 г. зацьверджана **Палажэньне аб дашкольных установах БССР** („Сав. Беларусь“ № 182—13/VIII 1927 г. Тыпамі дашкольных устаноў зьяўляецца дзіцячы дом, дзіцячы

сад, дзіцячы ачаг і дзіцячая пляцоўка. Апрача дзяржаўных дашкольных устаноў, дашкольныя ўстановы могуць адчыняцца мясцовымі саветамі, таварыствамі ўзаемадапамогі, коопэрацыйнымі, прафэсыянальнымі і інш. організацыямі за іх кошт. Усе дашкольныя ўстановы кіруюцца адпаведнымі органамі народнае асьветы; пляны, праграмы і мэтады працы дашкольных устаноў зацьвярджаюцца НКА. Службовы пэрсонал дашкольных устаноў складаецца з загадчыка, кіраўнікоў груп, доктара і тэхнічных працаўнікоў. На чале дашкольнай установы стаіць рада, у якую ўваходзяць загадчык, усе кіраўнікі груп, доктар, правадыр піянэрскага атраду, з якім зьвязана дашкольная ўстанова, дэлегаткі жаночага адзелу і па аднаму прадстаўніку ад тэхнічных супрацоўнікаў і бацькоў. Рада прымае і выключае дзяцей, зацьвярджае пляны працы з дзяцьмі, абмяркоўвае вынікі працы, пытаньні жыцьця і працы ўстановы і г. д. Кожнай дзяржаўнай дашкольнай установе даецца зямельная дзялянка. Пастанова падробна ўстанаўляе правы і абавязкі дашкольных устаноў, яе рады і службовых асоб, парадак назначэньня апошніх і асноўныя прынцыпы выхаваўчае працы.

4) Пастановай СНК за 2-га чэрвеня 1927 г. зацьверджаны **Статут Інстытуту Беларускае Культуры** („Савецкая Беларусь" № 191—25/VIII 1927 г.). Інбелкульт ёсьць вышэйшая дзяржаўная навуковая ўстанова БССР і знаходзіцца пры СНК. Ён мае ў сваім складзе два аддзелы—аддзел прыроды і гаспадаркі і аддзел гуманітарных навук, а таксама нацыянальныя сэктары—яўрэйскі і польскі; пры Інбелкульце існуе Цэнтральнае Бюро Краязнаўства. Інбелкульт мае права склікаць навуковыя зьезды і канфэрэнцыі, арганізоўваць экспэдыцыі, рабіць раскопкі, выдаваць прэміі і г. д. Інбелкульт складаецца з правадзейных членаў, членаўкарэспандэнтаў, навуковых супрацоўнікаў і пачэсных членаў. Агульнае кіраўніцтва дзейнасьцю Інбелкульту належыць Акадэмічнай Радзе на чале з Прэзыдыўмам Інбелкульту, які зьяўляецца яго выканаўчакіраўнічым органам і выбіраецца Акадэмічнай Радаю на 3 гады ў складзе прэзыдэнта, віцэ-прэзыдэнта, неадменнага сэкратара, старшынь аддзелаў і старшынь нацыянальных сэктараў. Для разгляду і вырашэньня спраў, зьвязаных з адміністрацыйна-гаспадарчым жыцьцём Інбелкульту існуе яго сэкратарыят.

## IV Адміністрацыйнае права.

5. Пастановай СНК за 15 чэрвеня 1927 г **аб адміністрацыйных обавязках домакіраўніцтваў** („Сав. Бел." № 192—26/VIII-27 г.) на домакіраўніцтвы (кіраўніцтвы жылішчных таварыстваў, загадчыкі дамоў, арандатары, дамаўласьнікі) ускладаецца шэраг адміністрацыйных абавязкаў: выдача розных пасьведчаньняў і даведак, прысутнасьць пры опісе і ацэнцы маемасьці, пры абшуканьнях і інш., вядзеньне кніг па прапісцы жыльцоў, дача міліцыі і фінансавым органам розных зьвестак і дапамога міліцыі па патрабаваньні, перадача жыльцам павестак, паведамленьняў, абкладных лістоў і г. д., паведамленьне органаў санітарнага нагляду аб заразьлівых хваробах і г. д.

## V Коопэрацыя.

6. Пастановы ЦВК і СНК за 2 ліпеня 1927 **аб коопэрацыйных саветах** („Савецкая Беларусь" № 177—6-VIII-27 г) выдана ў разьвіцьцё пастановы ЦВК і СНК СССР за 12-VII-1926 г. аб коопэрацыйных саветах (З. З. СССР 1926 г., № 46, арт. 337). У БССР могуць быць ўтвораны Цэнтральныя і акруговыя коопэрацыйныя саветы, і ў першы могуць уваходзіць рэспубліканскія цэнтры коопэрацыі ўсіх відаў, а ў акруговыя саветы—ніжэйшыя аб'яднаньні коопэрацыі ўсіх відаў. Статут Цэнтральнага коопэрацыйнага Савету зацьвярджаецца Саветам Народных Камісараў, а статуты акруговых саветаў—акруговымі выканаўчымі камітэтамі. Цэнтральны Коопэрацыйны Савет мае права ўнасіць у СНК проэкты законаў аб коопэрацыі. Сродкі коопэрацыйных Саветаў складаюцца з узносаў іх членаў паводле статутаў.

---

# Агляд важнейшых актаў савецкага заканадаўства апублікаваных за час ад 1-га верасьня да 1-га кастрычніка 1927 г.

*А. пастановы ўраду СССР.*

## І. Праца.

1. Пастановы ЦВК і СНК СССР за 7 верасьня 1927 г. **аб мерах забесьпячэньня правільнай выплаты заработнае платы рабочым, служачым і сялянам, занятым на работах у прыватных падрадчыкаў (дастаўнікаў), а таксама ўзносаў на соцыяльнае страхаваньне паказаных асоб** „Изв. Цик." № 219—24-IX-27 г.) выдана на адмену адпаведнай пастановы ЦВК і СНК СССР за 17-XII-26 г. (З. З. СССР 1926 г., № 77, арт. 624). Па зданых прыватным асобам і прыватным прадпрыемствам падрадах і дастаўках, заказчыкі ня маюць права рабіць ніякіх выплат, якія прылічаюцца кантрагэнтам па дагаворы, апроч першапачатковага авансу, да прадстаўленьня кантрагэнтамі довадаў аб зробленым імі поўным разра-

хунку за мінулы час з рабочымі, служачымі і сялянамі, занятымі ў іх па выкананьні дагавораў з заказчыкамі і аб выплаце за мінулы час узносаў на соцыяльнае страхаваньне памянёных асоб. Калі контрагент зьявіцца няспраўным у памянёных разрахунках з рабочымі, служачымі і сялянамі або ў выплаце за іх узносаў на сацыяльнае старахаваньне, то заказчык мае права выплаціць ім грошы за кошт кантрагента па бясспрэчных прэтэнзіях іх да апошняга, а таксама выплаціць задоўжанасьць па соцыяльным страхаваньні, зьвярнуўшы на ўсе гэтая прылічаючыяся контрагенту сумы і залог, які ўнесен ім на забесьпячэньне падраду або дастаўкі.

2) Паводле пастановы СНК СССР за 27 верасня 1927 г. **аб узмацнёных выхадовых дапамогах служачым дзяржаўных устаноў і прадпрыемств, якія звальняюцца дзеля рацыяналізацыі апарату** („Изв. Цик“ № 223—29/IX 27 г.) работнікам дзяржаўных устаноў і прадпрыемств, знаходзячыхся на агульна союзным, рэспубліканск. і мясцовым бюджэце і дзейнічаючых на аснове комерцыйнага (гаспадарчага) разрахунку, а таксама акцыянэрных таварystваў, с пераважным удзелам дзяржаўнага капіталу выдаецца ўзмацнёная ваходная дапамога у выпадку звальненьня памянёных работнікаў дзеля рацыяналізацыі апарату, г. зн. спрашчэньня структуры кіраўнічага апарату і скарачэньня штатаў на аснове палепшаньня сыстэмы і мэтадоў работы, а таксама ў выпадку звальненьня, якое прыводзіцца ў парадку пастановы СНК СССР за 30-VIII 27 г. аб скарачэньні адміністрацыйна-кіраўнічых выдаткаў па каштарысах на 1927-28 г. (Зб. зак. СССР 1927 г., №53, арт. 54). Правам на атрыманьне узмацнёнай выхадной дапамогі карыстаюцца работнікі, якія зводьнены не раней за 1 верасьня 1927 г.

Узмацнёная выхадная дапамога выдаецца ў Маскве, Харкаве і Ленінградзе ў разьмеры $1^{1}/_{2}$ месячнага заработку звальняемага, а ў іншых мясцовасьцях СССР—у разьмеры мясячнага заработку.

Гэтая пастанова не пашыраецца на часовых і сэзонных рабочых і служачых, а таксама на служачых вытворчых прадпрыемств, якія звальняюцца ў сувязі з звальненьнем рабочых у парадку мерапрыемств па палепшаньні тэхнікі і арганізацыі вытворчасьці.

## II. Народная Гаспадарка

3) Пастановай СНК СССР за 30 жніўня 1927 г. **аб скарачэньні адміністрацыйна — кіраўнічых выдаткаў па каштарысах на 1927 -1928 год** („Изв. Цик“ № 200—2/IX 27 г.) усе ведамствы і цэнтральныя ўстановы, якія знаходзяцца на агульна-саюзным бюджэце, а таксама дзяржаўныя органы агульнасаюзнага значэньня дзейнічаючыя на гаспадарчым разрахунку, і акцыянэрныя таварыствы з пераважным удзелам дзяржаўнага капіталу абавязаны зрабіць скарачэньні каштарысных назначэньняў на адміністрацыйна-кіраўнічыя выдаткі па каштарысах на 1927-28 год ня менш, як на 20 проц. па партўнаньні з выдаткамі на 1926-27 г. Зьніжэньне адміністрацыйна-кіраўнічых выдаткаў павінна рабіцца за кошт спрашчэньня структуры кіраўнічага апарату, скарачэньня штатаў, скарачэньня ліку камандыровак і г. д. Саветам народных Камісараў Саюзнах Рэспублік прапануецца выдаць аднародныя пастановы аб скарачэньні адміністрацыйна-кіраўнічых выдаткаў адпаведнымі ведамствамі і цэнтральнымі ўстановамі, а таксама дзяржаўнымі гаспадарчымі органамі і акцыянэрнымі таварыствамі саюзных рэспублік.

## III. Фінансы і крэдыт.

4) Пастановай Савету працы і Абароны за 2 верасьня 1927 г. **аб абавязковым акладным страхаваньні ў сельскіх мясцовасьцях на 1927-28 г. („Изв. ЦИК“ № 205-8-IX 27 г).** устанаўляецца: а) сельскае абавязковае акладное страхаваньне будынкаў ад агню паводле норм і тарыфаў, паказных у дадатку да пастановы, і б) абавязковае акладное страхаваньне расьлінных культур ад градабіцьця і хатняй жывёлы ад сьмерці ў тых мясцовасьцях, дзе зьездамі тсаветаў або пленумамі выканаўчых камітэтаў будуць вынесены адпаведныя пастановы, зацьверджаныя саветамі народных камісараў або краёвымі, губэрскімі і адпаведнымі ім выканаўчымі камітэтамі і там, дзе гэткія пастановы былі вынесены раней, яны захоўваюць сваю сілу. Экономічным нарадам даецца права падвышаць і зьніжаць нормы па ўсіх відах страхаваньня, паказаныя ў дадатку да пастановы, у межах да 20 проц. Парадак спагнаньня плацяжоў устанаўляецца заканадаўствам саюзных рэспублік. Поўнасьцю або часткова вызваляюцца ад унесеных акладных страхавых плацяжоў бяднейшыя гаспадаркі, сем'і чырвонаармейцаў, перасяленцы і дабравольныя пажарныя організацыі. Умэтах заахвочваньня агнятрывалага будаўніцтва, гаспадарскам, якія накрылі будынкі агнятрывалымі страхамі, даецца скідка ў разьмеры 50 проц.

5) Пастановай Саветаў Працы і Абароны за 2 верасьня 1927 г. **аб абавязковым акладным страхаваньні ў гарадох на 1927-1928 год.** „(Изв. ЦИК“ № 206—9-IX-27 г.) устанаўляецца: а) абавязковае акладное страхаваньне будынкаў ад агню ў гарадох і пасяленьнях гарадзкога тыпу і б) абавязковае акладное страхаваньне быдла і конёў ад сьмерці, а таксама расьлінных культур ад градабіцьця ў гарадох тых акруг і паветаў дзе гэтае страхаваньне будзе праводзіцца ў сельскіх мясцовасьцях, або ў тых гарадох, дзе гарадзкімі саветамі і адпаведнымі органамі будуць вынесены пастановы аб уведзеньні таго ці іншага віду страхаваньня, зацьверджаныя

саветамі народных камісараў, краёвымі, губэрскімі і іншымі адпаведнымі выканаўчымі камітэтамі. Нормы абавязковага акладнога страхаваньня будынкаў ад агню устанаўляюцца ў разьмеры 50 про. ацэнкі будынкаў (ад 500 да 2500 руб. для жылых будынкаў і ад 50 р. да 200 р. для няжылых). Экономічным нарадам даецца права зьніжаць нормы па абвязковым акладным страхаваньні ад агню ў гарадох да 25 проц. страхавой ацэнкі, а таксама падвышаць і зьніжаць нормы па іншых відах акладного страхаваньня, паказаны ў дадатку да гэтай пастановы. Бяднейшае насяленьне, сем'і чырвонаармейцаў і дабравольныя пажарныя організацыі поўнасьцю або часткова вызваляюцца ад узносаў страховых акладных плацяжоў.

6) Паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 18 мая 1927 г. **аб зьмяненьні запасных і рэзэрвных капіталаў юрыдычных асоб у дзяржаўныя і гарантаваныя урадам працэнтавыя паперы** („Изв. ЦИК“ № 207—10-IX 27 г.), Юрыдычныя асобы, абавязаныя публічнай справаздачнасьцю, павінны зьмяшчаць свае запасныя і рэзэрвныя капіталы ў дзяржаўныя або гарантаваныя ўрадам процэнтавыя паперы. Коопэрацыйныя організацыі і акцыянэрныя таварыствы з выключным удзелам коопэрацыйнага капіталу зьмяшчаюць свае запасныя і рэзэрвныя капіталы ў працэнтавыя паперы на 60 проц. сьпіс процантавых папер, у якi, павінны зьмяшчацца памянёныя капіталы, зацьвярджацца Саветам Працы і Абароны па прадстаўленьні Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў СССР. Калі юрыдычная асоба не зьмясьціць свайго запаснага капіталу ў процэнтавыя паперы, то адпаведная сума спаганяецца з яе фінансавымі органамі парадкам, устаноўленым для спагнаньня нядоімак падаткаў, з выданай юрыдычнай асобе на гэтую суму процантавых папер, а кіраўнікі дзяржаўных устаноў і прадпрыемств, якія не набылі процантавых папер, падлягаюць адказнасьці ў дысцыплінарным парадку.

## IV. Коопэрацыя.

7) Пастановай ЦВК і СНК СССР за 31 жніўня 1927 г. **аб мерах дапамогі разьвіцьцю ўкладнай опэрацыі ў крэдытна-коопэрацыйных таварыствах** („Изв. ЦИК“ № 201—3-IX-27 г.), з мэтаю заахвочваньня сялянства да ашчад у відзе ўкладаў у крэдытна-коопэрацыйныя таварыствы, апошнім даецца права накіроўваць сродкі паступіўшых укладаў на крэдытаваньне сялянскай гаспадаркі і ўстанаўляць разьмеры процантаў па ўкладах і па пазыках паводле мясцовых умоў. На ўкладчыкаў крэдытнакоопэрацыйных таварыстваў пашыраюцца льготы, якія дадзены ўкладчыкам дзяржаўных працоўных ашчадных кас. Укладчыкі могуць паказваць асоб, якім павінны быць выданы ўклады пасьля сьмерці ўкладчыкаў, незалежна ад таго, ці гэтыя асобы ўваходзяць у круг законных насьледнікаў. Крэдытна-коопэрацыйным таварыствам даецца права карыстацца марачнай сыстэмай для зьбіраньня дробных укладаў. Дзеля ўзмацненьня фінансавага становішча крэдытна- коопэрацыйных таварыстваў ім даюцца пазыкі з агульнадзяржаўных сродкаў, з сродкаў „сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту і з сродках мясцовых бюджэтаў.

## *Б. Пастанова Ураду БССР.*

## I. Праца.

1) Паводле пастановы ЦВК і СНК за 15 верасьня 1927 г. **аб аплаце звышмерных работ у дзяржаўных. грамадзкіх і коопэрацыйных установах і прадпрыемствах** („Сав. Белерусь“ № 220—28/IX 1927 г.) рабочыя і служачыя маюць права на атрыманьне платы за звышмерныя работы, якія вяліся імі па загадзе наймальніка, або з яго ведама, незалежна ад таго, ці быў наймальнікам атрыман адпаведны дазвол ад інспэкцыі працы. Асобы, якія атрымоўваюць заработную плату па тарыфе адказных работнікаў або пэрсанальныя аклады, а таксама тыя, для якіх ненармаваны рабочы дзень устаноўлены калектыўным дагаворам, права на атрыманьне платы за звышмерныя работы ня маюць. Забараняецца назначаць рабочым і служачым з нармаваным рабочым днём замест аплаты звышмернай работы падбаўку да асноўнага акладу заработнае платы; наймальнік, які парушае гэтае правіла, прыцягваецца да адказнасьці паводле арт. 132 Крымінальнага Кодэксу, а рабочы ці служачы, які атрымаў набаўку, мае права на розьніцу паміж гэтай набаўкай і належачай яму платай за звышмерную работу.

## II. Судабудаўніцтва.

2) Згодна пастановы ЦВК і СНК за 15 верасьня 1927 г. **аб зьмене арт. 16 палажэньня аб судабудаўніцтве БССР** („Сав. Беларусь“ № 217—24-IX 1927 г.) народныя судзьдзі выбіраюцца акруговымі выканаўчымі камітэтамі паводле колькасьці вучасткаў народнага суду ў акрузе, або гарадзкімі саветамі акруговых гарадоў, паводле колькасьці вучасткаў у горадзе з кандыдатаў, вылучаемых акруговымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі, гарадзкімі і сельскімі саветамі, або прадстаўляемых акруговымі судамі.

## III. Камунальная гаспадарка.

3) Пастанова СНК за 4 ліпеня 1927 г. **аб аплаце памяшканьняў, якія займаюцца ў муніцыпалізаваных дамох а таксама ў дамох, якія падпарадкаваны жылішчным таварыствам** („Савецкая Беларусь“ № 198—?/IX 1927 г.) выдана на скасаваньне пастановы СНК за 10-VI 1925 г. аб плаце за памяшканьн

якія займаюцца ў муніцыпалізаваных дамох (З. З. БССР 1925 г., № 28, арт. 255). Стаўкі арэнднай платы ў памянёных дамох, калі яны займаюцца пад канцэлярыі, культурна-асьветныя ўстановы і пад іншыя патрэбы негандлёвага і прамысловага характару, устанаўляюцца мясцовымі выканаўчымі камітэтамі і гарадзкімі саветамі на наступных падставах: з установ і прадпрыемств, якія знаходзяцца на дзяржаўным і мясцовым бюджэце, ў разьмеры кватэрнай таксы і з дзяржаўных установ і прадпрыемств, якія знаходзяцца на гаспадарчым разрахунку, а таксама з коопэрацыйных і іншых грамадзкіх арганізацый у разьмеры кватэрнай таксы з надбаўкай да яе ад 25 проц. да 100 проц. з прыватных установ і таварыстваў, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбыткаў, арэндная плата бярэцца ў разьмеры кватэрнай таксы, павялічанай ня менш як у 2 разы і ня больш як у 2½ разы; і з іншых установ, прадпрыемств і арганізацый—ня ніжэй кватэрнай платы, павялічанай у 2—2½ разы.

Для установ і прадпрыемств, якія займаюць цэлы будынак і па згодзе з домакіраўніцтвамі рамонтуюць і ўтрымоўваюць яго за свой кошт, устанаўляецца зьніжаная арэндная плата ў разьмерах, вызначаных у пастанове ( ад 1 р. 80 к. да 9 р 50 к за 1 кв. мэтр на год ). За памяшканьні якія займаюцца пад палацы працы, амбуляторыі, больніцы, санаторыі, школы і іншыя дзіцячыя ўстановы плата не бярэцца.

4) Пастанова ЦВК і СНК за 15 верасьня 1927 г. **аб прымусовым пацясьненьні ў дамох** („Сав. Бел." № 216—23/IX 27 г.) выдана ў разьвіцьцё арт. 175 Грамадзянскага Кодэксу БССР. Калі ў наймальніка жылога памяшканьня ў параўнаньні з устаноўленай нормаю жылое плошчы ёсьць лішні непраходны пакой, які ня зьвязан з іншымі занятымі ім пакоямі і мае асобны выхад на вуліцу беспасрэдна ці праз памяшканьне агульнага карыстаньня, то домакіраўніцтва мае права патрабаваць перадачы яму наймальнікам гэтага пакою. Калі ёсьць гаспадарча—тэхнічная магчымасьць скарыстаць лішнюю ў параўнаньні з устаноўленай нормаю жылую плошчу праз перабудаваньне праходнага пакою ў непраходны або праз перапляніроўку пакояў і кватэр, то домакіраўніцтва мае права патрабаваць, каб наймальнік даў яму магчымасьць зрабіць гэта перабудаваньне або перапляніроўку за кошт домакіураўніцтва з тым, каб апошняе магло атрымаць у сваё распараджэньне лішнюю плошчу. У дамох, на якія заключаны дагаворы аб праве забудоўкі, або забудоўкі, не дазваляецца ніякае прымусовае пацясьненьне.

*С. Рахманін.*

# ХРОНІКА

## ЗАКАНАДАЎЧАЯ ХРОНІКА.

На працягу апошніх месяцаў Народны Камісарыят Юстыцыі распрацаваў цэлы шэраг законапраэктаў па **грамадзянскаму праву і грамадзянскаму працэсу**; усе гэтыя законапраэкты прадстаўлены ў Камісію Заканадаўчых Праэктаў і частка з іх ужо разгледжана КЗП.

**1. Праэкт пастановы аб зьмене арт. арт. 297—299 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу БССР**, гэта значыцца аб пераглядзе ўступіўшых у законную сілу судовых рашэньняў у парадку нагляду.

Цяпер, на падставе арт. 297 ГПК БССР права вытрэбаваньня грамадзянскіх спраў у парадку нагляду прыналежыць толькі пракуратуры: Пракурору Рэспублікі і яго Памочніку пры Вярхоўным Судзе—па усіх справах, і акруговым пракурорам—спраў з адпаведнага акруговага суду ці народных судоў. Праэктуемая пастанова падае тое—ж права таксама Старшыне Вярхоўнага Суду і старшыням акруговых судоў.

Цяпер (арт. 298 ГПК БССР) для ўсіх грамадзянскіх праў устаноўлен адзін парадак разгляду па пратэстах пракуратуры: Грамдзянскай Касацыйнай Калэгіяй Вярхоўнага Суду, а пры нязгодзе Пракурора Рэспублікі з пастановай ГКК—Пленумам Вярхоўнага Суду. Згодна праэкту права разгляду спраў народных судоў, у тым ліку тых, якія разгледжваліся грамадзянскім касацыйным аддзяленьнем акруговага суду, прадастаўляецца пленуму адпаведнага акруговага суду.

Яшчэ адна зьмена—адмяняецца для Цэнтральнай Пракуратуры абмяжоўваньне (якое ўстаноўлена дзейнічаючым арт. 299 ГПК БССР) гадавым тэрмінам права ўзбуджаць справавядзеньне ў парадку нагляду.

II. Праэкт пастановы **аб зьмене артыкулаў 189, 243 і 244 і ўвагі да арт. 82 ГПК БССР.**

Цэнтральным пунктам гэтага праэкту зьяўляецца значнае, параўнальна з дзейнічаючым арт. 244, пашырэньне выпадкаў, калі дазваляецца ўжываць, судовыя загады. У пералік гэтых выпадкаў (арт 244) унесены ўсе, прадугледжаныя спэцыяльнымі законамі, як напрыклад, не-

каторыя законы Саюзу СССР і статуты крэдытных установ. Але акрамя таго дазваляецца таксама выдаваць судовыя загады:

а) па дакумэнтах, якія ўстанаўляюць пратэрміноўку ўмоўных выплат па індывідуальнаму таварнаму крэдыту, атрыманаму даўжнікамі ў спажывецкіх таварыствах і іх саюзах;

б) непакрытых авансаў, атрыманых супрацаўнікамі дзяржаўных установ, і прадпрыемстваў;

в) па абавязанасьцях, выданых касам узаемадапамогі прафэсыянальных саюзаў і грамадзкіх організацый, і

г) у іншых выпадках, калі гэтае прадугледжана спэцыяльнымі законамі. Гэтае апошняе дапаўненьне прапануецца таму, што вызначанае права часта надаецца розным паасобным установам на падставе іх статутаў, а для гэтага ня можна кожны раз адпаведна дапаўняць арт. 244.

III. Праэкт пастановы **аб зьмене арт. 316 ГПК БССР.**

Гэты артыкул дае пералік тых відаў маемасьці і іх колькасьці, на якія ня можна зварочваць спагнаньні. Праэкт значна зьмяняе гэты пералік для ўзгадненьня яго з пералікам, які даецца у арт. 17 палажэньня аб спагнаньні па даткаў (Зб. Зак. СССР 1925 г. № 70, арт 518). Арт. 316 дапаўняецца таксама ўвагай наступнага зьместу: „Пры спагнаньні прысуджаных крымінальным або грамадзянскім судом сум у выплату растрачанай, пакрадзенай або прысвоенай маемасьці дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў, каапэрацыйных, профэсыянальных і грамадзкіх організацый пазбаўляюцца ад спагнаньня тыя катэгорыі прадметаў і тэй-жа колькасьці, як і пры конфіскацыі па суду. Адначасна выдаецца і адпаведны пералік для спраў па канфіскацыі па суду.

VI. **Праэкт пастановы аб дапаўненьні арт. 43 ГПК наступным пунктам:**

„З цэнтральных саветаў прафэсыянальных саюзаў БССР і іншых саюзных рэспублік, а таксама яднаемых імі прафэсыянальных організацыі і Ўсесаюзнага Савету прафэсыянальных Саюсаў“. Такім чынам усе прафэсыянальныя організацыі абавязкова вызваляюцца пры заяўленьні імі іскаў, ад выплаты судовай пошліны і іншых збораў па справе.

## Аб арт. 28 ГПК БССР.

V. Артыкул 28 ГПК БССР дапаўняецца наступнай увагай: „Іскі з дагавораў куплі-продажу ў раздроб з растэрмінаваньнем плацяжу падаюцца прадаўцом да купца выключна па месцу пражываньня купца ў момант падачы іскаў.“ Гэтае норма ня новая—яна зьмяшчалася у арт. 6 асобнай пастановы за 26-XI 1923 г. аб куплі-продажу ў раздроб з растэрміноўкай плацяжу; цяпер гэты закон унесен у Грамадзянскі Кодэкс БССР (арт. арт. 208—214,) артыкул жа 6, як норма працэсуальнага характару, уносіцца ў ГПК.

VI. Зьмяняюцца таксама і дапаўняюца арт. арт. 21, 23, 46, 80, 46, 315, 328-336 ГПК БССР. Падрабязнае выкладаньне гэтых замен даецца ў гэтым нумары ў асобным артыкуле.

**ГК VII. Праэкт пастановы аб зьмене разьдзела Грамадзянскага Кодэксу БССР аб праве забудоўкі.** Увесь гэты раздзел перапрацованы, пры чым у яго ўнесены правілы агульнасаюзнага закону (Зб. Зак. Саюзу ССР 1927 г., № 2, арт. 14), аб тым, што будаўнічым коопэрацыйным таварыствам надаецца права атрымліваць, па іх жадаўньню, зямельныя вучасткі пад забудоўку, ня толькі на пэўны тэрмін на падставе дагавора аб забудоўцы, але і ў бястэрміновае карыстаньне; у гэтым апошнім выпадку пабудаваныя будаўнічымі таварыствамі дамы застаюцца за імі на праве ўласнасьці: Важнае дапаўненьне яшчэ гэта 4 артыкулы, якія падробна рэгулююць дабудоўку і адбудоўку (цяпэрашн. арт. 85), пры чым устанаўляецца, што жыхары тых дамоў, якія існавалі да часу заключэньня дагавора аб дабудоўцы і адбудоўцы, непазбаўляюцца ад праў, якія надаюцца ўвагай 2 да арт. 158 і ўвагай да арт. 168 ГК БССР, гэта значыцца такіх жыхароў нельга высяліць інакш, як на падставе спэцыяльнага закону аб высяленьні і яны плацяць за кватэру па стаўках.

**VI . Праэкт пастановы аб заахвочваньні жыльлёвага будаўніцтва,** у якім уласьнікам немуніцыпалізараных дамоў надаецца права дабудоўваць і перабудоўваць сваі дамы, а таксама будаваць на вучастку, абслугоўвачым яго дом, новыя дамы на праве ўласнасьці. Пры гэтым такім уласьнікам надаюцца такія-ж правы, як забудоўшчыкам на праве забудоўкі, ў адносінах да іх нанімальнікаў.

**IX. Праэкт пастановы аб правах забудоўшчыкаў на будынкі, якія пабудаваны імі ў пэрыяд з 7 лістопада 1927 г. да выданьня ГК БССР.** Гэтым законам разьвязваюцца тыя спрэчныя пытаньні, якія цяпер часта на гэтым грунце ўзьнікаюць на мясцох.

Х Палажэньне аб вэксалёх (Зб. Зак БССР 1922 № 14, арт. 180) дапаўняецца новым аддзелам **аб аднаўленьні праў па згубленых вэксалёх.** Гэтыя правілы (арт. арт. 34-41 зьяўляюцца разьвіцьцём тых агульных правілаў аб аднаўленьні праў па згублены). дакумэнтах на паказчыка (пазыўнае спраавядзеньне), якія зьмяшчаюцца ў арт-арт. 262-277 ГПК.

У тым жа законе зьмяняецца рэдакцыя арт. 12 палажэньня аб вэксалёх у тым сэнсе, што пратэст робіцца, **калі да 15 гадзін трэцяга пасьля тэрміну па вэксалю дню выплата ня будзе зроблена.**

XI. Праэкт пастановы аб дапаўненьні арт. 449 ГК БССР наступнай увагай:„ у выключаньне з правіла, выкладзенага ў гэтым артыкуле, ўстанова адказвае бязу-

моўна за цэласьць і захованасьць маемасьці, якая прынята падведаственымі яму ўрадавымі асобамі на захаваньне або ў якасьці застава, або для перадачы па назначэньню на падставе пастановы закону або па распараджэньню органаў улады?" Гэтым праэктам пажадана зьмяніць у пэўных выпадках правіла аб адказнасьці, выражанае ў арт. 449 ГК.

Народным Камісарыятам Юстыцыі быў яшчэ распрацаваны і прадстаўлены ў КЗП праэкт пастановы аб дапаўненьні Грамадзянскага Кодэксу асобнымі правіламі аб запрадажу будынкаў. Але КЗП пастанавіла цяпер гэтага закону ня ўводзіць.

У рэшцы, па ініцыятыве ВСНГ Грамадзянскі Кодэкс БССР дапаўняецца спэцыяльнымі правіламі (арт. 107-а- 107-р) **аб заставе тавараў, якія знаходзяцца ў звароце і перапрацоўцы.**

## Выпуск 2-х юрыдычных курсаў пры НКЮ БССР.

На днёх адбыўся выпуск слухачоў 2-х юрыдычных курсаў пры НКЮ БССР. Падводзячы вынікі работы курсаў неабходна адзначыць, што асноўная задача, пастаўленая партыяй і кіруючымі Савецкімі органамі перад курсамі—перападрыхтоўка судова-сьледчых работнікаў у поўнай меры ажыцьцяўлена.

Курсы выпусьцілі да 40 судова-сьледчых работнікаў з рабочых і сялян меўшых практычны стаж работы, атрымаўшы цяпер неабходныя тэоратычныя веды. Пры гэтым апрача чыста юрыдычных ведаў была зьвернута вялікая ўвага на паглыбленьне палітычнага разьвіцьця слухачоў, дзеля чаго на курсах прапрацоўваліся такія дысцыпліны, як гісторыя і задачы ЎсеКП(б) і Ленінізм.

Належная ўвага была ўдзелена і беларусазнаўству з тым, каб скончыўшыя курсы працаўнікі маглі свабодна весьці працу на беларускай мове і былі-б знаёмы з гісторыяй і культурай беларускай краіны.

Прасьледуючы асноўную мэту перападрыхтоўку судова-сьледчых працаўнікоў курсы не маглі адмовіцца ад другой сваёй задачы,—гэта дачы юрыдычных ведаў прадстаўнікам з рабочых і сялян—высоўваемых на судовую працу партыйнымі і прафэсыянальнымі організацыямі.

Гэту задачу можна лічыць таксама ажыцьцяўлёнай. У выніку гэтай працы ўсе выдвіжэнцы выкарыстаны на практычнай судовай працы і сярод іх з жанчыны—2 сялянкі і 1 работніца назначаны ўжо народнымі судзьдзямі. Выканана і трэцяя задача, пастаўленая перад курсамі—гэта дача юрыдычных ведаў паасобным працаўнікам Савецкіх устаноў, як напрыклад: ЦВК, СНК, Міліцыі і Крымінальнага Вышуку, каторым прыходзіцца ў сваёй штодзённай працы стыкацца з вырашэньнем пытаньняў юрыдычнага характару.

Робячы падлік усяму гэтаму неабходна прызнаць, што 2-я юрыдычныя курсы ў поўнай меры сябе апраўдалі і далі Савецкай Беларусі да 60 досыць кваліфікаваных і палітычна разьвітых чырвоных юрыстаў, якія здолеюць у сваёй працы праводзіць правільную і клясава вытрыманую лінію па ўмацаваньню рэвалюцыйнай законнасьці галоўным чынам у вёсцы.

Разам з тым гэтыя курсы яшчэ раз паказалі тую вялікую цягу да ведаў, каторая з кожным годам ўсё больш і больш захоплівае працоўныя масы СССР.

Пры цяжкіх матар'яльных умовах, адарваныя ад сямей курсанты, з поўнаю сьвядомасьцю аднасіліся да прахаджэньня курсавой праграмы, стараючыся атрымаць ад курсаў як мага болей. Усё гэта лішкавы раз падцьвярджае якімі гіганскімі крокамі ідзе наперад СССР, як расьце крок закрокам яго культура і набліжаецца час ажыцьцяўленьне сацыялізму.

## На беларускіх юрыдычных курсах.

Хутка пачынаюць сваю працу Беларусскія Юрыдычныя Курсы 3-яга скліканьня. Працуе прыёмная камісія. Да гэтага часу апошняй прынята на курсы 65 асоб, з якіх 49 працоўнікаў органаў Юстыцыі (галоўным чынам Нарсудзьдз. і Сэкратары нарсудоў) і 16 іншых асобі якія паступаюць па камандыроўках Партыйных і Савецкіх устаноў.

Выдзелены лектары, разьмяжованы паміж імі дысцыпліны, а таксама наогул выпрацован вучэбны плян.

Заняткі на курсах пачнуцца 2 студзеня і ў сучасны момант пачаўся зьезд курсантаў, якіх камандыруюць Акругі.

Пастановай Савету Юрыдычных курсаў, якая зацьверджана Калегіяй Наркамюсту Загадчыкам Курсаў назначан Ст. Інспэктар НКЮ т. Гінцбург і яго Памоцнікам т. Курачкін.

---

# З месц

## Пастанова Прэзыдыўму Аршанскага Акруговага Выканаўчага Камітэту

### аб рэвізіі Аршанскага Акругов. Суду.

Заслухаўшы даклад Старш. Інспэктара НКЮ БССР тав. Гінцбурга і садаклад члена Вярхоўнага Суду т. т. Шапіро, Штаера, Прэзыдыўм Акрвыканкому адзначае, што:

1) будучы арганізован з пачатку 1927 г. Акруговы Суд шляхам:

а) правядзеньня шэрага райённых нарад;

б) вытварэньне рэвізій большасьці вучасткаў нарсудоў і

в) заслухоўваньня дакладаў нарсудоў, натарыусаў, судовых выканаўцаў і Прэзыдыуму Калегіі Абаронцаў на Пленуме;

г) дачы ім кіруючых указаньняў;

д) правільнага рэгуляваньня судовай практыкай народных судоў.

У параўнальна невялікі пэрыяд часу стаў кіруючым цэнтрам арганізацыйнай і судовай працы у адносіне ўсёй сеткі судовых установ на тэрыторыі акругі.

2) Праца Акрсуду працякала ў плянавым парадку, які ў асноўнай частцы выканан.

3) Выстарчальная колькасьць выяздных сэсій, а таксама правядзеньне Акруговым Судом назначэньня касацыйных спраў непасрэдна Нарсудамі ўскорыла разгляд спраў і прыблізіла суд да насельніцтва.

4) Праробленa вялікая праца па праўнай асьвеце народных засядацеляў, шляхам арганізацыі, з гэтай мэтай каротка-тэрміновых курсаў, як у горадзе, так і ў раёнах.

5) Праводзімая Акруговым Судом палітыка, у адпаведнасьці з агульнымі ўмовамі становішча злачынасьці на тэрыторыі Аршанскай акругі—была правільнай, клясавая лінія па грамадзянскіх справах вытрыманай.

У мэтах адхіленьня назіраючыхся недахопаў у працы Акруговага суду лічыць неабходным:

1) Узмацніць агульна-палітычную працу ў частцы папулярызацыі права сярод працоўных, паколькі гэтая галіна працы да гэтага часу была квола разгорнута, скарыстоўвая для гэгай працы кампаніі па перавыбарах Саветаў, каапэрацыі, камітэтаў узаемадапамогі і г. д.

2) У адпаведнасьці з дырэктывамі Наркамюста і Вярхоўнага Суду прыняць меры да дасканальнага высьвятленьня клясавай прыналежнасьці і сацыяльнага стану падсудных, дасканальны вучот якіх да гэтага часу адсутнічаў.

3) У тэрмін да 1-га траўня 1928 году правесьці рэвізію ў тых вучастках народных судоў і судовых выканаўцаў, якія да гэтай пары Акрсудом ня равізаваліся.

4) На працягу 3-х месячнага тэрміну зрабіць іспыт нарсудзьдзям, якім да гэтага часу не рабіўся іспыт.

5) Пры разглядзе спраў у Распарадчым Пасяджэньні больш падрабязна знаёміцца з усімі матар'яламі па справе.

6) Павялічыць колькасьць прыватных вызначэньняў па грамадзянскіх справах.

7) Адхіліць усе адзначаныя ў акце рэвізіі недахопы, па якіх рэвізарамі дадзены адпаведныя паказаньні.

---

# У САЮЗНЫХ РЭСПУБЛІКАХ.

## Украінская ССР.

### Новы парадак разгляду зямельных спраў у УССР.

Набліжэньне зямельнага суду да насельніцтва, спрашчэньне і ўскарэньне разгляду зямельных спрэчак зьяўляецца першачарговымі пытаньнямі, якія стаяць на павесцы дню ў заканадаўчых органах саюзных рэспублік, у тым ліку і БССР. Дзеля гэтага лічым цікавым затрымацца на новым парадку разгляду зямельных спрэчак УССР, устаноўленым, пастановай усе УЦВК і СНК УССР аб зьмене і дапаўненьні зямельнага кодэксу УССР за 27 чэрвеня 1927 г. (З. З. УССР за 1927 г. № 40 –41).

Паводле паказанай пастанове для вырашэньня спрэчак па зямельных справах утвараюцца раённыя і акруговыя судова-зямельныя камісіі. Асобная Калегія Вышэйшага кантролю па зямельных спрэчках. Апрача таго, пэўны круг зямельных спрэчак вырашае Сельскі Савет, каторы і зьяўляецца ніжэшай ячэйкай зямельнага суду, самай блізкай да насельніцтва...

У сілу арт. 208 Зямельнага Кодэксу УССР у новай рэдакцыі сельскія саветы вырашаюць наступныя спрэчкі між паасобнымі дварамі і паасобнымі членамі сялянскага двара:

а) спрэчкі, якія ўзьнікаюць з працоўнага землякарыстаньня пасобных двароў;

б) спрэчкі, якія ўзьнікаюць з дагавароў аб працоўнай арэндзе зямлі;

в) спрэчкі, аб падзеле працоўных земляўладальніцкіх гаспадарак (двароў);

г) прэчкі аб разьмеры грашовай або натуральнай выплаты, прылічаючайся членам двара за частку іх маемасьці пры выхадзе з гаспадаркі, абвешчанага не драбімым;

д) спрэчкі аб аднаўленьні парушанага землякарыстаньня паасобных гаспадарак і

е) спрэчкі аб стратах пры ўзорваньні або псаваньні пасеваў і насаджэньняў.

Апрача таго, сельскі савет у выпадку нядбайнага вядзеньня гаспадаркі двара, вядучага да яе руйнаваньня, можа на заяве деяздольных членаў двара, зямельнайграмады, зямельнага органу або пракуратуры замяніць гаспадара двара другой асобай з складу таго ж двара.

З прыведзенага пераліку зямельных спрэчак, падсудных сельскаму савету, відаць, што компэтэнцыя апошняга ў галіне вырашэньня зямельных спрэчак досыць абшырна. Аднак не абходна мець на ўвазе, што прыведзены пералік зьяўляецца вычэрпаючым, і іншых, апрача зазначаных вышэй зямельных спрэчак, сельсавет ня мае права прыймаць да свайго вядзеньня.

Пастановы сельскіх саветаў аб аднаўленьні парушанага землякарыстаньня зьяуляюцца канчатковымі і не адкладна праводзяцца ў выкананьне. Па астатніх-жа зямальных спрэчках пастановы сельскіх саветаў могуць быць абскарджаны ў раённую зямельную камісію, каторая паказаныя скаргі разглядае ў касацыйна-рэвізійным парадку.

Вызначэньні раённых судова-зямельных камісій па скаргах на пастановы сельскіх саветаў канчатковы.

Раённая судова-зямельная камісія разглядае таксама спрэчкі аб земляўпарадкаваньні ў якасьці першай інстанцыі, у прыватнасьці:

а) спрэчкі аб праве на землякарыстаньне, калі ў іх хоць-бы адной з старон зьяўляецца аб'яднаньне землякарыстальнікаў (напрыклад, зямельнае таварыства, грамадзкая арганізацыя або дзяржаўная установа;

б) спрэчкі аб выдзеле зямлі з землякарыстаньня грамады;

в) спрэчкі аб ўзаемных памяркаваньнях і прэтэнзіях між выходзячымі з таварыства членамі і таварыствам;

г) спрэчкі, якія зьвязаны з агульным і прыватным перадзелам зямлі ў зямельных таварыствах з супольным парадкам землякарыстаньня;

д) спрэчкі, якія ўзьнікаюць з дагавору аб працоўнай арэндзе зямлі калі ў іх прымаюць удзел зямельныя таварыствы, або іншыя арганізацыі і г. д.

Акруговыя судова-зямельныя камісіі разглядаюць у якасьці другой інстанцыі ў касацыйна-рэвізійным парадку скаргі на рашэньні раённых судова зямельных камісій падаваемыя не пазьней двухтыднёвага тэрміну з дня абвяшчэньня рашэньня. Апрача таго, акруговыя судовазямельныя камісіі павінны рэвізаваць і інструктаваць раённыя судова-зямельныя камісіі, а таксама сельсаветы па разглядзе імі зямельных спрэчак.

Рашэньні раённых судова зямельвых камісій ня прыводзяцца ў выкананьне да зыходу тэрміну на абскарджваньне іх.

Рашэньні-ж раённых судова зямельных камісій аб аднаўленьні парушанага землякарыстаньня канчатковы, абскарджваньне іх не дапушчаецца, і яны падлягаюць не адкладнаму выкананьню.

На Асобную Калегію Вышэйшага Кантролю па зямельных справах ускладзена агульнае кіраўніцтва работаю судова-зямельных камісій і сельскіх саветаў па разглядзе апошнімі зямельных спрэчак шляхам устанаўленьня правільнага і аднастайнага дапасаваньня чынных законаў. Яна-ж разглядае ў парадку нагляду ўступіўшыя ў законную сілу рашэньні і вызначэньні судова зямельных камісій і пастановы сельскіх саветаў, вынесеныя апошнім па зямельных спрэчках, рэвізуе і інструктуе ўсе судова-зямельныя камісіі УССР, а таксама сельскія саветы ў адносінах разгляду апошнімі зямельных спрэчак.

Разгляд АКВК спраў у парадку нагляду дапушчаецца толькі ў тым выпадку, калі з часу ўступленьня рашэньня, вызначэньня або пастановы ў законную сілу прайшло ня больш аднаго году, пры чым Асобная камісія ў выпадку адмены ў парадку нагляду рашэньня, вызначэньня або пастановы можа перадаць справу на новы разгляд або зацьвердзіць адно з вынесеных раней па справе рашэньняў або вынесьці па справе новае рашэньне або вызначэньне.

Гэтакі ў агульных рысах новы парадак, устаноўлены для разгляду зямельных спрэчак у УССР.

**Д. Гарцман.**

### Крымінальна-працэсуальны Кодэкс БССР выд. 1927 году.

На днях выйшаў з друку Крымінальна-Працэсуальны Кодэкс БССР у выданьні Народнага Камісарыяту Юстыцыі. Кодэкс уключае ў сабе тэкст Кодэксу выданьня 1923 г. (Збор Зак. БССР 1923 г. № 4, арт. 41) з усімі зьменамі і дадаткамі, якія ўнесёны ў яго пастановамі заканадаўчых органаў БССР, адбыўшыміся па 10 лістапада 1927 г. уключна. Пры гэтым зьмены і дадаткі, якія ўнесены ў Кодэкс пастановай ЦВК і СНК БССР ад 10 лістапада 1927 г. выкліканы неабходнасьцю ўзгадненьня Кодэксу з агульна-саюзным заканадаўствам, у частковасьці з асновамі Крымінальнага Судаводзтва Саюзу ССР і саюзных рэспублік і Палажэньнем аб ваенных трыбуналах і ваеннай пракуратуры. У сувязі з тэй акалічнасьцю, што гэтымі заканадаўчымі актамі Саюзу ССР органы ваеннай юстыцыі зусім выключаны з компэтэнцыі агульных судовых устаноў саюзных рэспублік, пастанова ЦВК і СНК БССР за 10 лістапада выключыла з кодэксу ўсё, што адносілася да органаў ваеннай юстыцыі, уключыўшы ў арт. 1 Кодэксу толькі агульнае паказаньне аб тым, што парадак вядзеньня крымінальных спраў ў ваенных трыбуналах, якія дзейнічаюць на тэрыторыі БССР, і граніцы дапасаваньня ваеннымі трыбуналамі, ваеннымі сьледчымі і ваеннай пракуратурай норм Кодэксу вызначаюцца агульна-саюзным заканадаўствам, у частковасьці Палажэньнем аб ваенных трыбуналах.

Усьлед за тэкстам Кодэксу зьмешчана Палажэньне аб ваенных трыбуналах і ваеннай пракуратуры (дадатак да арт. 1 КПК). Палажэньне аб дыплёматычных і консульскіх прадстаўніцтвах чужаземных дзяржаў на тэрыторыі Саюзу ССР (дадатак да арт. 178 КПК) і паказьнік артыкулаў Кодэксу зьменных, дапоўненых або выключаных пастановамі заканадаўчых органаў БССР у параўнаньні з Кодэксам выд. 1923 г., з абазначэньнем адпаведных пастаноў гэтых органаў і тых афіцыйных выданьняў, дзе гэтыя пастановы апублікаваны.

---

## АДКАЗ НА ЗАПЫТАНЬНІ.

**Запытаньне.**

Ці мае права раённы выканаўчы камітэт, здаўшы падпарадкаванае, яму прадпрыемства у арэнду; яшчэ да сканчэньня тэрміну дагавору перазаключыць бяз таргоў дагавор з тым-жа самым арэндатарам на лепшых для райвыканкомах ўмовах.

**Адказ.**

Парадак здачы ў арэнду прадпрыемстваў, падпарадкаваных акруговым і раённым выканаўчым камітэтам прадуглежваецца пастановай СНК БССР за 10 мая 1926 г. (Зб. Зак. БССР 1926 г., № 20, арт. 74). Паказаная пастанова дазваляе

здаваць прадпрыемствы паказанага тыпу *толькі шляхам учыненьня публічных таргоў.*

Таму, з папярэднім арэндатарам бяз публічных таргоў былоб-б магчыма перазаключыць дагавор на карыстаньне прадпрыемствам толькі пры двох умовах: 1) каб умовы новага дагавору былі для выканкому больш карыснымі і 2) каб новыя ўмовы дзейнічалі толькі ў граніцах тэрміну папярэдняга дагавору. У іншых выпадках трэба здаваць прадпрыемства з таргоў.

**Запытаньне.**

Ці датычыць да пазычкі, выданай ільняным насеньнем, абежнік НКЮ № 37 ад 21 мая 1927 г. „аб парадку спагнаньня завінавачанасьці па нанесенных пазычках“ (Весьці НКЮ 1927 г. № 4—5) або ён мае на ўвазе толькі пазычкі хлебным насеньнем.

**Адказ.**

Вышэй паказаны абежнік НКЮ грунтуецца на правілах палажэньня аб дзяржаўна-грамадзкім насенным фондзе БССР (Зб. Зак. БССР 1926 г., № 45, арт. 168 ), якое палажэньне мае на ўвазе *ўсе насенныя пазычкі,* усёроўна, ці выдана пазычка хлебным насеньнем, або насеньнем масьлічным, як напрыклад, альняное насеньне.

**Запытаньне.**

1. Ці можна пры звароце спагнаньня алімэнтаў на заработную плату служачага, зусім пазбавіць ад спагнаньня, тую частку заработнай платы, каторая зьяўляецца мінімумам але па ліку ўсіх членаў сям'і, якія знаходзяцца на ўтрыманьні адказчыка, гэта зн., калі ў адказчыка тры ўтрыманца, дык пазбаўляюцца ад спагнаньня чатыры мінімумы (1—3)

**Адказ.**

На падставе п. а арт. 334 ГПК БССР (арт. 289 ГПК РСФСР) зусім аслабаняюцца ад спагнаньня, калі яно зварочана на заработную плату адказчыка, толькі частка заработнай платы, якая раўняецца мінімуму для аднэй асобы.

Што-ж датычыць да пытаньня аб тым, што акрамя алімэнтаў па суду адказчык павінен дапамагаць сваім утрыманцам, як—то жонцы, дзецям то гэтую акалічнасьць павінен прыняць пад увагу суд пры ўстанаўленьні разьмеру іску.

---

## Паштовая скрынка.

САРАКУ.—Ваш артыкул „необходимо изменить 394 ст. УПК“ зьмешчан ня будзе. Гэта пытаньне вырашана Калегіяй НКЮ ўнясеньнем зьмен у КПК.

КВЯТКОЎСКАМУ М.—Ваш арт. „Заметка аб спыненьні спраў на падставе арт. 2 ГПК“ выкладае тлумачэньне арт. 2 ГПК, каторае не знаходзіць сабе падставы ў тэксьце арт. 2 і супярэчыць устанавіўшайся практыцы.—Зьмешчан ня будзе.

КЕРЖАНЕВІЧУ.—Пытаньне, якое Вамі зачэплена ў артыкуле “Назревший вопрос, требующий неотложного разрешения“, вырашана Калегіяй НКЮ аб адміністрацыйным высяленьні з жактаў, а дзеля гэтага немэтазгодна зьмяшчаць яго.

МАРГОЛІНУ Н.—Зачэпленае Вамі пытаньне ў арт. „О 26 ст. Земельного Кодекса“ знайшло вычэрпываючае вырашэньне ў апошніх партыйных пастановах па гэтаму пытаньню.

*Рэдакцыйная Калегія.*

## Ад рэдакцыі:

У хуткім часе выйдзе 3-ці нумар часопісі. Усе таварышы, якія жадаюць мець нашу часопісь і жадаюць сваечасова яе атрымаць, павінны патарапіцца прыслаць падпіску. Умовы падпіскі паказаны ў абвесцы на вокладцы гэтага нумару.

Таксама рэдкалегія зьвяртаецца з просьбай да мясцовых таварышоў, якія працуюць у галіне права, дасылаць нам матар'ялы—артыкулы і заметкі з практыкі сваёй працы, якія будуць зьмяшчацца на старонках нашай часопісі.

---

Адказны рэдактар: Рэдакцыйная Калегия.

# Афіцыйная частка.

## Абежнікі Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### аб парадку накіраваньня рэчавых доказаў і іх далейшым лёсе.

*Усім акрпракурорам і акрсудам.*

З прагляду актаў абсьледаваньняў сьледчых вучэсткаў акруговымі пракурорамі, Пракуратурай Рэспублікі заўважана, што ў некаторых камэрах сьледчых маюцца рэчавыя доказы па справах, якія даўно ўжо накіраваны па падсуднасьці ў належныя суды, але аб далейшым лёсе гэтых рэчавых доказаў сьледчаму невядома.

У выніку гэтага рэчавыя доказы дарэмна застаюцца ў камэрах сьледчых і трацяць сваю першапачатковую каштоўнасьць.

Дзеля зьнішчэньня гэтых ненармальнасьцяй у будучым НКЮ прапануе:

**Акрпракурорам:**

1) пры накіраваньні спраў у суд, па якіх ёсьць рэчавыя доказы, пажадана каб адначасова са справай накіроўваліся б і рэчавыя доказы асабліва, калі справа па сваёй падсуднасьці падлягае разгляду ў бліжэйшых ад камэры сьледчага, альбо пракурора—судох;

2) рэчавыя доказы, якія па сваёй грамоздкасьці ня могуць быць пераданы адначасова са справай, павінны заставацца ў камэры сьледчага, альбо пракурора да моманту разгляду справы судом і канчатковага вырашэньня пытаньня аб далейшым лёсе рэчавых доказаў;

3) Акрпракурорам паклапаціцца і зрабіць належнае распараджэньне вучастковым пам. Пракурорам і сьледчым, каб яны ўдалейшым па накіраваных справах у суд, па якіх лічацца рэчавыя доказы, пэрыядычна запытвалі-б адпаведны суд аб лёсе рэчавых доказаў.

**Акрсудам:**

4) пры разглядзе спраў, паступіўшых альбо з абвінавальным заключэньнем, альбо з пастановай аб спыненьні, суд выносячы прысуд, павінен абавязкова ў ім указваць аб лёсе рэчавых доказаў.

Копіі прысудаў па справах, па якіх лічацца рэчавыя доказы, суд павінен накіроўваць па месцу знахаджэньня рэчавых доказаў.

Акрпракуроры і следчыя, у камэры якіх знаходзяцца рэчавыя доказы, па перадачы рэчавых доказаў па прысудах, павінны высылаць у адпаведныя суды квіткі альбо расьпіскі па переданых рэчавых доказах, пакідаючы ў сябе копіі іх.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор
Рэспублікі БССР *М. Сэгаль.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *С. Эднарал.*

Пам. Пракурора Рэспублікі *Кіпарысаў.*

22 лістапада 1927 г.
№ 101.

Выдана на падставе пастановы Прэзыдыуму ЦВК БССР за 10 лістапада 1927 г. (пратакол № 22, п. 211).

## Інструкція Народных Камісарыятаў Юстыцыі, Унутраных Спраў і Земляробства БССР.

### аб парадку ўжываньня арт. 7 пастановы ЦВК і СНК БССР аб льготах і складаньні нядоімак, штрафаў і пені па падатках і рэнце з незаможных пластоў насельніцтва.

1. Льгота, якая прадугледжана ў арт. 7 пастановы ЦВК і СНК БССР за 10-е лістапада 1927 г. аб льготах і складаньні нядоімак, штрафаў і пені па падатках і рэнце з незаможных пластоў насельніцтва, пашыраецца толькі на тых сялян, якія ў 1927—1928 акладным годзе зволены ад уплаты адзінага сельска-гаспадарчага падатку.

2. З паказаных у арт. 1 гэтае інструкцыі з сялян спаганяецца толькі карнявая каштоўнасьць самавольна пасечаных імі да 7 лістапада 1927 г. дрэў, якая вылічваецца паводле таксы на продаж лясных матар'ялаў з лясных дач, зацьверджанай Эканомнарадай БССР.

3. Паказаная ў арт. 2 гэтае інструкцыі карнявая каштоўнасьць спаганяецца ў тым выпадку, калі самавольна пасечаны лес застаўся нявыкрытым, у выпадку-ж выкрыцьця гэтага лесу ён сэквэструецца, а карнявая каштоўнасьць не спаганяецца.

4. З тых асоб, якія ня зволены ад сельска-гаспадарчага падатку ў 1926—1927 г., спаганяецца каштоўнасьць самавольна пасечанага імі лесу на агульных падставах, гэта значыць паводле таксы для вылічэньня страт ад лясных праванарушэньняў, зацьверджанай Наркамземам 19 студзеня 1925 г.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *С. Гохман.*

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў *Я. Кроль.*

Нам. Народнага Камісара Земляробства *Вилодьзка.*

3 сьнежня 1927 г.
№ 104.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### аб удасканаленьні і рацыяналізацыі нагляднай працы пракурораў.

*Усім акруговым пракурорам і памочнікам пракурора.*

З актаў абсьледаваньня савецкіх і грамадзкіх арганізацыяў вытвараемых пракурорамі заўважваецца вялікая распыленасьць агульна-нагляднай работы. Абсьледаваньні на адмен нагляду за парушэньнямі рэвалюцыйнай законнасьці замяняюцца рэвізійна інструкцыйнымі абглядамі, чым зусім затушоўваецца роля пракурора, як актыўнага барацьбіта за рэўзаконнасьць.

Часам робяцца абгляды грамадзкіх арганізацый, як МОПР альбо саюзы працзямлесу і інш., да якіх праца пракурора ня мае непасрэднага дачыненьня за выключэньнем выпадкаў злоўжываньняў у гэтых установах і арганізацыях.

З мэтай асярадкаваньня глыбокай увагі пракурора на барацьбу з злоўжываньнямі і правапарушэньнямі і адхіленьня распыленасьці ў агульна-нагляднай працы Пракуратура Рэспублікі прапануе прыняць да кіраўніцтва наступнае:

1) Галоўнымі аб"ектамі нагляднай працы павінны быць дзяржаўныя ўстановы (сельсавет, РВК,—яго аддзел, АВК і яго аддзелы і дзяржаўна—гаспадарчыя ўстановы).

2) Абгляд грамадзкіх арганізацый і ўстаноў (К.С.У., каапэрацыя ўсіх відаў, мопр, каляктывы і інш.) павінны мець месца толькі ў тых выпадках, калі ў пракурора ёсьць падстава к таму, што там маюцца злоўжываньні.

3) Асерадкоўваючы ўвагу на правапарушэньнях неабходна катэгарычна адмовіцца ад рэвізійна—інструктарскіх ухілаў, маючых месца ў працы агульнага нагляду, а павялічыць нагляд: а) на законамернасьць дзеяньняў і вынасімых пастаноў (пратакольных) і распараджэньняў; б) на сыстэматычную барацьбу з незаконнымі

пастановамі (абавязковымі) органаў мясцовай улады; в) на валакіту і барацьбу з бюрократызмам і на хутчэйшы разгляд і здавальненьня рознага роду скарг мясцовымі органамі і г) на тое, каб пратэсты пракурора разглядаліся ў строга ўстаноўлены законам тэрмін і ў выпадку зацяжкі разгляду пратэстаў прыймаць належныя меры (паведамленьня вышэйстаячых пракурораў і ўстаноў, узбуджэньня прасьледаваньняў і інш.).

4) Пры разглядзе і расьсьледаваньні паступаючых скарг у пракуратуру апошняя павінна:

а) на працягу двох дзён па паступленьні скаргі ў камару пракурор абавязан прыступіць к разгляду скаргі, альбо накіраваць яе к дасьледваньню;

б) пры праверцы скарг пракурор абавязан ня толькі абмяжоўвацца пісьмовымі запытаньнямі належных устаноў, але - ж максымум скарыстаць жывыя шляхі сувязі, як—та: тэлефон, выклікі асоб у пракуратуру, наведаваньня самім пракурорам належных службовых асоб і інш;

в) заўважваючы, што службовыя асобы на запытаньні пракурора, альбо пры разглядзе і расьсьледаваньні скарг абмяжоўваюцца фармальнымі адпіскамі, пракурор павінен прыцягваць да адказнасьці дысцыплінарнай альбо крымінальнай належных асоб.

5) Спыніць накіраваньне ў Пракуратуру Рэспублікі копій актаў, аглядаў савецк. устаноў і копій пратэстаў унасімых у АВК, РВК і інш. установы.

Дасылаючы ў Пракуратуру Рэспублікі копіі толькі тых пратэстаў, якія пакінуты ўстановамі без здавальненьня, дадаючы да копій пратэстаў і пастановы органаў адхіліўшых пратэст.

6) Задачай агульнага нагляду зьяўляецца ня толькі штодзенны нагляд за законнай дзейнасьцю ўстаноў і барацьба з маючыміся правапарушэньнямі, але—ж і папярэджаньня правапарушэньняў. Пагэтаму пракуроры сыстэматызуючы ўвесь маючыйся вопыт і матар'ял павінны ўваходзіць у належныя органы аб выпраўленьні самой сыстэмы работы гэтых органаў.

Народны Камісар Юстыцыі
і Пракурор Рэспублікі БССР *М. Сэгаль*

Пам. Пракурора Рэспублікі *Судакоў*

5 сьнежня 1927 г.
№ 105.

---

## Аб падсуднасьці іскаў аб аўтарскай узнагародзе за публічнае выкананьне розных твораў літаратуры і мастацтва.

*Усім акруговым судам.*

Абежнікамі Народнага Камісарыяту Асьветы №19 ад 10 лютага—1926 г. і №17 ад 2 чэрвеня 1927 г. устаноўлены разьмеры аўтарскага ганарару за публічнае выкананьне розных твораў літаратуры і мастацтва, а таксама ўмовы, пры якіх гэтакі ганарар падлягае спагнаньню У выпадку нявыплаты ўстаноўленага гэтымі абежнікамі аўтарскага ганарару самім аўтарам, або агэнтам Беларускага Таварыства пісьменьнікаў і кампазытараў, калі аўтар зьяўляецца яго членам, гэты ганарар спаганяецца судом

Згодна атрыманых зьвестак Народныя суды часта ня прымаюць да свайго разгляду іскаў аб спагнаньні аўтарскага ганарару за публічнае выкананьне твораў, хоць-бы па цане гэтыя іскі і былі менш за 1000 рублёў, бо лічаць гэтыя іскі сабе непадсуднымі паводле п. „г“ арт. 23 Грамадзянскага Процэсуальнага Кодэксу.

Прыймаючы пад увагу:

1. што, як відаць з арт. 3 вышэйпаказанага абежніку № 19 Народнага Камісарыяту Асьветы, правам на атрыманьне аўтарскага ганарару за публічнае выкананьне карыстаюцца аўтары **правамерна выданых твораў;**

2. што п. „г“ арт. 23 Грамадзянскага Процэсуальнага Кодэксу мае на ўвазе іскі, зьвязаныя з правам аўтара на выданьне. Паказаныя-ж ў першым пункце гэтага абежніку іскі прад'яўляюцца толькі такімі аўтарамі, творы якіх ужо выданы, гэта значыцца спрэчным зьяўляецца ня аўтарскае права на выданьне, а толькі патрабаваньне асобай ўзнагароды за публічнае выкананьне;

3. што пагэтаму такія іскі, па сваёй сутнасьці ня могуць быць аднесены да катэгорыі спраў, прадугледжаных п. „г“ арт. 23 ГПК;

4. што прад'яўленьне гэтакіх іскаў, большай часткай мала каштоўных простых акруговых судох немэтазгодна, Народны Камісарыят Юстыцыі і Вярхоўны Суд растлумачваюць, што іскі аб аўтарскім ганарары за публічнае выкананьне розных твораў літаратуры і мастацтва падсудны Народным Судом, калі іскавая сума іх не перавышае іх падсуднасьці.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Гохман.*

Старшыня Вярхоўнага Суду *Варашылаў.*

12 сьнежня 1927 г.
№ 106.

---

**Аб парадку выкананьня паасобных запатрабаваньняў.**

*Усім акруговым пракурорам.*

Са справаздачных дакладаў вучастковых сьледчых на раённых нарадах працоўнікаў Пракуратуры і Суду, а таксама і з актаў абсьледваньняў іх камэр акрпракурорамі і вучастковымі Пам. Пракурорамі заўважана, што вельмі значная колькасьць сьледчых спраў затрымліваецца на другі час вытварам з прычыны несваечасовага выкананьня пасланых па справах асабістых запатрабаваньняў.

Мае на ўвазе, што большасьць запатрабаваньняў прыпадзе на справы аб растратах, альбо службовых злачынствах, маючых асобае значэньне Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе:

1. Поруч з выкананьнем асабістых даручэньняў па справах (123 арт. КПК) у тэрміны, вызначаныя абежнікам НКЮ ад 9/VII—1926 г. № 84 п. п. 1, 2 і 3 Акрпракурорам паклапаціцца, каб даручэньні па справах аб растратах і інш. службовых злачынствах, як маючых асобае дзяржаўнае значэньне, выконваліся ў першую чаргу і без затрыманьня.

2. У тых выпадках, калі асабістае запатрабаваньне, пасьля шэрагу прынятых напамінкаў з боку сьледчага, ня выконваюцца, апошні павінен данесьці аб гэтым пракурору дзеля прыняцьця належных мер.

3. Пракурору ў такіх выпадках належыць зрабіць прапанову сьледчаму (калі такі знаходзіцца ў падлеглай яму акрузе) аб хутчэйшым выкананьні даручэньня, запатрабаваў адначасова з гэтым аб'ясьненьні.

4. Калі з прадстаўленага аб'ясьненьня будзе ўгледжана, што затрыманьне выкананьнем даручэньня адбылося па віне сьледчага, а не па залежных ад яго акалічнасьцяй (адсунасьць абвінавачваемага, сьветкі і г. д.), то наежыць сьледчага прыцягваць да дысцыплінарнай адказнасьці.

5. У тых выпадках, калі асобнае запатрабаваньне па справе даручана сьледчаму за межамі акругі альбо рэспублікі Пракурору належыць запытаць адпаведнага Пракурора аб прыняцьці належных мер уплыву. У выпадках, калі будзе адзначана асаблівая ўпартасьць і маруднасьць у выкананьні даручэньня—трэба зварочвацца ў Цэнтральную Пракуратуру.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор
Рэспублікі *М. Сэгаль.*

Пам. Пракурора Рэспублікі *Кіпарысаў.*

12 сьнежня 1927 г.
№ 107.

---

**Аб парадку разгляду акрпракурорамі ў парадку нагляду спраў, разгледжаных адпаведнымі нарсудамі і акрсудамі да ліквідаваньня Барысаўскай, Калінінскай, Рэчыцкай і Слуцкай акруг.**

*Усім акрпракурорам і акрсудам.*

Пастановай ЦВК і СНК БССР ад 9/VI—1927 г. тэрыторыя Барысаўскай, Калінінскай і Рэчыцкай акруг разьмеркаваны паміж іншымі акругамі БССР (Зб. Зак. БССР 1927 г. № 29, арт. арт. 138 і 139).

У сучасны момант да пракурораў узбуйненых акруг паступаюць ад грамадзян заявы аб пераглядзе іх судовых спраў, разгледжаных адпаведнымі акрсудамі па іх ранейшай тэрыторыяльнасьці (Калінінскае акругі—Аршанскім Акрсудом, Барысаўскае—Менскім Акрсудом, Рэчыцкае—Гомельскім Акрсудом і Слуцкае—Бабруйскім Акрусудом).

Мае на ўвазе, што судовыя справы, пасьля перарайянаваньня, засталіся ў архіве адпаведных акруговых судоў і што па дакладнаму сэнсу арт. 427 КПК і арт. 297 ГПК Акруговаму Пракурору дадзена права затрабаваньня і разгляду спраў у парадку нагляду толькі ад судоў данай акругі. Народны Камісарыят Юстыцыі, у мэтах спрашчэньня парадку прагляду спраў адносячыхся да далучанай тэрыторыі, прапануе:

1) Акрпракурорам узбуйненых акруг, пры атрыманьні скарг ад грамадзян далучанай тэрыторыі аб пераглядзе справы ў парадку нагляду, належыць, калі да гэтага будзе падстава, запатрабоўваць справы ад адпаведных судоў ранейшага тэрыторыяльнага судовага абслугоўваньня і прагледжваць іх у парадку нагляду.

2) У залежнасьці ад вынікаў разгляду справы даць ёй рух у адпаведнасьці з арт. арт. 428 і літ. „а“ і „б“ 429 КПК і 298 арт ГПК.

Народны Камісар Юстыцыі БССР *М. Сэгаль.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *С. Эднэрал.*

Пам. Пракурора Рэспублікі *Кіпарысаў.*

12 сьнежня 1927 г.
№ 108.

---

## Аб неабходнасьці ўстанаўленьня ўзросту і сацыяльнага пахаджэньня абвінавачваемых пры вытварэньні папярэдняга сьледзтва.

*Усім акруговым пракурорам.*

З судовых спраў праглядаемых Цэнтральнай Пракуратурай у парадку нагляду заўважана, што сьледчымі, пры правядзеньні папярэдняга сьледзтва амаль што рэдка захоўваецца парадак абавязковага ўстанаўленьня ўзросту абвінавачваемых і выяўленьня іх сацыяльнага пахаджэньня.

Дзякуючы гэтаму некаторыя з спраў, пасьля паверкі ўсіх акалічнасьцяў судом, альбо звароўваюцца назад Пракурору дзеля накіраваньня іх у камісію па справах аб непаўналетніх (арт. 8 КК), альбо пры заявах абвінавачваемых на судовым сьледзтве аб іх няпоўналецьці (ад 14 да 18 год), дакладнасьць якога дакумэнтальна не ўстаноўлена—суду цяжка бывае пры вынясеньні прыгавору абмяркоўваць пытаньне аб абавязковым зьмякчэньні вызначанага тэрміну пакараньня за зробленае злачынства (літ. „а“ і „б“ 18 арт. КК).

Таксама, пры адсутнасьці ў справах другога моманту-сацыяльнага пахаджэньня, якое мае вялікае значаньне пры вызначэньні абвінавачваемаму пакараньня (п. 5 320 арт. КПК і 334 арт. КПК)-суду будзе затрудніцельна з большай паўнатой вынасіць сваі прыгаворы.

Мае на ўвазе, што накіроўваемыя сьледчыя справы ў суд у парадку 223 і 229—131 арт. КПК павінны дакладна і дастаткова апрацоўвацца і што патрабаваньні арт. 205 КПК (устанаўленьня здарэньня злачынства, імя, імя па бацьку і прозьвішча в наватага, яго узрост, акалічнасьці якія даюць падставу дзеля адданьня абвінавачваемых падсуд, судзімасьць, клясавая прыналежнасьць і сацыяльнае пахаджэньне, месца і час, матывы зробленага злачынства, калі магчыма іх было ўстанавіць) для сьледчага абавязковы, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе ў далейшым пры накіраваньні спраў у суд, паклапаціцца, каб у справе заўсёды былі б неабходныя зьвесткі.

Пры неабходнасьці устанаўленьня ўзросту сьледчым належыць у першую чаргу запатрабоўваць зьвесткі з адпаведных органаў ЗАГСа, а у выпадках немагчымасьці атрымаць належныя дакумэнты аб узросьце абвінавачваемых сьледчыя павінны ўстанавіць гэтакія шляхам мэдыцынскага агляду у тых выпадках, калі ёсьць падстава мяркавацца, што абінавачваемы зьяўляецца непаўналетнім (141 арт. КПК). Устанаўленьне сацыяльнага пахаджэньня абвінавачваемых рабіць або шляхам запатрабаваньня ад належных органаў зьвестак апросам сьветак і нарэшце апрос саміх абвінавачваемых. Сацыяльнае пахаджэньне мае істотнае значэньне ня толькі пры вызначэньні меры пакараньня, але і пры адбыцьці гэтакага.

Народны Камісар Юстыцыі
і Пракурор Рэспублікі БССР *М. Сэгаль.*

Пам. Пракурора Рэспублікі БССР *Кіпарысаў.*

12 сьнежня 1927 г.
№ 109.

## Аб прыёме даведальнікаў.

*Усім акрпракурорам і акруговым судом.*

Са штодзеннай працы заўважана, што насельніцтва зварочваецца ў вышэйшыя органы ўлады—Цэнтральны Выканаўчы Камітэт, праз прыёмную ЦВК, і беспасрэдна ў НКЮ па пытаньнях зямельных, аб дапасаваньні амністыі (злажэньні штрафу, вызваленьні з пад варты і г. д.), аб лесапарубках, аб дачы працы, аб назначэньні пэнсіі, аб дэмуніцыпалізацыі будынкаў, аб сельска-гаспадарчым падатку, заявы на няўважлівыя адносіны ніжэйшых савецкіх органаў да заяў насельніцтва і іншае.

Мае на ўвазе, што поплеч з зварочваньнем у прыёмную ЦВК і НКЮ па пытаньнях, вырашэньне якіх уваходзіць у круг абавязкаў мясцовых саветаў, выканкомаў, нарсудоў, зямельных камісій, вучастковай пракуратуры, акрпракуратуры і акрсудоў і што ў сувязі з праведзенай рацыяналізацыяй і наданьня большых праў і абавязкаў мясцовым органам, гэтыя пытаньні павінны вырашацца на мясцох, —Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе:

1) Усякія заявы насельніцтва, паступаючыя ад прыемнай ЦВК альбо праз цэнтральныя ўстановы, па пошце, альбо беспасрэдна прынесенымі самымі грамадзянамі, павінны зараз-жа прыймацца, знаёміцца з іх зьместам і ў залежнасьці ад апошняга даваць ці той ці іншы напрамак гэтым заявам.

2) Каб даведальнікі, асабліва сяляне, дарэмна ня трацілі свой працоўны час неабходна акрпракурорам вызначыць ў сваёй штодзённай працы сталы парадак прыёму. Пры прыёме даведальнікаў ня трэба абмяжоўвацца фразамі, як напрыклад: „гэта да пракуратуры ня мае ніякіх адносін“, а трэба растлумачыць даведальніку (правы і абавязкі яго па справе, растлумачыць, хто павінен вырашыць гэтае пытаньне і што ўваходзіць у круг абавязкаў мясцовых органаў улады. Падобнага роду тлумачэньнямі аўтарытэт мясцовай улады ў вачох насельніцтва значна падымецца, і апошняе толькі ў выключных і сапраўдных пакрыўджаньнях з боку мясцовай улады будуць зварачвацца ў цэнтральныя ўстановы.

3) Увесьці, як правіла, каб у пракуратуры, пры адсутнасьці самога пракурора, прыём даведальнікаў рабілі-б памочнікі. Прыём павінен быць увесь працоўны дзень.Назіраць, каб выпадкаў адсутнічаньня ўсіх працоўнікаў пракурорскага складу ня было. У пракуратуры заўсёды павінен быць, у парадку дзяжурства ад 9 гадзін раніцы і да 3½ гадзін дню, адзін з памочнікаў пракурора.

4) Заявы грамадзян, паступаючыя з прыёмнай ЦВК'а павінны разглядацца ў парадку і тэрміны прадугледжаныя абежнікам НКЮ ад 14-га кастрычніка г. г. за № 20/с, гэта значыць, аднолькава з заявамі, і скаргамі, атрымліваемымі ад органаў НКРСІ.

5) Практыкуемае акрпракурорамі непасрэднае даведваньне рабочых на прадпрыемствах, прыём ад іх заяў і дачы юрыдычных парад і тлумачэньняў трэба больш пашыраць.

6) Паступаючым заявам з прыемнай ЦВК у суды даваць належны рух у тэрміновым парадку.

7) Пры звароце сялян з заявамі ад прыёмнай ЦВК у суды—апошнія павінны зараз знаёміцца з гэтымі заявамі і ў залежнасьці ад іх зьместу даваць належныя ўказаньні або тлумачэньні.

8) Такіх выпадкаў, як „здайце заяву ў рэгістратуру і аб выніках Вам будзе паведамлена“—не павінна быць. Бо па многіх выпадках належыць толькі даць адпаведнае тлумачэньне, але не пакідаць хадакоў без здавальненьня.

9) Пры прыёме даведальнікаў працоўнікамі канцэлярыі суду—пракуратуры па справах, якія ўжо знаходзяцца ў іх вытвору, яны павінны ўважліва, дакладна і зразумела растлумачваць грамадзянам, каб апошнія выходзілі з канцэлярыі судоў пракуратуры з поўным разуменьнем растлумачанага ім.

Нагляд за пастаноўкай працы канцэлярый пракуратуры і суда і прыёмам апошняй даведальнікаў, цалком ускладаецца пад асабовую адказнасьць пракурораў і старшынь судоў.

Народны Камісар Юстыцыі
і Пракурор Рэспублікі БССР *М. Сэгаль.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *Эднэрал*

Пам. Пракурора Рэспублікі *Кіпарысаў*

12 сьнежня 1927 г.
№ 110.

**аб невытварэньні выбараў народных засядацеляў на 1928 г., аб выкліку іх у 1928 г. па сьпісах, складзеных на 1927 год, і аб тэрміновай арганізацыі заняткаў сярод дзейнага складу народных засядацеляў.**

*Усім акруговым судом. Копія Акрпракурорам*

Тэрмін паўнамоцтваў народных засядацеляў, абраных на 1927 г., працягнуты да 1-га студзеня 1929 г.

Гэтае мерапрыемства выклікана, між іншым, тым меркаваньнем, што чынны склад нарзасядацеляў, з прычыны зацяжкі мінулай кампаніі па перавыбарах іх у некаторых акругах і раёнах, ня быў досыць скарыстаны ў судовай працы, а таксама—неабходнасьцю правядзеньня сярод нарзасядацеляў дзейнага складу тых мерапрыемстваў па падвышэньні іх культурна-праўнага і палітычнага ўзроўня, якія былі намечаны НКЮ і ня былі праведзены поўнасьцю ў 1927 годзе.

З прычыны вышэйвыкладзенага, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе:

1. Перавыбараў нарзасядацеляў на 1928 год не рабіць.

2. Выклік народных засядацеляў, для ўдзелу іх у пасяджэньнях суду, рабіць у 1928 годзе па сьпісах нарзаседацеляў, складзеных на 1927 год.

3. Тэрмінова арганізаваць, як у акруговых гарадох, так і ў раёнах, заняткі з чынным складам народных засядацеляў, у адпаведнасьці з дырэктывамі, якія былі дадзены НКЮ у таварыскім лісьце яго на імя старшыняў акрсудоў за 3-га лютага 1927 году за № 3, і па праграме, якія была далучана да абежніку НКЮ за 5-е лістапада 1926 году за № 140 і якая пры гэтым дадаецца, у поўнай меры скарыстаўшы для гэтых заняткаў наступаючы зімовы пэрыяд і прыцягнуўшы да гэтай працы ўсіх працаўнікоў юстыцыі—суду, сьледзтва, пракуратуры і калегіі абаронцаў, а таксама членаў юрыдычных гурткоў, якія не зьяўляюцца працаўнікамі юстыцыі, шляхам прызначэньня іх на гэтую працу з боку адпаведных юрыдычных гурткоў.

4. У мэтах папярэдняга азнаямленьня працоўных з палітычнай і практычнай важнасьцю гэтых заняткаў, а таксама з роляю і значэньнем народных засядацеляў у пралетарскім судзе, тэрмінова зьвярнуцца да адпаведных прафэсыянальных органаў па пытаньні аб пастаноўцы працаўнікамі юстыцыі, раней адчыненьня паказаных заняткаў, на сходах працоўных спэцыяльных дакладаў на адзначаныя тэмы і прыняць меры да камандыраваньня на гэтыя сходы адпаведных дакладчыкаў.

5. Для больш плянавага правядзеньня заняткаў сярод нарзасядацеляў тэрмінова скласьці каляндарны плян гэтых заняткаў на ўсю тэрыторыю акругі з паказаньнем у ім—дзе, калі, кім і якая лекцыя будзе прачытана і якая колькасьць нарзасядацеляў будзе прыцягнута да кожнай лекцыі.

6. Устанавіць у акрсудох, праз старшыняў акрсудоў, строгі нагляд за выкананьнем намечанага пляну правядзеньня заняткаў сярод нарзасядацеляў і завесьці дакладны падлік гэтае працы.

7. Па сканчаньні заняткаў з нарзасядаталямі падаць у НКЮ не пазьней 1-га мая 1928 г. падрабязную справаздачу аб гэтай працы з паказаньнем у ей: а) колькі і па якіх прадметах было прачытана лекцый у акруговым горадзе і ў раёнах старшынёй і членамі акрсуду, нарсудзьдзямі, пракурорамі, сьледчымі, членамі калегій абаронцаў і членамі юрыдычных гурткоў, якія не зьяўляюцца працаўнікамі юстыцыі; б) як, наогул, прайшлі заняткі і якія былі адносіны да іх з боку народных засядаталяў і в) якія былі цяжкасьці і перашкоды на шляху правядзеньня гэтых заняткаў.

Выкананьне гэтага абежніку ўскладаецца на асабістую адказнасьць старшынь акрсудоў.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Эднэрал*

14 сьнежня 1927 г.
№ 111.

Дадатак да абежніку НКЮ ад 14 сьнежня 1927 г. за № 111.

## Прыкладная праграма заняткаў з народнымі засядаталямі.

Заняткі з народнымі засядаталямі маюць сваёю мэтаю азнаёміць народных засядаталяў з асяродзьдзя рабочых і сялян з задачамі суду, з структураю судовых установ Рэспублікі і з асноўнымі палажэньнямі дзейнічаючых кодэксаў у тых галінах іх, каторыя маюць найбольш частае практычнае дапасаваньне.

Дзеля гэтага, заняткі з народнымі засядаталямі не павінны насіць абстрактнага тэорэтычнага характару, а павінны прасьледваць практычную мэту—увядзеньне нарзасядаталяў ў курс тых праўных пытаньняў, з каторымі ім прыходзіцца найбольш часта стыкацца пры выкананьні сваіх абавязкаў.

Некаторая шырата прапануемай праграмы не павінна непакоіць лектараў. Маючы сваёй задачаю даць слухачом самыя элемэнтарныя паняцьці па пытаньнях, паказаных у праграме, лекцыі павінны насіць папулярны характар і быць па свайму выкладаньню даступнымі разуменьню непадрыхтованых слухачоў, якім ў большасьці выпадкаў зьяўляюцца народныя засядаталі з асяродзьдзя рабочых і сялян.

Апрача таго, гэтая праграма, як прыкладная, ня выключае магчымасьці яе пашырэньня і скарачэньня, у залежнасьці ад складу слухачоў і мясцовыхі умоў.

### А. Палажэньне аб судабудаўніцтве (адна лекцыя).

1. Задачы суду.

2. Сыстэма судовых устаноў БССР.—Народны Суд, Акруговыя Суды і Вярхоўны Суд.

3. Спэцыяльныя суды і судова-адміністрацыйныя органы: Ваенныя Трыбуналы, Працоўныя Сэсіі Нарсуду, Зямельныя Камісіі, Арбітражныя Камісіі па справах аб непаўналетніх.

4. Іншыя органы юстыцыі: Пракуратура, сьледчыя, калегіі абаронцаў, натарыят, судовыя выканаўцы.

5. Структура Народнага Суду, Акруговагу Суду і Найвышэйшага Суду. Узаемаадносіны гэтых судоў між сабою па лініях адміністрацыйных і судовых.

6. Народныя засядаталі: а) хто можа быць народным засядаталем у народных і акруговых судах; б) парадак абраньня і складаньня сьпісаў народных засядаталяў для нарсудоў і акруговых судоў; в) правы і абавязкі нарзасядаталяў; г) розьніца між нарзасядаталямі і „прысяжнымі засядаталямі“ дарэвалюцыйнага суду ў аб'ёме праў пры вырашэньні спраў і д) значэньне ўдзелу нарзасядаталяў ў судзе.

### Б. Крымінальны кодэкс (тры лекцыі).

**1 лекцыя.**

Агульная частка: а) граніцы дзеяньня КК; б) агульныя прынцыпы дапасаваньня пакараньняў; в) вызначэньне меры пакараньня; г) роды і віды пакараньняў і іншых мер сацыяльнай абароны і д) парадак адбываньня пакараньня.

**2 лекцыя.**

Асаблівая частка: а) контр-рэвалюцыйныя злачынствы; б) злачынствы проціў парадку кіраўніцтва; в) службовыя злачынствы; г) парушэньні правіл аб адлучэньні царквы ад дзяржавы і д) гаспадарчыя злачынствы.

Паасобныя віды гэтых злачынстваў, якія сустракаюцца ў практыцы суду, іх галоўныя адрозьніваючыя прыметы і ўстаноўленая КК карная санкцыя па кожнаму з гэтых злачынстваў.

**3 лекцыя.**

Асаблівая часьць: а) злачынствы супроць жыцьця, здароўя, волі і годнасьці асобы; б) маёмасныя злачынствы; в) вайсковыя злачынствы і г) парушэньне правілаў, ахоўваючых народнае здароўе, грамадзянскую бясьпечнасьць і публічны парадак.

Паасобныя віды гэтых злачынстваў, якія сустракаюцца ў практыцы суду, іх адрозьніваючыя прыметы і ўстаноўленае КК карная санкцыя для кожнага з гэтых злачынстваў.

## В. Крымінальны працэс (дзьве лекцыі)

### 1 лекцыя.

1. Крымінальны працэс, паняцьце і задачы яго.

2. Асnаўныя стадыі працэсу, узбуджэньне крымінальнага прасьледваньня. дазнаньне, папярэдняе сьледзтва, адданьне пад судовае сьледзтва, вынясеньне прыгавору.

3. Парадак абскарджаньня прыгавароў. Касацыйнае разгляданьне спраў. Разгляд спраў у парадку нагляду. Аднаўленьне спраў па ўноў адкрыўшыхся акалічнасьцях.

4. Парадак выкліку старон, сьветак і экспэртаў. Меры прасячэньня. Завочнае справавядзеньне. Судовыя загады. Вартоўнічыя камэры.

### 2 лекцыя.

1. Асnаўныя прынцыпы Крымінальнага працэсу: спаборніцтва, раўнапраўе старон, пісьмовасьць і вуснасьць, гласнасьць і тайна судавядзеньня, бязупыннасьць, прынцып вольнай ацэнкі довадаў.

2. Арганізацыя абвінавачваньня і абароны. Абвінавачваньне па справах, паднімаемых у прыватным парадку. Абавязковая абарона.

3. Грамадзянскі іск у крымінальным працэсе: прыняцьце ўмовы яго разгляду прадстаўніцтва інгарэсаў грамадзянскагаісца.

## Г. Грамадзянскае права (дзьве лекцыі).

### 1 лекцыя.

1. Паньцьце аб грамадзянскім праве. Грамадзянскі Кодэкс. Пабудова ГК: агульная часьць, рэчавае права, абавязацельнае права, спадчыннае права.

2. Асnаўныя палажэньні ГК. Суб'екты праў (асобы). Аб'екты праў (маёмасьць). Угоды, іскавая даўнасьць.

3. Рэчавае права: права ўласнасьці, права забудоўкі, залог маёмасьці.

4. Абавязацельнае права. Агульныя палажэньні.

### 2 лекцыя.

1. Абавязацельствы, якія ўзьнікаюць з дагавароў. Паасобныя віды дагавароў (элемэнтарныя паняцьці аб кожным з іх): маёмасны наём, купля,—продаж, мена, заём, падрад, паручыцельства, даверанасьць, таварыства, страхаваньне.

2. Абавязацельствы, якія ўзьнікаюць з прычыны нягрунтоўнага абагачэньня.

3. Абавязацельствы, якія ўзьнікаюць з прычыны ўчыненьня другому шкоды.

4. Спадчынае права. Насьледваньне па закону і па завяшчаньню. Круг асоб, выклікаемых да насьледваньня. Форма завяшчаньняў. Умовы прыняцьця спадчыны. Выклік насьледнікаў. Выморачнасьць спадчыны.

## Д. Грамадзянскі працэс (дзьве лекцыі).

### 1 лекцыя.

1. Грамадзянскі працэс, паняцьце і задачы яго.

2. Асnаўныя палажэньні ГПК. Прадстаўніцтва на судзе. Падсуднасьць. Судовыя выдаткі. Штрафы Працэсуальныя тэрміны.

3. Іскавое справавядзеньне. Прад'яўленьня іску. Забясьпячэньня іску. Разбор справы. Аб пратаколах. Прыпыненьне прыгавору.

4. Аб довадах. Паасобныя віды довадаў.

### 2 лекцыя.

1. Вынясеньне рашэньняў. Аб выдачы выканальных лістоў.

2. Асобнае справавядзеньне. Паасобныя віды.

3. Абскарджаньне рашэньняў і касацыйнае справавядзеньне. Перагляд судовых рашэньняў.

4. Выкананьне судовых рашэньняў і пастаноў. Агульныя палажэньні. Паасобныя віды спагнаньняў. Продаж зарыштованай маёмасьці.

## Е. Зямельнае права (тры лекцыі).

### 1 лекцыя.

1. Парадак разгляду зямельных спраў. Раённыя і акруговыя зямельныя камісіі. Асобая калегія Вышэйшага Кантролю. Канструкцыя і ўзаемаадносіны вышэйпаказаных органаў.

2. Кампэтэнцыя зямельных органаў. Справы, падсудныя нарсуду па зямельнаму кодэксу.

3. Парадак разгляду зямельных спраў.

4. Парадак і тэрмін абскарджваньня рашэньняў зямельных камісій.

5. Выкананьне рашэньняу Зямельных Камісій.

### 2 лекцыя.

1. Працоўнае Землякарыстаньне.

Асобы які я маюць права атрымаць зямлю ў карыстаньне. Парадак надзяленьня зямлёй, устойлівасьць землякарыстаньня. Аб'ем праў землякарыстальніка. Спыненьне землекарыстаньня.

2. Паняцьце аб двары, як аб працоўнай земляробчай гаспадарцы. Склад двара і яго зьмены. Прымацтва. Маёмасьць двара. Правы гаспадара двара. Зьмена гаспадара двара. Правы членаў двара.

3. Адказнасьць за даугі членаў двара. Спагнаньне штрафаў. Канфіскацыя. Алімэнты. Падворныя сьпісы. Рэгістрацыя зьменаў у складзе двара і яе значэньне.

4. Падзел двара—добраахвотны і судовы. Падсуднасьць спраў аб падзелах. Долі падзяляючыхся ў маёмасьці агульнага карыстаньня. Недрабімасьць гаспадаркі. Выдзелы з недрабімай гаспадаркі.

### 3 лекцыя.

1. Аб працоўнай арэндзе зямлі.

Умовы дапушчэньня арэнды зямлі. Тэрмін арэнды. Значэньне рэгістрацый дагавораў аб арэндзе зямлі. Абавязкі зьёмшчыка. Датэрміновае скасаваньне дагавору арэнды. Падсуднасьць іскаў, якія выцякаюць з дагавораў арэнды. Вынікі незаконнай арэнды.

2. Наёмная праца ў працоўных земляробчых гаспадарках. У якіх выпадках дапускаецца наёмная праца. Умовы найму рабочых у сялянскай гаспадарцы.

## Ж. Лясное права. (адна лекцыя)

1. Лясны Кодэкс БССР. Лясы дзяржаўныя. Лясы мясцовага значэньня. Ахова і эксплёатацыя тых і іншых. Дрэвы на землях гаспадарчага значэньня.

2. Лесапарушэньні. Парадак разгляду спраў аб лесапарушэньнях. Адказнасьць за лесапарушэньні.

## З. Кодэкс Законаў аб шлюбе, сям'і і апецы.

### 1 лекцыя.

1. Аб шлюбе. Умовы браньня шлюбу. Неправадзейнасьць шлюбу. Асабовыя і маемасныя адносіны супругаў. Скасаваньне шлюбу.

2. Аб сям'і. Пахаджэньне. Асабовыя правы і абавязкі дзяцей і бацькоў. Маемасныя правы і абавязкі крэўных асоб. Усынаўленьне.

3. Апека і папячыцельства. Устанаўленьне і зьняцьце апекі і папячыцельства. Назначэньне і звальненьне апякуноў. Правы і абавязкі па апецы і папячыцельству.

4. Запіс актаў грамадзянскага стану. Асобныя віды запісаў: запіс нараджэньняў, запіс шлюбаў і разлук, запіс выпадкаў сьмерці і іншыя запісы.

5. Аб абглядзе душэўна-хворых і слабых на разум.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Эднэрал.*

## Аб вытварэньні папярэдняга следзтва.

*Усім акруговым пракурорам.*

З абгляду статыстычнага матар'ялу і пратаколаў нарад Пракуратуры, сьледапарату і суду ўгледжваецца, што ў сьледчых, побач з падвышэньнем прапускной здольнасьці па накіраваньню крымінальных спраў у суды, прыкмечаецца павялічэньне ліку спраў, зварачваемых пракуратурай і судом сьледчым для доследу. Процант зварачваемых для доследу спраў даходзіць у сярэднім да 7—10 проц., а па некаторых акругах нават і больш.

Апроч таго заўважана, што справы, перадаваемыя ў суды, наогул недастаткова вывучаюцца, недастаткова і няпоўна расьледваюцца факты, патрабуемыя акалічнасьцямі справы і нарэшце напісаньне абвінавальных заключэньняў і пастаноў аб адданьні абвінавачваемых суду бывае, што не адпавядае сабраным па справе матар'ялам.

У выніку гэтага судамі альбо выносяцца апраўдальныя прыгаворы, альбо зварачваюцца зноў сьледчаму для досьледу.

Такім чынам разгляд спраў у судох затрымліваецца, момант зробленнага злачынства, па віне сьледчага, адсоўваецца на значны час ад моманту пакараньня.

Лічачы гэтакую пастаноўку у сьледзтвеным вытварэньні ненармальнай, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе:

1) Акрпракурорам безадкладна зрабіць сьледчым строгія захады аб бязумоўным выкананьні, пры вытвару папярэдняга сьледзтва, трэбаваньняў, прадугледжаных 111, 112 і 114 арт. арт. КПК і гэтым самым даць суду выразны малюнак зробленага злачынства і бяз усякіх цажкасьцяў вызначыць меру пакараньня (24 і 25 арт. арт. КК).

2) Сьледчым прыняць усе меры да ўзмацненьня якасьці ў прапрацоўцы сьледзтвенных спраў.

Абвінавальныя заключэньні і пастановы павінны складацца ў адпаведнасьці з трэбаваньнямі 210, 1 і 2 ч. 224 і 203 арт. арт. КПК і выключна па матар'ялах, сабраных па справе, ні ў якім разе не дапушчае непатрэбнай белетрыстыкі, вялізарных апісаньняў злачынстваў і вычурных фраз;

3) Акрпракуроры і вучастковыя Пам. Пракуроры пры атрыманьні спраў ад сьледчых у парадку 211 і 203 арт. арт. КПК і далейшым іх накіраваньні ў суд у парадку 223, 229—231, 228 арт. арт. КПК заўсёды павінны ўсебакова знаёміцце са сьледзтвеным вытварам, строга правераць дакладнае выпаўненьне трэбаваньняў КПК, як у сэнсе захаваньня сьледчымі тэрмінаў вытвару папярэдняга сьледзтва (116 і 159 арт. арт. КПК), а таксама і прапрацоўцы сьледзтвенага матар'ялу (111, 112, 113 арт. арт. КПК) і толькі пасьля гэтакай праверкі даваць сваю згоду на накіраваньне справы ў суд:

4) Акрпракурорам і вуч. пам. пракурора належыць устанавіць больш шчыльную сувязь з судамі (акрсудамі і нарсудамі), каб апошнія, у ва ўсіх выпадках вынясеньня апраўдальных прыгавороў, усякі раз ставілі аб гэтым пракуратуру ў вядомасьць на прадмет азнаямленьня са справамі і дачы сьледчым адпаведных тлумачэньняў па недахопах сьледзтва.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *С. Гохман.*

Пам. Пракурора Рэспублікі *Кіпарысаў.*

19 сьнежня 1927 г.
№ 112.

---

## Аб мерах барацьбы з пратэкцыянізмам.

*Усім акрпракурорам і акрсудам.*

Пратэкцыянізм—адно з хворых месц савецкага апарату. Органы НКЮ (пракуратура, сьледзтва і суд), на раду з правадзімай імі работай па папярэджваньню злачынства, правядзеньня расьследваньняў па ўжо зробленых злачынствах і дапасаваньня па іх рэпрэсыўных мер судом, павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на новы від злачынства—пратэкцыянізм.

Пратэкцыянізм стаў пранікаць ня толькі ў адміністрацыйна-гаспадарчыя і каапэрацыйныя ўстановы і арганізацыі, але і ў дзяржаўныя ўстановы.

Аб гэтым яскрава сьведчыць шэраг зьмяшчаемых на старонках друку заметак, фэльетонаў, журнальных стацей і карыкатур і ўсякага роду выпадкаў перамяшчэньняў, звальненьняў і мнімых скарачэньняў штатаў пад відам яка-бы патрабаваньняў вышэйшых устаноў. Усё гэта робіцца некаторымі дзельцамі з адміністрацыі з тым, каб на месца зволеных, пераведзеных на іншыя ніжэйшыя пасады, прістроіць сваіх радных і знаёмых (сыноў, братоў, пляменьнікаў, сясцер, жон і г. д.)

Мае на ўвазе, што гэтае зьявішча зьяўляецца палітычна-хворай старонкай нашага савецкага апарату і далёкім ад правадзімых прынцыпаў савецкай уладай і партыяй і што ў распачатай рабоце органамі РСІ па барацьбе з пратэкцыянізмам органы Пракуратуры, суду і сьледзтва павінны прыняць больш удзелу, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе:

## Акрпракурорам.

1. Узмацніць нагляд за зямешчаемымі на старонках газэты заметак, фэльетонаў і г. д. аб пратэкцыянізму, запатрабоўвае ад адпаведных устаноў і арганізацый аб'ясьненьняў і правярая шляхам расьследваньня дзеяньні адміністрацыі.

2. У выпадках, калі зьмешчанае на старонках газэты знойдзе па справе пацьверджаньне—віноўных трэба прыцягваць да крэмінальнай адказнасьці па 1 ч. 108 арт КК з санкцыяй па 1 альбо 2 ч. 105 арт. КК.

3. З прычыны таго, што хуткі разгляд гэтых спраў ў судзе мае вельмі важнае грамадзкае і дзяржаўнае значэньне і што яны па свайму зьместу не зьяўляюцца складнымі справамі, Пракурору належыць зрабіць сьледчым строгія захады аб больш шпаркім афармленьні гэтых спраў і накіраваньні іх у суд у тэрміновым парадку.

4. Акрпракурору і вучастковаму Пам. Пракурора сачыць, а таксама і самім недапушчаць выпадкаў неабаснаваных перамяшчэньняў, звальненьняў і назначэньняў як тэхнічных працаўнікоў (па свайму ўласнаму загаду), а таксама і адказных працаўнікоў Пракуратуры і сьледапарату (па прадстаўленьню ў Цэнтральную Пракуратуру).

## Акрсудам.

5. Пры паступленьні гэтых спраў ў суд—Акрсуды павінны назначаць іх да слуханьня, як мага хутчэй.

6. Па справах, маючых грамадзкае значэньне, належыць праводзіць паказацельныя працэсы з абавязковым асьвятленьнем іх ў друку.

7. Пры вызначэньні меры сацыяльнай забароны суд заўсёды павінен мець на ўвазе нанесеную, ці тым, ці іншым абвінавачваемым, шкоднасьць дзяржаве.

8. Акрсудам належыць наглядаць за нарсудамі, а таксама і самім не дапушчаць выпадкаў павольных, неабаснованых перамяшчэньняў, звальненьняў і назначэньняў як тэхнічных працаўнікоў суду (па свайму ўласнаму загаду), а таксама і адказных працаўнікоў суду (па прадстаўленьню ў АВК аб датэрміновым адкліку працаўнікоў суду, іх перамяшчэньні і звальненьні.

Няўхільнае выкананьне трэбаваньняў гэтага абежніку ўскладаецца на Акрпракурораў і старшынь акрсудоў.

Ч. в. аб. Народнага Камісара Юстыцыі
і Пракурора Рэспублікі *С. Гохман.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *Эднэрал*

Пам. Пракурора Рэспублікі *Кіпарысаў.*

23 сьнежня 1927 г.
№ 113

## Аб парадку высяленьня асоб, якія самавольна занялі памяшканьні, пераданыя жыльлёва-арэндным таварыствам.

*Усім судовым органам і інспэктурам камунальнай гаспадаркі.*

У практыцы судовых і адміністрацыйных устаноў узьніклі наступныя пытаньні, зьвязаныя з дапасаваньнем пастановы ЦВК і СНК БССР ад 19 лютага 1927 году аб умовах і парадку высяленьня грамадзян з занятых імі памяшканьняў у гарадох і мястэчках (Зб. Зак. 1927 г № 12, арт. 42):

1. Хто павінен даваць дазвол на заняцьце памяшканьня, перađанага жыльлёва-арэнднаму таварыству, і

2. У якім парадку робіцца высяленьне грамадзян, якія пасяліліся ў гэтакіх памяшканьнях без належнага дазволу.

Для папярэджваньня непаразуменьняў Народныя Камісарыяты Юстыцыі і Унутраных Спраў прапануюць судовым установам і камунальным аддзелам, пры разьвязваньні вышэй паказаных пытаньняў кіравацца наступнымі паказаньнямі.

1. Правы і абавязкі жыльлёва-арэндных каапэрацыйных таварыстваў устанаўляюцца артыкуламі 3—12 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 19-га жніўня 1924 г. аб жыльлёвай каапэрацыі (Зб. Зак, Саюзу ССР 1924 г. № 5, арт. 60), а таксама тыпавым статутам гэтакага роду таварystваў (Зб. Зак. БССР 1925 г. № 12, арт. 103).

2. Як можна бачыць з арт. 3 першага з вызначаных пастаноў, жыльлёва-арэндныя каапэрацыйныя таварыствы арганізуюцца **для скарыстаньня муніцыпаліза-**

**ваных домоўладаньняў**, якія аддаюцца ім ў наймы органамі мясцовай гаспадаркі. Значыцца, уся жылая плошча, якая на падставе асобных дагавароў з камунальнымі аддзеламі знаходзіцца ў распараджэньні жыльлёва-арэндных таварыстваў, **уваходзіць** ў склад камунальнага жыльлёвага фонду.

3. Жыльлёва-арэндныя таварыствы аддаюць пераданыя ім памяшканьні сваім членам, а таксама ў наймы грамадзянам, ня ўваходзячым ў склад таварыства (увага да п. „б“ арт. 6 пастановы аб жыльлёвай каапэрацыі і п. „б“ арт. 2 тыпавога статуту), пры чым разьмеркаваньне плошчы тычыцца да кампэтэнцыі агульнага сходу членаў таварыства (арт 7 пастановы аб жыльлёвай каапэрацыі). Значыцца, бяз згоды агульнага сходу таварыства або яго праўленьня, калі апошняму асобай пастановай агульнага сходу дадзена права выдаваць дазволы на ўсяленьне, ня можа мець месца заняцьце кім небудзь памяшканьня, знаходзячагася ў веданьні і распараджэньні жыльлёва-арэнднага таварыства.

4. Члены жыльлёва-арэнднага каапэрацыйнага таварыства бяз згоды агульнага сходу або праўленьня таварыства **ня маюць права здаваць у наймы** частку прадастаўленай ім плошчы, бо гэтая плошча па сэнсу арт 7 пастановы аб жыльлёвай каапэрацыі передаецца членам таварыства для беспасрэднага скарыстаньня, таксама і на падставе ўвагі да арт. 170 Грамадзянскага Кодэксу БССР займаючыя памяшканьні таварыства асобы, якія не зьяўляюцца яго членамі, могуць перадаваць у паднаймы частку гэтага памяшканьня **ня інакш, як з дазволу** агульнага сходу таварыства, або яго праўленьня, калі апошняму прадастаўлена права даваць такія дазволы.

5. Такім чынам, **усякая асоба, якая так ці інакш заняла памяшканьне, переданае жыльлёва-арэнднаму таварыству бяз згоды яго органаў, зьяўляецца самавольна-усяліўшайся ў памяшканьне, уходзячае ў камунальны жыльлёвы фонд.**

6. Дзеля гэтага і на падставе п. „в“ арт. 2 пастановы ЦВК і СНК БССР ад 19 лютага 1927 г. аб умовах і парадку высяленьня грамадзян з занятых імі памяшканьняў ў гарадох і мястэчках (Зб. Зак. БССР 1927 г. № 12. арт. 42) высяленьне асоб, самавольна ўсяліўшыхся ў памяшканьні переданыя жыльлёва-арэндным таварыствам, павінна рабіцца ў **адміністрацыйным** парадку, прадугледжаным арт. арт. 3—8 паказанай вышэй пастановы ад 19 лютага г. г., калі самавольнае заняцьце памяшканьня адбылося пасьля ўступленьня ў дзеяньне пастановы ЦВК і СНК БССР ад 19 лютага—27 г. (пастанова Народных Камісарыятаў Юстыцыі і Ўнутраных Спраў БССР ад 7 ліпеня 1927 г. № 67 (Бюлетень СНК БССР № 13, 1927 г.).

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *С. Гохман.*

Народны Камісар Унутраных Спраў *Сташэўскі.*

23 сьнежня 1927 г.
№ 114.

---

## Аб выкліканьні ў суд абвінавачаных вайсковаслужбоўцаў.

*Усім акруговым і народным судом.*

З прычыны частых запытаньняў з месц аб парадку слуханьня судовымі органамі БССР крымінальных спраў аб асобах, якія знаходзяцца ў шэрагах Чырвонае арміі і флёту, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе прыняць да кіраваньня ніжэйнаступныя паказаньні:

1. Па справах аб вайсковаслужбоўцах Чырвонае арміі і Флёту, калі месца знаходжаньня вайсковай часьці, у якой служыць абвінавачваемы, знаходзіцца на значнай адлегласьці ад месца знаходжаньня суду, апошні абавязан узбудзіць пытаньне аб перадачы справы для слуханьня ў другі адпаведны суд па месцы знаходжаньня гэтае вайсковай часьці ў парадку арт. арт. 30—31 КПК.

2. Па ўсіх справах, па якіх абвінавачанаму пагражае дапасаваньне меры соцыяльнай абароны ў відзе пазбаўленьня волі на тэрмін да аднаго году, альбо больш мяккая мера соцыяльнай абароны, вышэйпаказаная передача справы ў суд па месцы знаходжаньня вайсковай часьці—абавязкова.

3. У тых выпадках, калі абвінавачанаму пагражае дапасаваньне меры соцыяльнай абароны ў відзе пазбаўленьня волі на тэрмін аднаго году і вышэй і суд ня прызнае магчымым па абставінах справы перадаць яе на разгляд суду па месцы знаходжаньня вайсковай часьці, абвінавачаны выклікаецца на агульных падставах, пры чым, калі абвінавачваны не находзіцца пад вартай і не дасылаецца з прычыны гэтага пад канвоем, праезд яго ў суд робіцца парадкам паказаным у пастанове СНК СССР за 14 сьнежня 1926 г. (З. З. 1927 г. № 2 арт. 22).

Прыпыненьне спраў з прычыны знаходжаньня абвінавачанага ў шэрагах Чырвонае арміі і Флёту—не дапушчаецца.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *С. Эднэрал.*

22 сьнежня 1927 г.
№ 115.

**Аб парадку накіраваньня спраў па парушэньню правіл аб абавязковым вядзеньні рахункаводзтва гандлёвымі і прамысловымі прадпрыемствамі.**

*Усім акруговым пракурорам.*

Згодна арт. 6 Пастановы Савету Народных Камісараў Саюзу ССР „аб абавязковым вядзеньні рахункаводзтва гандлёвымі і прамысловымі прадпрыемствамі ад 9/XI—1926 г. (З. З. 1927 г. № 1. арт. 8), парушэньне паказанай пастановы, а таксама правіл, якія выдаюцца на падставе арт 4-га гэтае пастановы, перасьледваюцца ў крымінальным парадку, як парушэньне правіл аб гандлі.

Згодна абежніку Народнага Камісарыяту Фінансаў ад 29/VI—г. г. за № 567 (В. Ф. 1927 г. № 41), інспэктары простых падаткаў павінны аб выяўленых імі парушэньнях правіл аб абавязковым вядзеньні гандлёвых кніг паведамляць пракурорскі нагляд.

Паводле гэтага Пракуратура Рэспублікі прапануе паказныя справы накіроўваць па арт. 141 Крымінальнага Кодэксу, як парушэньні правіл аб гандлі, за якія ўстаноўлена адказнасьць у судовым парадку.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі
і Ст. Пам. Пракурора Рэспублікі *С. Гохман.*

Пам. Пракурора Рэспублікі *Судакоў.*

29 сьнежня 1927 г.
№ 116.

---

## Інструкцыя Народных Камісарыятаў Юстыцыі, Унутраных Спраў і Фінансаў БССР

### аб парадку выкананьня рашэньняў па грамадзянскіх справах.

### I. Органы выкананьня рашэньняў.

1. Асобамі, выконваючымі судовыя рашэньні ў парадку грамадзянскага працэсуальнага кодэксу зьяўляюцца судовыя выканаўцы, а таксама ў выпадках, акладна зазначаючых у гэтай інструкцыі, органы міліцыі, сельскія і местачковыя саветы.

2. Судовыя выканаўцы, у ліку вызначаным штатамі, знаходзяцца пры акруговых судох, назначаюцца, перамяшчаюцца і звальняюцца распараджэньнямі старшыні акруговага суду, разьмяркоўваюцца ім адпаведна вучасткаў народных судоў і дзейнічаюць у межах назначаных кожнаму з іх раёнаў (арт. 100. Палаж. аб судабудаўніцтве). Старшыні суду належыць і дысцыплінарная ўлада ў адносінах судовых выканаўцаў.

3. Дзеяньні і распараджэньні судовых выканаўцаў па выкананьню рашэньняў, у межах прадастаўленай ім ўлады, як-та: па ўчыненьні вопісаў, назначэньні таргоў, арышту маёмасьці і грашовых сум, учыненьню таргоў, разьмеркаваньню грошай і. т. п. могуць быць адменяемы толькі па скаргах, якія прыносяцца ў парадку арт. 315 ГПК БССР.

На падставе арт. 315 ГПК і арт. 105 Палажэньня аб судабудаўніцтве скаргі на дзеяньне судовых выканаўцаў, а раўно на маруднасьць іх падаюцца Народнаму судзьдзі, у раёне каторага робіцца выкананьне, у сямідзённы тэрмін з дню ўчыненьня абскараджанага дзеяньня, альбо з моманту, калі яно стала вядома жалабшчыку.

4. У тых выпадках, калі рашэньне суду павінна выконвацца не на месцы знаходжаньня судовага выканаўцы, яно ўскладаецца на міліцыю або сельскія (местачковыя) саветы. У гэтых выпадках спаганяльнікі зьвяртваюцца па іх выбару да мясцовага начальніка раёну рабоча-сялянскай міліцыі або да старшыні мясцовага сельскага або местачковага савету.

Народнаму судзьдзі даецца права, па ўласнаму ўгледжаньню або па просьбе старон спагнаньні перадаваць ва ўсіх выпадках судоваму выканаўцу з папярэднім укладаньнем выцякаючых адсюль выдаткаў на ісца.

Спагнаньні па рашэньнях народных судоў на сумы ня звыш 10 руб. кожнае выконваюцца ня інакш, як праз старшынь мясцовых сельскіх і местачковых саветаў.

5. У тых выпадках, калі пастановай суду (рашэньне, пастанова, прыгавор і нш.) устанаўляецца спагнаньне падаткаў і гэрбавага збору, а таксама штрафаў і пені па гэтых падатках і збору падлягаючых, па агульнаму правілу, спагнаньню на падставе палажэньня аб іўзіманьні падаткаў (Зб. Зак. СССР 1925 г. № 70 арт. 518 з пазьнейшымі зьменамі) судовыя органы даручаюць спагнаньне начальнікам адпаведных раёнаў міліцыі

На міліцыю-ж ускладаюцца спагнаньні штрафаў, накладаемых па прыгаворах судоў, пастаноўленых на падставе адпаведных артыкалаў Крымінальнага Кодэксу і на падставе арт. арт. 49, 50, 51 і 52 грам. Працэсуальнага Кодэксу.

Судовыя пошліны таксама спаганяюцца праз міліцыю, калі гэтыя пошліны ўзімаюцца з ісца, з каторага па пастанове суду не належыць ніякіх іншых судовых выдаткаў.

Калі-ж з ісца спаганяюцца, акрамя судовых пошлін, іншыя судовыя выдаткі, спагнаньне вытвараецца судовымі выканаўцамі.

6. Органы сельсаветаў, местачковых саветаў і міліцыі, у выпадку выкананьня вышэйпаказаных выканальных дзеяньняў, дзейнічаюць па правілах для судовых выканаўцаў, і пры выкананьні рашэньняў, нараўне з судовымі выканаўцамі, падлягаюць кіраўніцтву і кантролю народных судоў.

7. Выканальныя лісты падаюцца непасрэдна мясцоваму па выкананьню рашэньня начальніку раёну або старшыні сельскага або местачковага сельсавету, каторыя або выконваюць рашэньні самі або даручаюць яго выкананьне аднаму з падведамственых ім асоб.

8. Органы сельскага або местачковага савету і міліцыі, якія дзейнічаюць у якасьці судовых выканаўцаў, ўзімаюць усе зборы (гербавы, канцэлярскі, таксыйны) пры ўсіх выканальных дзеяньнях на агульных падставах, па правілах, якія ўстаноўлены для судовых выканаўцаў.

9. Выканаўчыя органы (судовыя выканаўцы, а таксама органы сельскіх або местачковых саветаў і міліцыі) узімаюць з асоб і ўстаноў, якія просяць аб выкананьні, у выпадку неабходнасьці выезду з месца іх жыхарства, у сваю карысьць сутачныя грошы ў тых разьмерах, якія ўстаноўлены правіламі аб службовых камандзіроўках.

10. Судовы выканаўца складае прылічаючыяся сутачным і прагонным грошам падрабязны разьлік, каторы прадстаўляецца асобе, або ўстанове, якая просіць аб выкананьні, пад расьпіску, і далучаецца к выканальнаму справавядзенью з адзнакай на разьліку аб спагнаньні гэтых сум і выдачы іх спагнальніку.

Выдаткі спагнальнікаў па вытварэньні выканальных дзеяньняў сплачваюцца ім з першых атрыманых сум да выдачы або разьмеркаваньня грошай у пагашэньне спагнаньняў.

11. Спагнальнікі, каторыя пры справавядзеньні былі вызвалены ад уплаты судовай пошліны і збораў, вызваляюцца ад папярэдняга ўнясеньня сутачных і прагонных грошай за выканальныя дзеяньні, а падлягаючая спаганяньню сума іх пры выкананьні спагняецца выконваючым рашэньне з адказчыка непасрэдна.

12. Органы сельскага або местачковага савету і міліцыі вядуць справу і справаздачнасьць па выкананьню рашэньняў прыстасавальна да формаў устаноўленых для судовых выканаўцаў, абавязковымі для іх зьяўляюцца: завядзеньне спраў (арт. 32) і вядзеньне журнала (арт. арт. 33-38).

Закончаныя справавядзеньні падаюцца народнаму судзьдзі таго вучастку, у каторым вытвараецца спагнаньне.

Народны судзьдзя сочыць за дакладным і сваечасовым выкананьнем і правярае прысланыя яму справавядзеньні.

УВАГА: З моманту выданьня асобнай інструкцыі НКУС аб формах дзелаводзтва і справаздачнасьці міліцыі па выкананьню рашэньняў і пастаноў, міліцыя кіруецца гэтымі апошнімі формамі.

13. Усе скаргі на выканальныя дзеяньні органаў міліцыі сельсавету або местачковага савету пры выкананьні імі рашэньняў судоў па грамадзянскіх справах, як і ўсе спрэчкі па выкананьню, падаюцца народнаму судзьдзі па месту выкананьня рашэньняў.

14. Народным судзьдзям даецца права патрабаваць ад органаў сельскага або местачковага савета і міліцыі ўсякага роду зьвестак па вытвараемых імі выкананьнях, даваць паказаньні і праглядваць першатворныя справаводзтвы, грашовыя кнігі і справаздачнасьць, а таксама браць ад іх справы з перадачай іх судоваму выканаўцу або другой службовай асобе. Усе паказаньні народнага судзьдзі па выкананьню рашэньняў абавязковы.

## II. Дзелаводзтва судовых выканаўцаў.

### 1. Грашовая кніга.

15. Для прыёма ўсіх сум, якія паступаюць па выкананьню судовых рашэньняў і пастаноў, устанаўляюцца асобныя грашовыя кнігі з квітанцыямі, якія зьмяшчаюцца з левага боку (форма пры гэтым прыкладаецца).

16. Зазначаныя ў арт. 15 кнігі ізгатаўляюцца акруговым судом за кошт казны і павінны мець пранумэрованыя лісты. Акрсуды снабжаюць гэтымі кнігамі органы якія выконваюць судовыя рашэньні.

17. Выканаўчыя органы (судовыя выканаўцы, міліцыя, старшыні сельскага або местачковага савета), па атрыманьні паказаных у арт. 15 кніг прадстаўляюць іх у мясцовыя фінаддзелы для накладаньня шнура, пячаткі і ўзяцьця на вучот.

18. Усе зборы, якія спаганяюцца згодна таксы прыймаюцца выканаўчымі органамі пад установленыя ў арт. 15 гэтай інструкцыі квітанцыі.

19. У тую-ж грашовую кнігу (арт. 15) уносяцца таксама ўсе сумы, якія спаганы або атрыманы ад публічнай прадажы маёмасьці даўжнікоў, калі яны ня выданы неадкладна-ж па іх атрыманьні спаганальніку.

Па сумах, якія атрыманы ад продажу, квітанцыі не выдаюцца, а атрыманьне сум адзначаецца а продажным лісьце, і ў гэтым выпадку квітанцыі перакрэсьліваюцца і застаўляюцца ў кнізе.

20. Здача сум, якія паступілі ў уплату збораў, апрача сум, якія прадназначаны на выдаткі па выкананьні, вытвараецца выканаўчымі органамі не радзей аднаго разу ў тыдзень, пры чым 75 проц. гэтых сум здаюцца ў мясцовыя касавыя ўстановы НКФ для залічэньня ў прыбытак казны па каштарысу НКЮ і 25 проц. сумы перасылаюцца ў мясцовае аддзяленьне Дзяржаўнага Банку на бягучы рахунак акруговага суду для залічэньня ў фонд судовых выканаўцаў.

> УВАГА: Разьмеркаваньне між судвыканаўцамі 25 проц. адлікаў ад збораў за выканальныя дзеяньні вытвараецца ў парадку цыркуляру НКЮ БССР № 69 ад 15 кастрычніка 1924 г. (З. З. БССР 1924 г. № 21 арт. 203).

21 Калі прывядзеньне ў выкананьне рашэньняў і пастаноў суду вытвараецца органамі міліцыі, сельсаветам, або местачковым саветам, то 25 проц. збору (арт. 20) ня ўносяцца на бягучы рахунак акруговага суду, а разьмяркоўваюцца між усімі службовымі асобамі, фактычна выконваючымі рашэньні, прапарцыянальна колькасьці закончаных вытварэньнем спраў.

22. Сумы, якія прыняты згодна п. п. 11 і 12 таксы, выдаткуюцца выканаўчымі органамі непасрэдна па прамому назначэньню з адначасным правядзеньнем сумы па прыбытку і выдатку.

23. Па грашовых кнігах падлік робіцца выканаўчымі органамі штомесячна.

24. У пачатку кожнага месяца, не пазьней 15 чысла, выканаўчыя органы абавязаны прадстаўляць па даных кожнай кнігі справаздачу (форма пры гэтым прыкладаецца) у фінадзел з копіямі судвыканаўца ў акруговы суд, міліцыя—у адміністрацыйны аддзел Акрвыканкому і местачковыя і сельскія саветы—у грашовыя сталы райвыканкомаў.

25. Выкарыстаныя грашовыя кнігі і наогул усе грашовыя дакумэнты, якія служаць падставай к складаньню грашовай кнігі, выканаўчыя органы пры вопісі здаюць ў архіў акруговага суду па выходу месца з дню павядамленьня мясцовага фінаддзелу аб заканчэньні кнігі.

26. Усякія выпраўленьні ў квітанцыях, карашках і расьпісках, у справаздачах і грашовай кнізе павінны быць асобна агавораны асобамі, іх складаючымі.

> УВАГА: Сапсутыя квітанцыі перакрэсьліваюцца другімі чарнілямі і павінны хавацца пры грашовай кнізе, а ўзамен выдаюцца расьпіскі з надпісам „узамен квітанцыі“

27. Ніякіх атрыманьняў з сум, якія паступаюць у ўплату збораў, апрача прадугледжаных таксай, выканаўчыя органы вытвараць на маюць права.

28. Выдаваемыя выканаўчымі органамі квітанцыі аб прыёме збору аплаце гербавым зборам не падлягаюць.

29. Пры выяўленьні няправільнасьцяй у вядзеньні грашовай справаздачнасьці перш за ўсё пры разыходжаньні запісаў грашовых паступленьняў па журналу па грашовай кнізе, службовыя асобы, якія наглядаюць за дзеяньнямі судовых выканаўцаў і заменяючых іх асоб, абавязаны складаць належныя акты і накіроўваць іх для прыцягненьня вінаватых да адказнасьці

## 2. Альфабэт.

30. Кожны судовы выканаўца абавязан весьці ў сябе альфабэт маючыхся ў яго справаводзтве спраў.

Справа запісваецца на прозьвішча або найменьне усіх ісцоў і ўсіх адказчыкаў.

## 3. Настольны рэестр.

31. Судовы выканаўца абавязан весьці ў сябе настольны рэестр па прыкладаемай пры гетым форме. У настольны рэестр у парадку паступленьня заносяцца ўсе справы з адзнакай: 1) па чыйму спагнаньню і ў карысьць каго вытвараюцца дзеяньні, 2) па рашэньню якога суду, і 3) галоўных момантаў руху справы.

## 4. Справы.

32. Па кожнаму паступаючаму спагнаньню, судовы выканаўца заводзіць асобную справу, снабжае яго вокладкай, запаўняемай па прыкладаемай пры гэтым форме і опісь папер, У справе падшываюцца пасьля, вопісі журнал і адносячыяся да даннай справы паперы.

## 5. Журнал.

33. Па кожнай справе, якая вытвараецца ў судовага выканаўца, абавязкова павінен весьціся журнал.

34. У журнале зьмяшчаюцца: а) найменьне судовага выканаўцы, яго раёну і суду, пры каторым ён знаходзіцца; б) дакладнае абазначэньне выканальнага ліста (прадпісаньні, пастановы) суду ад каторага выканальны ліст выходзіць (№ числo і г. д.) і час яго прадстаўленьня: в) дакладнае выкладаньне рашэньня падлягаючага выкананьню; г) найменьне і адрас спагнальніка і даўжніка (калі спагнальнікаў або даўжнікоў некалькі, то прастаўляецца найменьне ўсіх іх) і іх прадстаўнікоў; д) час пасылкі і ўручэньня позвы аб выкананьні, адзнакі аб уручэньні позваў, запатрабаваньні адрасоў і т. п. дзеяньні; е) тэрміны назначэньня для дабрахвотнага выкананьня; ж) сутнась усякага роду заяўленьняў і хадайніцтваў, якія робяцца странамі або трэцімі асобамі (калі заява была зроблена вусна, то яна павінна быць падпісана заяўнікам у журнале) і прынятых па поваду іх распараджэньняў судовага выканаўца; з) сутнасьць, час і месца ўсіх прынятых выканальных дзеяньняў; і) вылічэньне, патрабаваньне і ўзносы сум, якія прылічаюцца за выканальныя дзеяньні і назначэныя тэрміны; к) правядзеньня таргоў і вынік іх: л) выручаныя ад таргоў або добраахвотна заплачаныя сумы і іх разьмеркаваньне: м) усякія іншыя дзеяньні і распараджэньні судовага выканаўцы, а таксама патрабаваньні старон і зробленыя ім заявы.

35. Зьвесткі, якія заносяцца ў журнал павінны запісвацца поўнасьцю і без скарачэньняў.

36. Журнал павінен знаходзіцца пры кожным справавядзеньні судовага выканаўца і служыць пасьведчаньнем усяго таго, што ў ім запісана.

37. Па запатрабаваньню зацікаўленых старон судовы выканаўца абавязан выдаваць засьведчаныя ім выпіскі з свайго журнала.

38. Усё, што не запісана ў журнал судовага выканаўца, прызнаецца ня зробленым ім і таму не дапушчаецца выдача судвыканаўцам асобных пасьведчаньняў, такіх фактаў з выканальнага справаводзтва, каторыя ня былі ўнесены ў журнал.

## 6. Справаздачнасьць судовых выканаўцаў.

39. Судовыя выканаўцы абавязаны прадстаўляць справаздачы, па формах і ў тэрміны, якія ўстанаўляюцца Народным Камісарыятам Юстыцыі і Акрсудамі.

# III. Рашэньні і пастановы, якія падлягаюць выкананьню ў прымусовым парадку.

40. Прымусоваму выкананьню ў парадку Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу БССР падлягаюць:

а) рашэньні судоў па грамадзянскіх справах;

б) судовыя загады па грамадзянскіх справах;

в) пастановы суду па справах асобных справавядзеньняў і аб забясьпячэньні іскаў;

г) пастановы судоў па грамадзянскіх справах аб накладаньні штрафаў;

д) пастановы судоў, вынесеных у сілу арт. арт. 121-а і 459 Крымінальна-Працэсуальнага Кодэксу;

е) рашэньні арбітражных і зямельных камісій у парадку, прадугледжаным палажэньнямі аб іх, і пасрэдніцкіх судоў (арт. 300 Грамадзянска-Працэсуальнага Кодэксу).

**УВАГА**: Рашэньні зямельных камісій выконваюцца старшынямі сельсаветаў, міліцыяй і членамі раённага выканаўчага камітэту на падставе асобных правіл (арт. арт. 230—285 інструкцыі НКЗ аб парадку вядзеньня зямельных спраў—(Бюлетэнь СНК БССР № 9—1925 г.).

Рашэньні Арбітражнай Камісіі пры Эканамічнай Нарадзе БССР выконваюцца на падставе арт. 16 Палажэньня аб Арбітражнай Камісіі пры Эканомнарадзе БССР (З. З. БССР 1926 г. № 3, арт. 9)

Рашэньні пасрэдніцкіх судоў на падставе 231 арт Грам. Прац. Код. прыводзяцца ў выкананьне па выканальнаму лісту, выдаваемаму народным судзьдзёю з захаваньнем правіл, выкладзеных у арт. арт. 278—297 ГПК.

Пастановы расцэначна-канфліктных камісій, прынятыя аднагалосна, пры невыкананьні іх наймальнікам прыводзяцца ў выкананьне на падставе выканальных лістоў, выдаваемых народнымі судзьдзямі ў парадку цыркуляру НКЮ і НКПрацы за 27 лістапада 1925 г. № 69 (З. З. БССР 1925 г. № 44 арт. 360).

41. Выкананьне рашэньняў дапускаецца ня інакш, як пры наяўнасьці двух умоў: а) каб рашэньне ўступіла ў законную сілу або, каб на падставе арт. арт. 187—189 ГПК яно было абернута да неадкладнага выкананьня; б) каб аб выкананьні прасіў той спрачаючыся, на карысьць каторага што небудзь прысуджана.

**УВАГА:** Выканальныя лісты альбо судовыя загады, выданыя судамі саюзных рэспублік, прыводзяцца ў выкананьне ня інакш, як на падставе надпісу на выканальным лісьце аб выкананьні, зробленым старшынёю акруговага суду па месцу выкананьня.

42. Парадак прымусовага выкананьня, выкладзены ў Грамадзянскім Працэсуальны Кодэксе БССР, ня можа быць дапасаван да тых рашэньняў судовых месц, у якіх няма прадпісаньня справаводзтва якіх небудзь пэўных і рэальна выяўленых ў рашэньні дзеяньняў, якія могуць быць выкананымі сапраўдна ў адносінах да асобы, якая прызнана судом абавязанай.

## IV. Пачатак выкананьня. Заяўленьне спагнальніка.

43 Судовы выканаўца, або асоба, якая яго замяняе, прыступае да вытварэньня выканальных дзеяньняў на падставе выданага судом выканальнага ліста, або судовага загаду, прадстаўленага спагналь нікам, пры вусным або пісьмовым заяўленьні спагнальніка (арт. 301 ГПК БССР).

Меры па ахове маемасьці, застаўша йся пасьля памёршых, прыймаюцца на падставе прапановы Народнага судзьдзі, а спагнаньне штрафаў, накладзеных у парадку вядзеньня Грамадзянскага працэсу, — на падставе выпіскі з пастановы суду.

44. Прасіць аб выкананьні рашэньня можа як сам спрачаючыйся, на карысьць каторага адбылося рашэньня, асабіста або праз прадстаўніка, так і яго правапрыёмнікі. Пры гэтым на спагнальніку ляжыць абавязак давесьці свае правапрыемствы пасьля тэй асобы, у карысьць каторай адбылося рашэньне.

45. Калі ў сілу зьмяніўшыхся акалічнасцяй спагнаньне павінна быць абернута не на першапачатковага адказчыка, а на яго правапрыемнікаў у мэтах устанаўленьня правапрыемственасьці апошніх, судовы выканаўца дапасавальна да арт. арт. 80, 140—142 ГПК БССР, мае права вытрабаваць ад сторон і дзяржаўных устаноў неабходныя дакумэнты.

46. Выкананьне вытвараецца тым судовым выканаўцам, у раёне дзеяньня якога знаходзіцца маемасьць даўжніка, падлягаючая спагнаньню, але, калі маемасьць даўжніка знаходзіцца ў розных раёнах, то судовы выканаўца, у выпадку ўзьнікнавеньня ў сувязі з гэтым цяжкасьці выкананьня, мае права перадаць з дазволу старшыні акруговага суду, выкананьне ў адпаведных частках падлягаючаму судоваму выканаўцу.

47. Выкананьне вытвараецца ў працоўныя дні, у выключных выпадках дапушчаецца выкананьне рашэньняў і ў непрацоўныя дні.

48. Заява спагнальніка павінна быць аплочана прастым гэрбавым зборам другога разраду, г. зн. у адзін рубель (арт. 1 статуту аб гэрб. зборы і § 1 табэлі папер падлягаючых гэрбаваму збору).

Заявы спагнальнікаў заработнай платы, сродкаў на ўтрыманьне і на ўзнагароду за калецтва, і раўно паісках, якія не перавышаюць дваццать пяць руб., — ад гэрбавага збору вызваляюцца.

49. У заяве спагнальніка павінна быць паказана: а) месцажыхарства даўжніка, б) спосаб выкананьня, месцанахаджэньне маемасьці, якая падлягае атабраньню ад даўжніка або на якую абарочваецца спагнаньне і г) месцапрабываньня спагнальніка або ўмоўны яго адрас, па якому павінны накіроўвацца ўсе паперы, выходзячыя ад судовага выканаўцы.

**УВАГА:** Паказаны спагнальнікам спосаб выкананьня не абавязкоў для судовага выканаўцы, каторы па ўласнай ініцыятыве можа перайсьці ад паказанага спагнальнікам спосабу выкананьня да другога.

50. У выпадку падачы спагнальнікам славеснага заяўленьня, апошняе заносіцца судвыканаўцам у журнал і падпісваецца спагнальнікам. Славесныя заявы гэрбавым зборам не аплачваюцца.

51. Адначасна з заявай (арт. 47) спагнальнік прадстаўляе па квітанцыі судоваму выканаўцу ўсе зборы, якія прылічаюцца з яго на падставе таксы аплаты дзеяньняў судовых выканаўцаў па выкананьню рашэньняў і пастаноў.

52. Пры неабходнасьці выезду для выкананьня рашэньня з месца сталага прабываньня судовы выканаўца мае права на сутачныя і камандзіровачныя (арт. 9 гэтай інструкцыі), якія таксама прылічаюцца да выдаткаў, якія вылічаюцца на падставе таксы; сумы гэтыя ўносяцца спагнальнікамі наперад, згодна складзенаму судвыканаўцам разьліку (арт. 10) і сплачваюцца ім на агульных падставах.

53. Прыймаючы заяву аб спагнаньні, зьвязаным з выездам на месца, якое патрабуе значных выдаткаў, выканаўца павінен папярэдзіць аб гэтым спагнальніка, указаўшы яму больш блізкі па месцу выкананьня орган (сельскі або мястэчковы савет, міліцыя), пры абарочваньні к катораму гэтых выдаткаў непатрабуецца. Роўным чынам, пры малакаштоўных спагнаньнях, калі выдаткі могуць не адпавядаць спаганяемай суме, выканаўца павінен папярэдзіць спагнаньні і даўжніка аб тых выпадках, якія прадстаяць пры нявыкананьні рашэньня добраахвотна.

## V. Першыя дзеяньні судовага выканаўца

54. Атрымаўшы заяву спагнальніка (арт. 47), судовы выканаўца павінен перш за ўсё азнаёміцца з прадстаўленымі спагнальнікам дакумэнтамі [выканальны ліст і іншыя].

У выпадку немагчымасьці зрабіць спагнаньне з прычыны недахопаў у выканальным лісьце або недапусьцімасьці прымусовага выкананьня, зыходу даўнаснага тэрміну і г. д., судовы выканаўца зьвяртае выканальны ліст спагнальніку пры матываваным абвяшчэньні, каторае можа быць выкладзена на паданай заяве.

У тых выпадках, калі заява неаплачана гэрбавым зборам, не паказан адрас даўжніка, месцазнахаджэньне яго маемасьці, не прадстаўлены патрабуемыя зборы і г. д., судовы выканаўца, дапасавальна да арт. 81 ГПК, застаўляе заяву без руху і назначае спагнальніку тэрмін на васпаўненьне выяўленых недахопаў.

55. Ня маючая дэфэктаў і прынятая к справавядзеньню заява спагнальніка нумаруецца судовым выканаўцам і ўносіцца ў альфабэт і ў настольны рэестр, па яму заводзіцца справа.

56. Па завядзеньні справы судовы выканаўца складае павестку аб выкананьні і дастаўляе яе даўжніку на агульных правілах уручэньня позваў [арт. 302 ГПК БССР].

Позва пасылаецца па ўказанаму спагнальнікам месцажыхарству даўжніка або ў парадку арт. 203 ГПК БССР.

57. Позва аб выкананьні павінна зьмяшчаць у сабе: а) абазначэньне рашэньня падлягаючага выкананьню; б) азначэньне спагнальніка і абранае ім месцажыхарства; в) назначэньне адказчыку тэрміну для дабраахвотнага выкананьня з папярэджваньнем, што калі добраахвотнага выкананьня не пасьледуе ў назначаны тэрмін, то будзе прыступлена да выкананьня прымусовага.

Позва пішацца ў двух паасобніках, адзін з якіх і ўручаецца даўжніку (арт. 54).

> УВАГА: Судвыканаўца сам назначае тэрмін для дабраахвотнага выкананьня (ня больш 7 дзён) толькі ў тым выпадку, калі такі тэрмін ня быў назначан у судовым рашэньні (арт. 305 ГПК БССР).

58. Адначасна з уручэньнем позвы аб выкананьні, судовы выканаўца накладае арышт на маемасьць даўжніка, на якога абарочваецца спагнаньне.

59. Калі з боку даўжніка не пасьледуе дабраахвотнага выкананьня ў дадзены яму тэрмін судовы выканаўца абарочвае спагнаньне на маемасьць даўжніка па паказаньню спагнальніка.

## VI. Агульныя правілы аб выкананьні рашэньняў

60. Прыступіўшы да выканальных дзеяньняў, судовы выканаўца ня мае права адкладаць або прыпыняць выкананьне інакш, як па спэцыяльнай пастанове суду па заяве спагнальніка [арт. 310 ГПК БССР].

61. Пры прыпыненьні выкананьня судовы выканаўца адмяняе ўсе ўчыненыя па выкананьню прымусовыя дзеяньні. У выпадку прыпыненьня выкананьня ўсе ўчыненыя выканаўцам дзеяньні застаюцца ў сіле, калі аб адмене іх няма паказаньняў ў азначэньні суду аб прыпыненьні імі адтэрмінаваньня выкананьня.

62. Па заканчэньні выкананьня судовы выканаўца зварочвае выканальны ліст па прыналежнасьці судовай установы з надпісам на лісьце аб выкананьні (арт. 307 ГПК БССР).

63. Пры ўчыненьні выканальных дзеяньняў судовы выканаўца можа, калі гэта неабходна для вытварэньня спагнаньняў, правесьці абгляд памяшканьняў даўжніка, і яго сховішчаў. Азначаныя дзеяньні, а роўна ўскрыцьце памяшканьня і сходняў робіцца ў прысутнасьці: ў гарадох—прадстаўніка міліцыі і дамовай адміністрацыі (арт. 308 ГПК БССР), а ў сельскіх мясцовасьцях—старшыні сельсавету, або прадстаўніка міліцыі.

Пры вытварэньні спагнаньняў судовы выканаўца можа патрабаваць зьняцьця каштоўных рэчаў, якія знаходзяцца на даўжніку і прад'яўленьня іх для вопісу. Гэтыя дзеяньні павінны быць адзначаны ў журнале асобна.

64. Прычыны, выклікаўшыя неабходнасьць ускрыцьця памяшканьняў і сховень, а таксама акалічнасьці, пры каторых яно адбывалася, абавязкова заносяцца падрабязна ў журнал выканаўцы з указаньнямі, каторыя зроблены яму пры гэтым старанамі, старшынёю сельсавету і прадстаўніком двара.

65. Сумы, выручаныя пры спагнаньні ідуць на здавальненьне толькі тых спагнальнікаў, каторыя прад'явілі свае выканальныя лісты судоваму выканаўцу да паступленьня да яго грошай.

66. Наяўнаму спагнальніку выканаўца выдае грошы, спагнаныя ў яго карысьць, пад расьпіску неадкладна па атрыманьні, а адсутнаму, па яго патрабаваньню і за яго рахунак, высылае неадкладна па пошце па маючамуся адрасу. Калі гэтыя грошы ня могуць быць пераданы спагнальніку, то яны ўносяцца напрацягу двух дзён у дэпозыт народнага суду па месцу выкананьня па правілах арт. арт. 237 і 238 ГПК БССР.

67. У выпадках, калі паступіўшыя да судовага выканаўца сумы невыстарчальны для здавальненьня ўсіх абернутых на даўжніка спагнаньняў, судовы выканаўца здавальняе спагнальнікаў у парадку, паказаным у арт. арт. 311 і 312 ГПК БССР (арт. 311 у рэд. пастанова за 4/V 27 г. З. З. БССР 1927 г. № 26 арт. 119).

68. Адносна сум, прадназначаных на здавальненьне спагнальнікаў па выканальных лістах, выданых па просьбах аб забясьпячэньні іска, судвыканаўцы кіруюцца правіламі, выкладзенымі ў арт. 313 ГПК БССР.

69. У выпадку сьмерці даўжніка ў час выкананьня рашэньня, выкананьне прыпыняецца да часу назначэньня апякуна або папячыцеля альбо да яўкі насьледнікаў. Назначаная публічная прадажа, калі аб гэтым была зроблена публікацыя, не прыпыняецца.

70. Спагнальнік можа прысутнічаць пры дзеяньнях судовага выканаўцы, пры чым судвыканаўцы павінны зьвяртаць увагу спагнальнікаў і іх прадстаўнікоў, не выключаючы прадстаўнікоў дзяржаўных органаў, на неабходнасьць актыўнага ўдзелу ў дзеяньнях па спагнаньню, указаныя маемасьці даўжніка і месца яго знаходжэньня, распаўсюджваньня зьвестак аб продажы, удзел у таргах, застаўленьня ня проданай маемасьці і г. д.

Недапусьцімы аднак умяшацельствы спагнальнікаў у самае выкананьне, а роўна аддача спаганальнікам якіх небудзь распраджэньняў, якія адносяццада компэнтэнцыі судовага выканаўцы.

71. Кожны спаганальнік далучыўшыся да зробленага ўжо вопісу і арышту, карыстаецца ўсімі правамі, нараўне з папярэднімі спаганальнікамі.

72. Выканаўчыя органы не павінны накапляць у сябе незакончаных спраў, якія ня могуць атрымаць руху, з прычыны адсутнасьці зьвестак аб месцы знаходжэньня даўжніка або маемасьці або па гэтаму падобных прычынах. Усякі раз, як спагнаньне ня можа ажыцьцяўляцца далей, належыць назначаць спагнальніку тэрмін на папаўненьне недахопу або зьнішчэньня перашкод. Калі ў тэрмін гэта ня будзе выканана, ліст з надпісам зьвяртаецца спаганальніку, а справа, як закончанае справавядзеньне, адсылаецца ў парадку арт. 307 ГПК БССР.

## VII. Абарочваньне спагнаньня на маемасьць

73. Пры абарочваньні спагнаньня на маемасьць судовыя выканаўцы павінны кіравацца арт. арт. 316—340 Грамадзянска-Працэсуальнага Кодэксу і ніжэйнаступнымі правіламі.

У выпадку просьбы даўжніка аб тым, каб некаторыя з яго рэчаў ня былі падвяргаемы арышту, судовы выканаўца абавязан здаволіць такое хадайніцтва пры ўмове, каб іншыя за тым, па зробленай ацэнцы, рэчы былі выстарчальны для здавальненьня спагнаньня.

Спагнальнік можа, з згоды даўжніка, вызваліць некаторыя рэчы ад арышту, хоць-бы іншыя потым рэчы і ня былі выстарчальны для поўнага здавальненьня яго спагнаньня.

74. Арышт маемасьці, г. зн. вопісь яе і прыняцьце мер к яго ахове да часу прадажы або да вызваленьня яго, вытвараецца ў прысутнасьці спаганятага і даўжніка, калі яны зьявіліся.

Па просьбе старон могуць быць дапушчаны прысутнічаць пры вопісі і сьветкі, але ў ліку, ня больш дваіх асоб з кожнага боку. У выпадку няяўкі даўжніка дапасоўваецца арт. 319 Грамадзянска-Працэсуальнага Кодэксу.

У вопісі адзначаецца дзень пачацьця і заключэньня яе. У канцы вопісі агаварваюцца ўсе зробленыя ў ёй папраўкі, падчысткі не дапушчаюцца.

Вопісь маемасьці падпісваецца судвыканаўцам і ўсімі асобамі, якія прысутнічалі пры арышце, альбо ў ёй робіцца адзнака аб прычынах, якія заставілі тую альбо іншую асобу не падпісацца.

Вопісь з некалькі лістоў павінна быць прашнурована і прапечатана сургучнаю пячаткаю судовага выканаўца або службовай асобы, які яго замяняе.

**УВАГА:** У сельскіх мясцовасьцях міліцыю або домакіраўніцтва могуць замяніць члены сельскага або местачковага савету.

75. Усякага роду заўвагі, просьбы і паказаньні, якія рабіліся пры вопісі старанамі, заносяцца ў журнал.

Прадметы, на каторыя прад'яўлена права з боку трэцяй асобы, уносяцца ў вопісь з адзнакай аб тым, хто прад'явіў на іх права і ў чым яно заключаецца.

76. Розныя рэчы павінны паказвацца ў вопісі такім чынам, каб у пасьледку не магло ўзьнікнуць спрэчак аб тым, ці папала тая або іншая рэч у вопісь, а таксама для ўхіленьня выпадкаў падмены. У залежнасьці ад роду і віду дзнай рэчы павінен зьмяняцца і спосаб яе найменьня і апісаньня ў вопісі, а ў выпадку неабходнасьці, азначэньне меры, вагі або рахунку.

77. Ва ўсіх тых выпадках, калі маецца наяўнасьць або па патрабаваньню судвыканаўца, могуць быць прадстаўлены фактуры, інвэнтары, каталёгі або іншага найменьня вопісі тавараў, кніг і рэчаў, новыя вопісі не складаюцца, але павяраецца толькі ранейшая з наяўнасьцю.

На вопісі гэтай адзначаюцца рэчы, зноў аказаўшыяся і недахопліваючыя проціў ранейшай вопісі.

Ацэнка маемасьці робіцца па правілах 324 арт. Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу. Пры гэтым прыймаецца пад увагу заява спагнальніка і даўжніка, каторыя сумесна або кожны з іх у паасобку могуць прасіць судовага выканаўца аб вытварэньні пераацэнкі.

Калі падлягаючая вопісі рэч паказана і ацэнена ў самым дагаворы, які пакладзен у падставу іску, то новай ацэнкі ня робіцца.

78. У выпадку апячатваньня апісанай маемасьці на падставе арт. 323 ГПК БССР пячаткі павінны накладацца такім чынам, каб не перашкаджаць карыстаньню апячатанымі прадметамі.

Пячатка павінна быць сургучная, службовая судовага выканаўцы або выконваючага рашэньні асобы.

79. Перадача апісанай маемасьці на хаваньне даўжніку не абавязкова для судовага выканаўца нават у выпадку згоды даўжніка на прыняцьце рэчы на хаваньне. Асобным, па назначэньню судовага выканаўца хавальнікам можа быць як фізычная, так і юрыдычная асоба.

Перадаючы (арт. 345 ГПК БССР апісаную маемасьць на хаваньне даўжніку або асобнаму хавальніку (гэтакім можа быць і спагнальнік) судовы выканаўца абавязан растлумачыць асобам, якія прыймаюць маемасьць на хаваньне, іх правы і абавязкі, папярэдзіўшы аб крымінальнай і грамадзянскай адказнасьці.

Дарагакаштоўнасьці, а таксама каштоўнасьці, якта: процантныя паперы, паі, аблігацыі, акцыі і т. п. павінны заўсёды здавацца ў грашовы аддзел у дэпазыт народнага судзьдзі таго раёну, у межах каторага рашэньне выконваецца, з паведамленьнем аб тым нарсудзьдзі.

80. Пры здачы на хаваньне апісанай маемасьці судовы выканаўца перадае хавальніку копію вопісі.

81. Пры абарочваньні спагнаньня на маемасьць даўжніка, якая знаходзіцца ў трэціх асоб, і на заработную плату рабочых і служачых (арт. арт. 333—340 ГПК БССР) выканаўчыя органы абавязаны паказваць дакладны тэрмін для дачы водзыву аб знаходзячайся ў іх маемасьці даўжніка або прылічаюшчыхся яму сумах. Пры пропуску тэрміну неабходна прыбягаць да мер уплываў, якія паказаны ў арт. 340 ГПК, г. зн. зварочвацца ў суд па месцу выкананьня для накладаньня на вінаватых штрафу, не чакаючы просьбы спагнальніка.

82. Пры дапасаваньні арт. 334 ГПК БССР судовы выканаўца павінен кіравацца таксама ніжэйнаступным правілам.

На сумы, якія выплачваюцца органамі сацыяльнага страхаваньня працоўным, у выпадку часовай непрацаздольнасьці іх, абарочваньне спагнаньня зусім недапушчаецца, калі гэтыя сумы не перавышаюць агульна абавязковага мінімуму заработнай платы, устаноўленага Кодэксам Закону аб працы.

З лішку, які атрымоўваецца зьверх азначанага мінімуму з органаў сацыяльнага страхаваньня, у выпадку часовай непрацаздольнасьці, можа быць утрымліваема ня звыш 50 проц. для сум, спаганяемых на ўтрыманьне членаў сям'і (З. З. БССР 1925 г. № 28 арт. 262).

83. У парадку артыкулаў 338 ГПК БССР спагнаньне можа быць абернута таксама і на featurednага роду плацяжы, якія прылічаюцца да атрыманьня ад трэцяй асобы даўжніку ў далейшым, адначасна або ў розныя тэрміны.

84. Пры абарочваньні спагнаньня на маемасьць сялянскага двара або паасобных яго членаў выканаўчыя органы строга прытрымліваюцца паказанага ў рашэньні парадку яго выкананьня (арт. 176 ГПК БССР), пры чым абавязаны ў дакладнасьці кіравацца патрабаваньнямі арт. 316 ГПК БССР, а таксама арт. арт. 68 і 69 Зямельнага Кодэксу БССР і ніжэйнаступнымі правіламі.

85. Пры абарочваньні на маемасьць сялянскага двара спагнаньяў за даўгі паасобных членаў двара, узьнікшыя з яго асабістых або іншых маемасных адносін, спагнаньні гэтыя абмяжоўваюцца толькі прыналежачаю даўжніку доляю ў агульнай гаспадарцы (цыркуляр НКЮ БССР № 47 за 13/VIII—24 г. (З. З. БССР 1924 г. № 15 арт. 136).

86. Асабістымі даўгамі трэба лічыць усе тыя даўгі і спагнаньні, каторыя ўзьнікаюць з асабістага жыцьця селяніна, які жыве па за дваром хоць-бы і ня выйшаў з складу двара, як напрыклад, доўг за забраны ў краме тавар для асабістага ўжытку, за пашытае плацьце, за кватэру, іск жаны аб звароце маемасьці, патрабаваньне звароту занятых для асабістых патрабаваньняў грошай і інш.

87. У тых выпадках, калі доўг члена двара, які мае агульную з гэтым дваром гаспадарку, узьнік з такіх яго асабістых дагаворных або іншых маемасных адносін, выгадамі ад якіх карыстаўся двор, як працоўная гаспадарка ў цэлым, то спагнаньне можа абарочвацца на маемасьць усяго двара.

88. Пры вызначэньні долі даўжніка ў агульнай маемасьці двара, г. зн. разьмеры яе і ацэнкі, судвыканаўца можа прыймаць пад увагу толькі такія прадметы з маемасьці двара, на каторыя можна абярнуць спагнаньне. Судвыканаўца можа запрашаць экспэртаў для ўдзелу ў вырашэньні ўказаных пытаньняў.

У выпадку ўзьнікнавеньня спрэчак аб разьмерах долі, справа падаецца ў у суд, калі на дзеяньне судвыканаўца падана скарга.

89. Спагнаньне ня можа быць абярнута на сумы і прадметы, якія атрымліваюцца даўжнікам ад сялянскіх камітэтаў узаемадапамогі ў якасьці дапамог інвалідам, іх сям'ям і сем'ям чырвонаармейцаў.

90 Пры спагнаньні з працоўных землябаў і каляктыўных землеробчых гаспадарак (с.—г. камун і арцелей) у ліку маемасьці, не падлягаючай вопісі і продажы ў сілу п. "в" арт. 316 ГПК БССР, ня можа быць абарочваема таксама спагнаньне на жылы дом з неабходнымі надворнымі будынкамі.

91. Пры спагнаньнях з с.—г. каляктываў за норму жывёлы, якая вызваляецца ад прымусовага спагнаньня, прыймаецца адзін конь або пара валоў на 10 дзесяцін запашкі і карова на 6 едакоў.

92. Льготы, якія устаноўлены п. "в" арт. 316 ГПК БССР пашыраюцца на ўсіх працоўных землябаў, якія плацяць сельска—гаспадарчы падатак, хоць бы яны мелі які небудзь пабочны заработак або заняцьце. Яны распаўсюджваюцца таксама і на тое гарадзкое насельніцтва, каторае займаецца сельскай гаспадаркай у парадку арт. 131 Зямельнага Кодэксу і плаціць сельска—гаспадарчы падатак.

93. Для выкананьня арт. 44 Кодэксу Законаў аб льготах і перавагах для ваенаслужачых і іх сямействаў пры ўсякім спагнаньні, вытвараемым з чырвонаармейца або яго сямейства ў сельскіх мясцовасьцях, выканаўчы орган павінен паведаміць аб тым сельсавета, ад угледжаньня каторага залежыць або прасіць суд аб прыпыненьні выкананьня, або пры адсутнасьці ў сям"і чырвонаармейца, які можа ў поўнай меры абараняць свае інтарэсы, прасіць суд аб назначэньні афіцыйнага прадстаўніка па правілах арт. 304 ГПК БССР, або прыняць удзел у вытварэньні спагнаньня на баку даўжніка праз свайго прадстаўніка.

У гарадох і пасяленьнях тыя-ж правы належаць гарадзкім і местачковым саветам.

94. Пры спагнаньні сродкаў на ўтрыманьне дзіцяці, прысуджаных з нявылучанага члена сялянскага двара, гэта спагнаньне судовым выканаўцам абарочваецца перш за ўсё на маемасьць, якая належыць асабіста адказчыку.

Калі-ж асабіста належачай адказчыку маемасьці ня маецца або яе аказалася невыстарчальна для задавальненьня спагнаньня, судовы выканаўца на падставе арт. 70 Код. Законаў аб шлюбе, сям"і і апецы абарочвае спагнаньне і на тую долю агульнай маемасьці двара, каторая прылічаецца даўжніку, як члену двара.

Пры гэтым судвыканаўцам захоўваецца: арт. 316, а таксама 337 і 339 ГПК БССР.

У тых-жа выпадках, калі пры ўчыненьні паказаных у гэтым артыкуле дзеяньняў судовы выканаўца выявіць злосныя ўхіленьні ад уплаты алімэнтаў, ён падае аб гэтым у суд, які выдаў выканальны ліст і паведамляе спагнальніка аб тым, што на падставе арт. 71 Кодэксу законаў аб шлюбе, сям'і і апецы ён можа прасіць суд аб спагнаньні ў карысьць дзіцяці ўсёй або часткі долі з агульнай гаспадаркі, якая прылічаецца адказчыку, з выняцьцем яе з складу гаспадаркі, у якім адказчык знаходзіцца.

95. Пры абарочваньні спагнаньня на будову і права забудоўкі захоўваюцца арт. арт. 341, 344 ГПК БССР і ніжэйнаступныя правілы.

96. Судовыя выканаўцы, у выпадку абарочваньня спагнаньня на будову і права забудоўкі або прывядзеньне ў выкананьне пастаноў судоў аб накладаньні арыштаў у парадку абясьпячэньня іскаў, пасылаюць патрабаваньні аб арыштце ў натарыяльную кантору акруговага гораду па месцу знахаджэньня маемасьці, на

каторую накладаецца арышт. На падставе гэтых патрабаваньняў натарыяльная кантора складае забаранялЬны артыкул, рэгіструе яго, пасьля чаго паведамляе аб гэтым судвыканаўцу (§§ 179 і 180 інстр. па натар.).

97. У патрабаваньнях аб арышце павінны быць паказаны: а) прозьвішча, імя і імя па бацьку даўжніка (на кожную асобу павінна быць паасобнае патрабаваньне аб арышце);

б) дакладнае вызначэньне маемасьці, падлягаючай арышту;

в) падстава арышту і

г) сума спагнаньня або доўгу (арт. 40 Палажэньня аб натарыяце БССР—З. З БССР 1927 г. № 5 арт. 17).

98. Зьмена або зьняцьце арышту вытвараецца па паведамленьню службовых асоб, якія налажылі арышт.

99. За кожнае запытаньне або вырашэньне запытаньня належыць спаганяць з зацікаўленых асоб і ўстаноў плату згодна таксе аплаты натарыяльных дзеяньняў. Азначаная плата перасылаецца судовым выканаўцам у натарыяльную кантору (арт. 88) адначасна з пасылкай патрабаваньня аб арышце або паведамленьня аб зьняцьці арышту, пры чым у адпаведных выпадках спаганяюць з зацікаўленых асоб і ўстаноў паштовыя выдаткі на высылку грошай.

100 Пры вопісі будовы, судовы выканаўца, кіруючыся агульнымі правіламі аб складаньні вопісі, павінен паказваць у вопісі таксама ўсе тыя прадметы, каторыя па свайму назначэньню ня могуць быць аддзелены ад апісваемай будовы, як напрыклад, печы, вокны, дзьверы, электрычныя правады (калі яны ня могуць быць аддзелены бяз порчы цэлага) і г. д.

101. Спагнаньні, зазначаныя ў арт. 5 гэтай інструкцыі павінны начынацца не пазьней двух тыдняў з дню атрыманьня выканаўчымі органамі выканальных лістоў, пры чым спаганяемыя сумы здаюцца ў грашовы аддзел Акруговага Выканаўчага Камітэту або ў грашовую частку раённага выканаўчага камітэту не пазьней аднаго разу ў два тыдні.

## VIII. Прадажа Арыштаванай маемасьці.

102. Прадажа арыштаванай маемасьці вытвараецца судовы выканаўцам на падставе арт арт. 345—361 ГПК БССР з захаваньнем ніжэй-наступных правіл.

103. Час прадажы вызначаецца судовым выканаўцам, для каторага аднак абавязкова захаваньне тэрміну прадугледжанага арт. 348 ГПК БССР.

104. Абвешчаньня, прадугледжанага арт. 349 ГПК БССР, павінна складацца досыць падрабязна з дакладным абазначэньнем істотных прадметаў і іх першапачатковай ацэнкі.

105. Аб назначаных таргах паведамляецца заставадаўца, калі маемасьць застаўлена і калі ён знаходзіцца ў ліку спаганальнікаў, а таксама хавальнік маемасьці

106 Лік зьявіўшыхся на таргі ня мае значэньня і таргі прызнаюцца адбыўшыміся нават пры адным таргуючымся.

107. Судовы выканаўца, пачаўшы таргі, ня можа іх прарваць, пакуль не прадасьць усёй апісанай маемасьці або часьці, выстарчальнай для пакрыцьця ўсіх спагнаньняў, а таксама страт справавядзеньня ў судзе і страт па спагнаньню, або пакуль спагнальнікам ня будзе падана заява аб спыненьні таргоў або таргі ня будуць прыпынены.

108. Парадак прадажы і чарга ў якой маемасьць павінна прадавацца, вызначаецца судвыканаўцам з прыняцьцем пад увагу паказаньня на гэты конт даўжніка (арт. 352 ГПК БССР) Для ўдобства прадажы судовы выканаўца можа падзяляць маемасьць на прадажныя партыі, заявы старон, якія здаволены распараджэньнямі судвыканаўцы па гэтаму поваду, неадкладна-ж заносяцца ў журнал.

109. Пры адчыненьні торгу судвыканаўца агалашае цану кожнага прадмету, азначаную пры ацэнцы і пытае: „хто больш". Прапануемыя цэны абвяшчаюцца судвыканаўцам, пакуль надбачы прадаўжаюцца.

110. Па прыпыненьні наддачы судвыканаўца праізносіць тры разы пытаньне „хто больш" і, калі пасьля трэцяга разу не пасьледуе наддачы, абвяшчае, што далейшая наддача не дапушчаецца і што прадаваемы прадмет застаецца за таргуючымся, які прапанаваў вышэйшую цану, каторы і расыпісваецца ў журнале ў тым, што ён атрымае такі-та прадмет за прапанованую ім вышэйшую цану.

111. У журнале судвыканаўцы азначаецца: 1) дзень прадажы; 2) нумар прадаваемага прадмету па вопісі; 3) вышэйшая прапанованая на таргу цана; 4) прозьвішча, імя, імя па бацьку або прозьвішча пакупацеля, якія запісваюцца ім уласнаручна або іншай асобай, па яго давер'ю; 5) ці прысутнічаў пры прадажы даўжнік або заступаючы яго месца.

112. Пры прадажы з публічнага тарга будовы або права забудоўкі абавязковае складаньне таргowага ліста на кожнае дамаўладаньне або права забудоўкі ў паасобку.

У гандлёвы ліст уносіцца дакладнае абазначэньне прадаваемай маемасьці, цана, з каторай павінен пачацца торг на маемасьць.

Торг будовы або права забудоўкі пачынаецца прачытаньнем таргowага ліста і абвяшчэньнем пытаньня, ці жадае хто зрабіць надбаўку супроць цаны азначанай у тарговым лісьце.

Усякая наддача ўносіцца ў тарговы ліст проціў прозьвішча таргуючагася, абвяшчаецца прысутнічаючым на таргу.

Тарговы ліст прадпісваецца: 1) асобай, якая прапанавала вышэйшую цану; 2) спагнальнікам і даўжніком, калі яны пры таргу прысутнічалі; 3) судовым выканаўцам.

## IX. Выкананьне рашэньняў аб вытварэньні пэўных дзеяньняў.

113. Высяленьне грамадзян з займаемых імі памяшканьняў вытвараецца судвыканаўцам у прысутнасьці прадстаўніка дамакіраўніцтва.

У выпадку адмовы адказчыка добраахвотна ачысьціць памяшканьне, апошняе ачышчаецца прымусова шляхам выстаўленьня на двор усіх рэчаў выселяемага. Для выкананьня апошняй апэрацыі судвыканаўца запрашае патрэбную рабочую сілу за рахунак спагнальніка, калі апошні не даставіць рабочай сілы.

Судвыканаўца павінен наглядаць, каб пры пераносе хатнія рэчы высяляемага ня былі паломаны або папсованы іншым парадкам.

114. Разам з адказчыкам высяляюцца з памяшканьня і ўсе супольна жывучыя з ім члены сямейства з прыслугай і асобы, дапушчаныя адказчыкам да пражываньня без права на заняцьце асобнай плошчы або без дазволу дамакіраўніцтва.

115. Пры прывядзеньні ў выкананьне рашэньняў па ісках аб вытрабаваньні дзяцей, а таксама азначэньняў аб тым, у каго з супругаў, шлюб якіх скасоўваецца, дзеці павінны часова аставацца на выхаваньні,—ніякія гвалты над дзяцьмі не дапусьцімы. У выпадку немагчымасьці міралюбіва выканаць такое рашэньне або пастанову, судовы выканаўца або замяняючы яго орган абавязан прыпыніць выкананьне і падаць аб гэтым падпарадкаванаму суду. Апошні зносіцца з адпаведным органам апекі на прадмет устанаўленьня над дзяцьмі апекі, ад якой і будзе залежаць прыняцьце неабходных мер у адносіне апекаемых.

116. Прывядзеньне ў выкананьне рашэньняў, каторымі адказчыку прадпісана ўчыніць пэўныя дзеяньні, неабходныя для ажыцьцяўленьня права спагнальніка (як та: паніжэньне мельнічнай плаціны для зьнішчэньня патопа, перанос агненебясьпечнай будовы і т. п.) судовы выканаўца павінен, даючы позву аб выкананьні даўжніку ўказаць ў ёй, што ў выпадку невыкананьня патрабуемых дзеяньняў на працягу паказанага часу або судвыканаўцам тэрміну, у назначаны дзень спаганальнік з прыведзенымі ім рабочымі прыступіць да неабходных дзеяньняў.

Судвыканаўца абавязан аказваць спагнальніку ўсякае садзеяньне да бесперашкоднага выкананьня гэтых дзеяньняў.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі *Эднэрал.*

Народны Камісар Унутраных Спраў *Сташэўскі.*

За Народнага Камісара Фінансаў *Мікуліч.*

Да арт. 15.

## ГРАШОВАЯ КНІГА

судавага выканаўца .................... Акруговага суду па .................... раёну.

| КВІТКІ | № артык. | № справы | Год, месяц і лік | АД КАГО І ДЛЯ ЧАГО ПАСТУПІЛА | Паступіла Руб. | Паступіла К. | Год, месяц і лік | Куды выдатканы і расьпіска атрымальніка | За выкан. дзеяньні | У адплат. пошл. | У ўплату штраф. | У адплату страт | У прыбыт. мясц. срод. | У прыб. суд вык.25 проц. | Для выд. узыскац. | На праезд судвыкан. | Іншыя расх. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ПРЫБЫТАК | | | | | | | ВЫДАТАК | | | | | | | | | | | |
| Бязплатна<br>№ справы ........ 192 г.<br>Квіток № ..........<br>х) ..................<br>Судвыканаўц.<br>Па .................. вуч.<br>.................. акруг.<br>192 г. .............. дня<br>ад ..................<br>..................<br>па справе<br>з ..................<br>..................<br>Паступіла ..................<br>.......... р. .......... к.<br>Судвыканаўц.<br>(М. П.) | | | | Ад . . . .<br>Для . . .<br>1) за выканальн. дзеяньні . . .<br>2) У адплату страт .<br>3) У мясцовыя сродкі<br>4) У ўплату штрафу .<br>5) Сутачных . .<br>6) Для выдачы спагн.<br>7) На праезд спагнальніка . . .<br>8) Іншыя выдаткі .<br>УСЯГО . . | | | | | | | | | | | | | | |

Да арт. 24.

# СПРАВАЗДАЧА

**судвыканаўца .................. вуч. .................................. акругі па спагнаньню збору за ўчыненьне дзеяньняў па выкананьню рашэньняў за .................. мес. 192 г.**

| ПРЫБЫТАК | | | ВЫДАТАК | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| №№ квіткоў | Сума Руб. | К. | Здадзена і выплачана | Сума Руб. | К. | Увага |
| Па квітках з №№ ..................<br>па ..................<br>(№№ .......... сапсаваны) | | | 1) Здадзена ў прыбытак казны ў касу па квітку №№ ..................<br>а) за выканан. дзеяньні<br>б) у адплату страт<br>в) у адплату пошлін<br>г) у ўплату штрафу<br>2) Здадзена ў .................. Аддзялен. Дзяржбанку на бягучы рахунак Акрсуду за № ............ квітка №№ ............<br>у прэміяльн. фонд суд. вык. ..................<br>3) Выплачана асабістай узнагароды .......... (таму-та) ..........<br>(тады-та) ..................<br>4) Выдадзена спагнальніку (таму-та) ..................<br>(тады-та) .................. | | | |
| УСЯГО | | | УСЯГО | | | |

.................. году Подпіс і пячатка

Да арт. 31.

| № справы і час паступленьня | Каго, з кім і аб чым | Па рашэньню | Рух спраў |
|---|---|---|---|
| 129<br>31-га лютага | Варв. Ігн. Дахновіч з Міркі ным аб 400 р. па залагавому акту. | Н. С. 3 вуч. гор. Менску 12 мая 1923 г. Вык. ліст 12 мая № 724 | 14 лютага вопіс, 12-га сакавіка-таргі. Скончана справавядзеньнем. |
| 130<br>12-га лютага | Спажывецкі Таварыства „Содружество“ з „пром. каап. т-вам“ „Гостроном“ аб 1000 р. па прат. вэксалю. | Н.С.3.вуч.г.Менску 9 лют. 1924 г. загад № 102 | 14 лютага вопіс. |

Да арт. 32.

| ЛІК СТРАТ | | | | | | (На адвароце) вопісь папер | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| №№ па парадку | Страты | Унесена | | Выдаткавана | | №№ па парадку | Зьмест | Старон. |
| | | Руб. | К. | Руб. | К. | | | |
| | 1. Гэрб. збор | | | | | | | На аркушах |
| | 2. На праезд і прэм. | | | | | | 1. Журнал. Суд. выкан. | |
| | | | | | | | 2. Заява спагнальніка | 1 |
| | 3. На позвы | | | | | | 3 Выканальны ліст . | 2 |
| | | | | | | | 4. Даверанасьць . . | 3 |
| | 4. За вопіс і ацэнку | | | | | | 5. Залагавы акт . . | 4 |
| | 5. За апечатан. | | | | | | 6. 4 расьпіскі на позвы аб выкананьні . | 5—8 |
| | 6. За таргі | | | | | | | |
| | | | | | | | 7. Адносіна ў Нат. Ад. з забаранальн. арт. | 9—10 |
| | 7. За копіі і надпісы | | | | | | 8. Спраўка за забараненьні . . | 11 |
| | | | | | | | 9. Позва ў Кам. Аддз. | 12 |
| | 8. | | | | | | і г. д. | |
| | Усяго . | | | | | | | |

25 проц. адлічэньня ........ р. ........ к.

Адаслана пад квіток № ........

75 проц. здадзена пад квіт. № ........

Невыдаткавана рэшта ........ руб. ........ к.

Зьвернута спагнальніку ........ чысла.

**Судовы выканаўца** (подпіс) ........

*Да арт. 32.*

**№—129. Судовы выканаўца пры Менскім Акруговым Судзе 3-га раёну гор. Менску.**

*Назначэньне вопісей і прадаж—12|III, 28|III* ........

## СПРАВА

Спагнальніка Вэрвары Ігнасевай Дахновіч, з (даўжнікамі) Барысам і інш. Міркінымі аб спагнаньні 400 руб. з процантамі і страт па залагавому акту.

Пачата 15-га верасьня 1923 г.

Скончана ........ 192 г.

(на адвароце 2-я старонка вокладкі).

Спагнальнік—Варвара Ігнасева Дзедзюхіна жыве ў г. Менску Набер. р. Сьвіслачы д. № 19.

Паверены—Мікалай Каролявіч Карповіч, адрас—Х.

Даўжнік—Барыс Міркін жыве г. Менск, Лагойскі завулак 5.

Прадстаўнік Б. П. Маркоўнікаў.

Да арт. 33.

# ЖУРНАЛ

Судовага выканаўца ............................ раёну

Акруговага суду ............................

Па выкананьню рашэньня ............ суду вуч. ............

Ад ............ 192 г. па іску ............ да ............

............ аб ............ руб. ............ кап. на падставе выканальнага ліста ад ............ 192 г. за за № ............

| Год, месяц і чысло | Апісаньне заяўленьняў старон і дзеяньняў судовага выканаўца | Зборы па таксе | |
|---|---|---|---|
| | | Руб. | К. |
| | Зьявіўся ............ (калі дзейнічае не асабіста для сябе, дык абазначыць--пaвераны, апякун, упаўнаважны такога-та, або старшыня праўленьня і г. д.) ............ пражываючы ............ і прасіў прывесьці вышэйпаказанае рашэньне ў выкананьне і прадставіў: а) выканальны ліст, б) даверанасьць з копіяй (арыгінал зьвернут назад) ............ | | |
| | Даўжнік (найменьне) ............ | | |
| | пражывае ............ | | |
| | Спагнаньне абарочваецца на ............ | | |
| | находяч. ............ | | |
| | Раней прасіў (выдаць пасьведчаньне, запатрабаваць і г. д.) | | |
| | Пры падачы пісьмовай заявы ўся гэта запісь замяняецца кароткай адзнакай. | | |
| | Паступіла пісьмовая заява такога-та, прыкладзеная да справы. Прыслан паштовы перавод на суму ............ р. ............ к. (квіток арт. ............), з каторых залічана: | | |
| | Заява астаўлена бяз руху за ............ | | |
| | Паслана абвесгка такому-та ............ па таксе ............ р. ............ к. | | |
| | Заява зьвернута за | | |
| | Пры абвяшчэньні на імя такога-та ............ па таксе ............ р. ............ к. | | |

| Год, месяц і чысло | Апісаньне заяўленьняў старон і дзеяньняў судовага выканаўца. | Зборы па таксе Руб. | К. |
|---|---|---|---|
| | Паступілі патрабуемыя зьвесткі (калі славесным заявам, то абазначыць дакладна што іменна). | | |
| | Паслана .......... позваў аб выкананьні .......... р. ..... к. з назначэньнем .......... дзённага тэрміну. | | |
| | Паслана позва 3-й асобе .......... р. ..... к. | | |
| | Накладзена забараненьне на .......... і паслан забараняльны артыкул .......... р. ..... к. | | |
| | Высланы зборы: на позвах. | | |
| | таксы .......... р. ..... к. | | |
| | На паштовыя выдаткі таксы .......... р. ..... к. | | |
| | На праезд да .......... і назад (п. таксы) р. к. | | |
| | На вытварэньне вопісі і ацэнкі (п. 2 таксы) р. к. | | |
| | На апячатваньне (п. 5 таксы) .......... р. ..... к. | | |
| | На высяленьне (п. 6 таксы) .......... р. ..... к. | | |
| | На запрашэньне вед. асоб і рабсілы (п. 12 таксы) .......... р. ..... к. | | |

Усяго па квітковай кнізе № .......... руб. ..... к.

Подпісі заяўніка і судавага выканаўца.

Даверанасьць першатвору, пасьведчаньне і г. д. атрымаў (подпіс)

---

*Да арт. 82.*

## Запіс у журнале С. В—ца.

16-га лістапада 1926 г. зьявіўся даўжнік Вас. Як Жылінскі і заявіў, што ён просіць утрыманьне пэнсіі рабіць у разьмеры ня звыш 5 руб., бо пры сям'і з 5 чалавек, акрамя пэнсіі ў 75 руб. ніякіх іншых прыбыткаў ня мае. Прэдставіў спраўку ад Мясцкому Губстраху. Павінен за атрыманую ў рассрочку з каапэратыва адзежу.

Вас. Жылінскі.

Судовы Выканаўца, прыймаючы пад увагу сямейна-маемаснае становішча даўжніка, разьмеры доўгу і пахаджэньне гэткага, і, кіруючыся арт. 334 ГПК, пастанавіў: утрымліваць з пэнсіі В. Я. Жылінскага па 12 проц., г. зн. па 9 руб. у месяц, абавязаўшы яго пакрыць адначасна зьверх таго пры першым узносе каштоўнасьць страт справаводзтва і таксыйных.

Судовы выканаўца (*подпіс*).

---

*Да арт. 82.*

Н. К. Ю.

СУДОВЫ ВЫКАНАЎЦА

Г. МЕНСКУ

*11 га кастрычніку 1926 г.*

*№ 316.*

У Народны Суд 1-га вуч. г. Менску.

Па спагнаньню з Жылтаварыства № 12 на карысьць гр-на Квяткоўскага мною была ўручана позва 3-й асобе гр. Пётру Ніканоравічу Карманаву, які жыве па Ленінскай вул. у д. № 43, кв. 5, у парадку арт. 337 і 338 ГПК. З тае прычыны, што да сучаснага моманту ад яго ніякага водзыву не паступіла, то па патрабаваньню спагнальніка прадстаўляю аб гэтым народнаму суду для вынясеньня пастановы аб аштрафаваньні П. Н. Карманава паводле арт. 340 ГПК.

Копію позвы на імя Карманава і яго расьпіску прадстаўляю.

Судовы выканаўца *Груштэйн*

---

*Да арт. 112.*

## ГАНДЛЁВЫ ЛІСТ.

24-га кастрычніка 1923 г. Судовы выканаўца Менскай акругі на падставе арт. арт. 345, 346, 354—356 ГПК вытвараў публічную прадажу маемасьці гр-н Барыса, Тодара і Васіля Пятровічай і Ганны і Варвары Тодаравых Івановых, на здавальненьне спагнаньняў гр-кі Веры Ігнасевай Фёдаравай па выканальнаму лісту народнага суду гор. Менску ад 12-га мая 1926 г. за № 724, паводле вопісі ад 20 верасьня г. г.

Перад пачаткам торгу заявілі жаданьне ўдзельнічаць у таргох:

1) Гр. Фрыдрых Каролявіч Дзітмарштэйн прадставіў пасьведчаньне МКГ ад 10-га месяца за № 18732 і залогу 300 руб. (квіток № 824). 2) Сусанна Майсеяўна Наркізьян пасьведчаньне МКГ ад 15-га месяца за № 18607 і залог грашыма 300 руб. (квіток № 825). 3) Варфаламей Карпавіч Сідараў, пасьведчаньне МКГ ад 18 г. г. за № 19100 і залог у 297 руб. (квіток № 827).

Усе ўдзельнікі, акрамя таго далі падпіскі па арт. 354 прыкладзеныя да гэтага. Торг пачаўся ў 1 г. 45 м. дню.

Потым пасьля пачатку торгу заявіў аб удзеле ў таргох і грамадзянін Пётра Кірылавіч Дамашка, прадставіў пасьведчаньне МКГ ад гэтага чысла за № 19311, залог у суме 500 руб. (квіток № 828) і далі падпіску.

Вышэйшая цана сем тысяч трыста семдзесят пяць (7. 375 руб.) прапанована гр-н Варфаламеем Карпавічам Сідаравым за каторым маемасьць і засталася.

Судвыканаўца-Мінкевіч.

Вышэйшую цану 7.375 руб. прапанаваў, астатнюю суму за залічэньнем унесенага залогу і доўгу па закладной на імя Б. П. Вастракова ў суме 1500 руб. усяго (5.508 руб.) пяць тысяч пяцьсот восем руб. абавязуюся ўнесьці не пазьней 7 дзён.

В. Сідараў.
Судвыканаўца Мінкевіч.
Барыс Іваноў.
Фёдарава.

Залогі назад атрымалі: Фрыдрых Дзітмарштэйн, С. Наркізьян, П. К. Дамашка.

З арґіналам верна:

Судвыканаўца (подпіс) *Мінкевіч.*

СПРАЎКА: Пакулацель В. К. Сідараў пяць тысяч пяцьсот восемдзесят восем руб. гатоўкай ўнёс 28 гэтага кастрычніка пад квіток № 914. Адна тысяча пяцьсот руб. доўгу па залогу маемасьці гр-ну Б. П. Вастракову, якая належыць быць переведзена на яго.

Судовы выканаўца *Мінкевіч.*

---

## Абежнікі Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

### аб пашырэньні складаў прэзыдыумаў некаторых акруговых калегій абаронцаў.

*Усебеларускаму Аб'яднаньню Калегіі Абаронцаў і усім Акруговым Калегіям Абаронцаў.*

*Копія ўсім Акрсудом.*

Паводле п. 5-га інструкцыі НКЮ за 18-га сьнежня 1925 году за № 97 прэзыдыумы акруговых калегій абаронцаў абіраюцца ў складзе 3-х членаў і 2-х кандыдатаў да іх.

Прыймаючы пад увагу значнае пашырэньне дзейнасьці калегій абаронцаў, асабліва ў найбольш буйных акруговых цэнтрах, дзе маецца значная колькасьць членаў калегій абаронцаў і дзе найбольш шырока разгарнута грамадзкая і іншая іх дзейнасьць. Народны Камісарыят Юстыцыі, ў зьмену п. 5-га вышэйпаказанай інструкцыі НКЮ за 18-га сьнежня 1925 г. за № 97, устанаўляе для паасобных акруговых калегій абаронцаў наступны склад іх прэзыдыўмаў:

1. для Менскай—9 членаў і 2 кандыдаты да іх;
2. для Віцебскай—7 членаў і 2 кандыдаты;
3. для Гомельскай—5 членаў і 2 кандыдаты і
4. для астатніх—3 члены і 2 кандыдаты.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Эднэрал.*

2 студзеня 1928 г.
№ 1.

---

### аб прысуджэньні членам калегій абаронцаў ўзнагароды за выступленьні ў судзе ў якасьці абаронцаў па прызначэньні суду.

*Усім Акруговым і Народным Судом.*

*Копіі Прэзыдыумам Калегій Абаронцаў.*

Паводле цыркуляру НКЮ за 10-га сьнежня 1925 г. за № 87, члены калегіі абаронцаў, якія ўдзельнічаюць у працэсах па прызначэньні суду ў якасьці абавязковых абаронцаў у выпадках, прадугледжаных арт. 55 КПК, маюць права на атрыманьне ўзнагароды за выступленьне ў судзе па вызначэньні суду, у межах і ў выпадках, паказаных у адзначаным цыркуляры.

Між тым, як відаць з паведамленьняў некаторых акруговых калегій абаронцаў, адзначаны цыркуляр НКЮ на практыцы амаль што зусім не ўжываецца.

З прычыны гэтага Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе:

Пры вынясеньні прыгавароў па справах, у якіх удзельнічалі ў якасьці абаронцаў члены калегіі абаронцаў па прызначэньні суду, абавязкова ўваходзіць у абмеркаваньне пытаньня аб прысуджэньні паказаным членам калегіі абаронцаў узнагароды за выступленьне ў судзе, вызначаючы разьмер гэтай узнагароды паводле цыркуляра НКЮ за 10 сьнежня 1925 г. за № 87.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Эднэрал.*

2 студзеня 1928 г.
№ 2.

Цана 80 кап.

# АБВЕСТКА.

## ПРЫЙМАЕЦЦА ПАДПІСКА НА 1928 г.

НА ЧАСОПІСЬ

# „РЭВАЛЮЦЫЙНАЯ ЗАКОННАСЬЦЬ“

**ПАД РЭД.: М. Сэгаля, С. Гохмана, С. Эднэрала, А. Варашылава, Н. Міхайлава, А. Судакова, Ф. Гаўзэ і Я. Кроля.**

У часопісі прыймаюць удзел выдатныя навуковыя і практычныя працоўнікі БССР.

**У СКЛАД СУПРАЦОЎНІКАЎ УВАХОДЗЯЦЬ:**

Банін К. В., Барышаў І. Г., Бярговін (Мазыр), Бутар (Віцебск), Белянец Б. М., (Ворша), Быхаўскі Н. В. (Гомель), Варашылаў А. Г., Праф. Вальфсон С. Я., Ватацы Б. Ф , Вайскабойнікаў М Я., Валькенштэйн (Гомель), Вішнеўскі А. І., Гохман С. М., Гаўзэ Ф. І., Праф. Грэдынгер, Гарт М., Гарцман Д., Гінцбург У. Г., Гуткоўскі М. М., Гурэвіч Я. Г. (Гомель) , Глезераў Б., Генкін Б., Гольбрайх, Гуло У. М. (Мазыр), Добрас Г. Ф., Дубровін Д. Я. (Магілеў), Жылінскі А. С., Зыбко І. В , Кіш Я. Я., Кроль Я. М., Кудзельскі Р. С. (Віцебск), Карначоў А. М., Кацін Г. І., Кароткін І. І. (Гомель), Кісельгоф З. А. (Бабруйск), Кіпарысаў А. М., Корт І. Я. (Магілёў), Курачкін Н. К., Канакоцін, Крэйнес С. Я., Казакевіч (Магілёў), Карсак, Лійц І. Ф., Праф. Ленц, Ліндэ (Масква), Лаўрэнцыцяў С. В. (Бабруйск), Лэйланд (Полацк), Міхайлаў Н. Я., Малёнак М. П., Мароз М., Мінчонак А. Р. (Віцебск), Макуня Н. М., Міркулаў Я. С., Несьцер С. А., Нікольскі (Гомель), Парэчын Г. Я., Праф. Пічэта У. І., Пінкіс (Бабруйск), Радзівон М. Я. (Ворша), Рахманін С. П., Рэзьнікаў С. М. (Гомель). Розенблюм М., Сэгаль М. А., Судакоў А. С., Слонім, Сідлярэўскі А. Г., Савіцкі (Ворша), Слупскі С., Сарак Я. Л., Сокалаў (Смаленск), Сіліч Я. М. (Віцебск), Тамашук Я. І. (Полацьк), Угараў Н. Р., Уладаўскі М. Д. (Віцебск), Уласаў, Фрыдман І. Н., Файнбург, Цыніт П. П. (Віцебск), Цэйтлін В. Я., Доктар Чарвакоў В. Т., Чарняўскі Г. А., Чарняўскі (Мазыр), Часьцякоў З. І., Праф. Шыраеў, Штаер С. С., Шпакаў, Шэйдлін (Гомель), Шабунін (Віцебск), Шапіра, Эднэрал С., Юдзін і інш. прац.

**ЧАСОПІСЬ „РЭВАЛЮЦЫЙНАЯ ЗАКОННАСЬЦЬ“**

## ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У МЕСЯЦ.

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

**на год—4 руб.; на 6 мес.—2 р. 10 к.; на 3 мес.—1 р. 10 к.**

**АСОБНЫ НУМАР 40 КАП.**

Падпіску і грошы накіроўваць: Выдавецтва Народнага Камісарыяту Юстыцыі (Менск, вул. Карла Маркса, д. № 5).